# НАШ КРАЙ




№ 1 (40) 1929 СТУДЗЕНЬ

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК



№ 1 (40) Студзень 1929

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЯТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1929

# Дарэволюцыйныя сельска-гаспадарчыя гурткі і краязнаўства.

*(Да гісторыі краязнаўства на Беларусі).*

Распрыгоненае Кастрычнікавай рэволюцыяй социяльна і нацыянальна беларускае працоўнае сялянства зараз вольна разьвівае сваю гаспадарку пры дапамозе Савецкай улады. Для гэтага сяляне на вёсцы ў апошні час асабліва часта організуюцца ў колектывы і таварыствы самага рознага характару, а таксама сельска-гаспадарчыя гурткі пры раённых агрогабінэтах, хатах-чытальнях, культсэкцыях, сельсаветах і г. д. У сельска-гаспадарчых гуртках сяляне знаёмяцца з найноўшымі дасягненьнямі сельскай гаспадаркі і спосабамі яе палепшаньня, а таксама, пры дапамозе гурткоў, закладваюць дасьледныя дзялянкі на сваіх палёх, г. зн. выконваюць краязнаўчую працу ў прыродазнаўча-сельска-гаспадарчым кірунку. Такіх сялян-краязнаўцаў налічваецца вельмі многа; з адным Навукова-Дасьледчым Інстытутам Сельскай і Лясной гаспадаркі імя Леніна зараз зьвязваецца звыш 1000 іх.

Мясцовыя сельска-гаспадарчыя гурткі на Беларусі былі і да Кастрычнікавае рэволюцыі. Толькі асабовы склад іх і характар чыннасьці быў зусім іншы. У той час як зараз мясцовыя сяляне ў гэтых гуртках паляпшаюць сваю гаспадарку на сваю карысьць і ў дапамогу социялістычнаму будаўніцтву, дарэволюцыйныя краязнаўчыя гурткі складаліся галоўным чынам з памешчыкаў і мелі на мэце іх інтарэсы.

Першаўзорам гэтых гурткоў, як відаць, зьяўляецца вядомае Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства, якое адчынілася дзякуючы ўрадавай ініцыятыве. Генэрал-губарнатар Віцебскай, Магілеўскай, Смаленскай і Калускай губ. 29 траўня 1824 году прапанаваў губэрскім маршалкам дваранства ўкласьці статут і заснаваць Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства, „мэтаю якога павінна зьяўляцца распаўсюджваньне ведаў аб удасканаленьні ратайства, іншых частак сельскага дамаводзтва і рознага роду ручное працы, а таксама рознастайная дапамога давядзеньню іх да лепшага ладу“ [1]).

Справа ішла дужа паволі, але Хаванскі свайго дабіўся. „Дваранства, спачуваючы добрым намерам галоўнага над Беларусьсю начальства, згадзілася заснаваць Таварыства, якое-б, уразумеўшы сучасныя акалічнасьці гаспадаркі і сельскай прамысловасьці Віцебскай і Магілеўскай губ., адшукала-б сродкі для папраўленьня іх, зьвярнула-б свае клопаты спачатку на тыя прадметы, якія найбольш належаць да карысьці гэтага краю, і пасьля, пашыраючы кола сваіх дзеяньняў, заня-

---

[1]) Труды первого областного с'езда сельских хозяев в гор. Двинске в 1903 г., Віцебск 1904, ст. XXV.

лося-б сучасным удасканаленьнем усіх наогул галін сельскага дамаводзтва, уласьцівых Беларусі“[1]). Былі ўкладзены статуты ў Магілеве і Віцебску, пасьля пагоджаны, і заснавана ў Віцебску Беларускае Вольна-Экономічнае Таварыства. Адчыненае Таварыства імкнулася дасягнуць свае мэты наступнымі сродкамі: а) выдаваць награды за здавальняючае рашэньне задач, якія будуць ад Таварыства прапанаваны, за вядзеньне новай сыстэмы гаспадаркі, або часткі яе, па настаўленьнях Таварыства; за вынайдзеньне і ўдасканаленьне спосабаў да паляпшэньня ў Беларусі ўсіх галін гаспадаркі, як: ратайства, жывёлаводзтва, ручной працы і сельскай прамысловасьці; б) правяраліся досьледамі спосабы апрацоўкі зямлі, прызнаныя карыснымі ў гаспадарцы; в) паведамляць памешчыкаў абедзьвюх беларускіх губэрань аб тым, што будзе прызнана Таварыствам за карыснае і г) організаваць асобную фэрму, дзе будуць рабіцца розныя спробы ўгнаеньня зямлі, дзе зямля будзе апрацоўвацца лепшымі спосабамі і палягчаючымі працу прыкладамі, дзе будуць сеяць кармавыя травы і іншыя карысныя расьліны і будаваць неабходныя ў гаспадарцы будовы, найбольш выгадныя і найтанейшыя. Згодна статуту запраўднымі членамі Таварыства маглі быць толькі памешчыкі-дваране абедзьвюх беларускіх губэрань. У іх абавязкі ўваходзіла друкаваньне прац па сельскай гаспадарцы з дапасоўваньнем іх да ўмоў Беларусі. Але дзейнасьць Беларускага Вольна-Экономічнага Таварыства складалася пераважна з эксплёатаваньня дасьледнага хутара на паёх[2]). Усё-ж у 1841 годзе ў тагочасным Пецярбурзе была выдадзена „Летопись белорусского общества сельского хозяйства“ на 128 старонках памерам у восьмую частку аркуша, у якой былі зьмешчаны артыкулы аб: а) плузе; б) цэгле; в) маку; г) крапіве; д) карольках; е) махавых стрэхах; з) арашэньні сенажацяў, ё) падзяжы быдла; ж) падземе; з) навальніцы; і) шкодзе сяліцца малымі пасёлкамі; к) праве вольнага вінакурэньня ў Беларусі; л) спосабе замяніць падушны падатак; м) беларускай флёры; н) жыцьцярыс пастара Нефера і інш.

Пазьней існаваў шэраг падобных таварystваў „сельскіх гаспадароў“, як Менскае і інш., але нас зараз цікавяць пераважна мясцовыя сельска-гаспадарчыя гурткі, якія і організацыйнымі формамі і задачамі сваімі вельмі мала чым розьніліся ад памянёных таварystваў. З ліку гэтых гурткоў можна назваць Зембінскі, Клецкі, Рудакоўскі і інш. Засноўваліся яны мясцовымі памешчыкамі з мэтай палепшаньня гаспадаркі ў маёнтках і павялічэньня зыску як з апошніх, так і з ваколічных сялян. Але большасьць памешчыкаў на Беларусі лічыла сябе палякамі і ўрад, баючыся ўтварэньня на Беларусі моцных супроцьрасійскіх пляцовак, ня вельмі ахвотна даваў дазвол на адчыненьне такіх гурткоў. З боку губарнатараў рабіліся ўсялякія прыдзіркі. Але якой-бы злоснай ня была барацьба расійскіх дваран і польскіх паноў за Беларусь, яна не магла ня ўціхаць перад нарастаючым сялянскім рэволюцыйным рухам. Польскія паны і расійскія губарнатары змушаны былі солідарызавацца ў змаганьні з апошнім. І, дзякуючы гэтаму, губарнатары ўсё-ж дазвалялі адчыненьне гурткоў з найбольш лояльным да былой Расіі складам членаў. Так, статут Зембінскага земляробчага гуртка быў зацьверджаны 29 сакавіка 1907 году па заяве заснаваўцаў ад 9 лютага 1907 году; статут Рудакоўскага—12 чэрвеня 1908 году;

[1]) Таксама, ст. XIX.
[2]) Пар. „Наш Край“, Менск, 1926, № 2-3, ст. 3—14.

Клецкага—26 лютага 1909 году па заяве ад 28 лютага 1907 году і г.д.[1]). Заснаваўцамі Зембінскага гуртка б. Барысаўскага пав. былі 12 памешчыкаў і 1 земскі начальнік, Клецкага—5 памешчыкаў, Рудакоўскага—3 памешчыкі, 2 мешчаніны і 3 селяніны. Апошні гурток быў заснаваны фактычна адным памешчыкам, бо другія былі нават з іншых губэрань, а мяшчан і сялян (з якіх адзін быў няпісьменны) ён прыцягнуў, каб мець патрэбны лік заснаваўцаў. Дзякуючы ўсяму гэтаму Рудакоўскі гурток б. Рэчыцкага пав. чыннасьці ня мог распачаць, тым больш, што сам заснаваўца хутка выехаў адтуль, і гурток быў зачынены 15 ліпня 1910 году.

Статуты ўсіх гурткоў мала чым розьніліся адзін ад аднаго. Найлепш распрацаваны быў статут Клецкага земляробчага гуртка б. Слуцкага пав. Раёнам чыннасьці яго былі наступныя воласьці б. Слуцкага пав.: Клецкая, Сіняўская, Грыцавіцкая, Заастравецкая, Ланьская, Кругавіцкая, Ляхавіцкая і Мядзьведзіцкая. Згодна параграфу чацьвертаму гурток меў мэтаю дапамогу разьвіцьцю сельскай гаспадаркі і сельскагаспадарчай прамысловасьці, а таксама палепшаньне быту сваіх членаў. Сярод спосабаў, якімі гурток хацеў дасягаць свае мэты, ёсьць і краязнаўчыя, а ўласна: арганізаваньне дасьледных палёў і мясцовых узорных дробных гаспадарак, экскурсыйны агляд лепшых гаспадарак, наладжваньне мясцовых выставак і д. т. п.[2]). Для выкананьня гэтых задач статутам Рудакоўскага земляробчага гуртка дазвалялася членам адчыняць падпіску на арганізаваньне такіх выставак, дасьледных палёў, чытаньняў і г. д.[3]). Згодна параграфу пятаму свайго статуту Клецкі гурток у 1912 годзе адчыніў контрольны саюз (сэкцыю) для падняцьця вытворчай здольнасьці кароў шляхам рацыянальнага кармленьня. Падлівам корму і атрыманага малака сэкцыя мела знаёміцца са здольнасьцю мясцовых і чужаземных гатункаў быдла скарыстоўваць корм. Ня гледзячы на тое, што, згодна ўмовам часу адносна прыёму членаў статут Клецкага гуртка быў больш лібэральны за статут Беларускага Вольна-Экономічнага Таварыства[4]), наяўны склад членаў гэтага гуртка сьцярог сваю клясавасьць. Таму ён хацеў мець членаў памянёнай сэкцыі з сялян, але не хацеў іх прымаць у члены гуртка. Дасьледваньне малочнасьці мясцовых гатункаў быдла вымагала сувязі з мясцовымі сялянамі, а панскія інтарэсы не дазвалялі мець сялян членамі гуртка. Каб унікнуць гэтай супярэчнасьці, гурток зьвярнуўся да губарнатара з просьбай зацьвердзіць палажэньне аб сэкцыі, у якім-бы значылася, што ня члены гуртка могуць быць членамі сэкцыі. Але губарнатар, як відаць, убачыў у гэтым нешта крамольнае і дазволіў рабіць досьледы малочнасьці толькі таго быдла, якое належыць членам гуртка[5]).

Іншых вестак аб краязнаўчай чыннасьці гэтых гурткоў, ды і Капыльскага таварыства сельскай гаспадаркі, заснаванага ў 1906 годзе,—

---

[1]) Цэнтрархіў (Менск). Справы аб зацьверджаньні Менскім губэрскім па справах аб таварыствах прысутцтвам земляробчых гурткоў: Рудакоўскага—ад 28.III.1908, № 17; Клецкага—ад 10.III.1907, № 14; Зембінскага—ад 10.III.1907, № 4 і інш.

[2]) Цэнтрархіў (Менск). Справа аб зацьверджаньні Клецкага земляробчага гуртка ад 10.III.1907, № 14; а таксама „Устав Клецкаго Земледельческаго кружка". Несьвіж 1909, п. 5.

[3]) Цэнтрархіў (Менск). Справа аб зацьверджаньні Рудакоўскага земляробчага гуртка ад 28.III.1908. № 17.

[4]) Устав Клецкаго Земледельческаго кружка, Несвиж 1909, п. 9.

[5]) Цэнтрархіў (Менск). Справа аб зацьверджаньні Клецкага Земляробчага гуртка ад 10.III.1907, № 14.

няма. Яна наогул была вельмі нязначнай, бо галоўная ўвага праўленьняў была зьвернута на выкананьне галоўных задач гурткоў, а ўласна на павялічэньне матар'яльных прыбыткаў сваіх членаў.

Такім чынам нават невялікая краязнаўчая чыннасьць дарэволюцыйных сельска-гаспадарчых гурткоў была памешчыцка-клясавай і варожай інтарэсам мясцовага сялянства.

*М. Касьпяровіч.*

---

**Янка Марук.**

# Краязнаўчая праца студэнцтва.

*(Студэнцкае Навукова-Дасьледчае Т-ва Краязнаўства Беларускага Дзяржаўнага Ун-ту).*

## I. Агульныя заўвагі.

З кожным годам краязнаўчы рух на Беларусі расьце і паглыбляецца. Апрача стала працуючых раённых краязнаўчых таварыстваў, узьнікаюць пры сельсаветах, школах, заводах, савецкіх установах краязнаўчыя гурткі. Кожнай гэтай організацыяй вядзецца нейкая праца. Зьбіраюцца, апісваюцца дасьледваюцца новыя і-новыя матар'ялы аб сучасным і мінулым Беларусі. Выпускаецца для гэтай мэты спэцыяльная, мэтодычная, непэрыодычная і пэрыодычная літаратура, як часопіс „Наш Край“ ды інш. Дзяржава па магчымасьці дапамагае краязнаўчым організацыям сродкамі. Краязнаўства ахапіла шырокія колы савецкага грамадзтва. Рабочы, селянін, працоўны інтэлігент (пачынаючы з вучня і канчаючы настаўнікам, доктарам, аграномам і г. д.) узяліся ня толькі за савецкае будаўніцтва новага жыцьця, новай грамады, але адначасна за вывучэньне і дасьледваньне сваёй краіны. Бо будаваць дзяржаву, організоўваць экономіку, будаваць культуру нельга, ня вывучыўшы мінулага, а таксама і сучасных процэсаў, прыродных і грамадзкіх асаблівасьцяй краіны. Краязнаўчая праца злучае з навукай і селяніна, занятага земляробскай працай, і рабочага, які працуе на заводзе і фабрыцы. Краязнаўства дэмократызуе навуку, дае магчымасьць кожнаму заняцца вывучэньнем і дасьледваньнем. Рабочы і селянін могуць таксама займацца навуковай справай, рабіць навукова-дасьледчыя працы, вынаходзіць новыя адкрыцьці. У сучасным жыцьці гэта часта сустракаецца. Так, напрыклад, у Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве ёсьць спэцыяльна надрукаваныя кніжкі па сельскай гаспадарцы, напісаныя селянінам, якія маюць вялікае навуковае і практычнае значэньне. Сяляне-дасьледчыкі, як Мароз, Савіч ды інш. цяпер вядуць свае досьледы пры дапамозе Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна. Цяпер патроху сьціраецца мяжа між навукаю і фізычнаю працаю. Вучоны краязнаўца Дзенс-Літоўскі кажа: „толькі зьбліжэньнем навукі з масамі, унясеньнем яе ў гушчу народу магчыма запраўды падняцьце дабрабыту і культурнага ўзроўню мас“. А. Максім Горкі разам з намі захапляецца краязнаўствам і адзначае, што дагэтуль прывыклі глядзець на краязнаўства, як на лёгкае зьбіраньне розных чарапкоў, каменчыкаў, лічачы гэта забавай для сябе.

Мы ня прывыклі ў краязнаўстве бачыць вывучэньне вытворчых і прыродных сіл краіны, усебаковага вывучэньня экономікі і культур-

на-грамадзкіх працэсаў. А ў Савецкім Саюзе краязнаўства такі шлях цяпер праводзіць. Наша сучаснае краязнаўства шмат розьніцца ад краязнаўства мінулага.

Цікава адзначыць, што ўдзел студэнцтва ў мінулых дарэволюцыйных краязнаўчых організацыях быў зусім нязначны. Студэнцтва менш за ўсё магло захапляцца практычнымі пытаньнямі, як напрыклад, краязнаўча-навуковым.

Як і што цяпер робіцца нашым студэнцтвам у практычных разьвязаньнях тых проблем, якія ставяцца сёньнешнім жыцьцём? Ці ідзе наша студэнцтва ў разьвязаньні гэтых проблем наперадзе грамадзтва? Мне здаецца, што не. Студэнцтва параўнаўча шмат адстае ад рабочага і селяніна, якія ўзяліся за будаўніцтва і разам з тым за вывучэньне краіны, гэта значыць, за краязнаўчую працу, а калі і працуе, то вельмі абмежаваная групка, паасобныя аматары, энтузыясты, а ня ўся студэнцкая маса. І тут віна выключна студэнцкіх організацый, якія яшчэ і сёньня аддаюць вельмі мала ўвагі краязнаўчай студэнцкай навукова-дасьледчай рабоце ў нашых ВНУ. І яно зразумела, наша студэнцтва яшчэ выкрасталізоўваецца, афармляецца і покуль што яно, студэнцтва, ставіць у першую чаргу наступныя патрэбы: залік, стыпэндыя і кусок хлеба, а навука, літаратура, мастацтва і наогул навукова-дасьледчая краязнаўчая праца знаходзяцца на другім-трэцім месцы.

Дзяржава патрабуе ўжо ад студэнцтва добрых спэцыялістых, якія ведаюць справу. І мы бачым, што ВНУ ўдасканальваецца ў гэтым кірунку. Сёньня ўжо ад студэнцтва вымагаецца большае запатрабаваньне, пры паступленьні ў ВНУ, так і ў час акадэмічнай працы. Цяпер у ВНУ організацыйна-грамадзкая работа, якая, да рэчы сказаць, была актуальна ў свой час, пераходзіць у новую фазу, фазу падрыхтоўкі новых грамадзкіх спэцыялістых. Уся грамадзкая, культурна-асьветная праца ў ВНУ мяняецца па зьместу і прыстасоўваецца да новых запатрабаваньняў Савецкай дзяржавы і студэнцтва.

## II. Кароткая гісторыя студэнцкага Навукова-Дасьледчага Краязнаўчага Т-ва.

Нам нельга замыкацца толькі ў чысты акадэмізм, ня прымаць удзелу разам з рабочымі і сялянствам у савецкім будаўніцтве. А ўдзел магчымы тады, калі студэнт практычна будзе добра падрыхтаваны і добра знаёмы з мясцовымі ўмовамі. Практычны ўдзел павінен выяўляцца ў працы краязнаўства. Ніхто іншы, як студэнцтва, культурная сіла пролетарыяту, можа дапамагчы рабочаму і селяніну будаваць сваю дзяржаву, а шлях к гэтаму і ёсьць вывучэньне сваёй краіны. Вось чаму паўстала пытаньне аб організацыі студэнцкага навукова-дасьледчага краязнаўчага таварыства пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце. Праўда, ня меншым стымулам для організацыі таварыства паслужыла і тое, што ўжо існаваў, пачынаючы з самага існаваньня Бел. Дзярж. Ун-ту, цэлы шэраг аматарскіх навуковых гурткоў, як краязнаўчага характару, гэтак і тэорытычна-спэцыяльнага пры катэдрах. Мы бачым, што ўзьнікненьне тых організацый вымагалася самым жыцьцём Унівэрсытэту. Але гэтыя гурткі працавалі бяз сыстэмы, бяз пляну, без кіраўніцтва студэнцкіх і грамадзкіх організацый. І была зусім зразумела абавязковая патрэбнасьць у сваечасовай організацыі студэнцкага навукова-дасьледчага краязнаўчага таварыства, якое

організавалася з аматарскіх прыватных гурткоў у 1925-26 акадэмічным годзе.

Першы год сваёй працы таварыства дало слабыя вынікі—амаль нічога ня было зроблена, бо ня было тады грамадзкай увагі, падтрыманьня, ня было адпаведных адказных організатараў краязнаўчай справы. Т-ва з вузкіх аматараў краязнаўства працавала бяз сыстэмы, агульнага пляну, статуту, займалася гурткоўшчынай. І толькі на другі акадэмічны 1926-27 год, калі на чале таварыства (было абрана Праўленьне ў складзе: проф. рэктар БДУ Пічэта—старшыня, Я. Марук—нам. старшыні, членаў: Аніхоўскага, Улашчыка, Бараноўскага, Сянкевіча ды інш.) сталі больш працаздольныя, поўныя энтузыязму, захапленьня, адданасьці справе Беларусі—людзі, т-ва шырока разгарнула сваю работу. У гэтым-жа годзе быў распрацаваны разам з ЦБК статут, які пасьля і лёг у аснову статуту для ўсіх студэнцкіх краязнаўчых організацый Беларусі. З статутам, з распрацаваньнем гадавога пляну, програм, вызначыліся організацыйныя формы (камісія, сэкцыя, т-ва, кіраўнічыя организацыі: бюро сэкцыі, праўленьне т-ва, пленум, сход т-ва) і знойдзены зьмест усёй работы т-ва.

### III. Якія мэты ставіць Навукова-Дасьледчае Краязнаўчае Т-ва.

Пры наяўнасьці і концэтрацыі навуковых і культурных сіл у Унівэрсытэце можна ставіць больш шырэйшыя задачы, чымся можа любая краязнаўчая організацыя сельсавету, раёну, акругі. Там яна, краязнаўчая організацыя, можа быць больш пасыўнай, зьбіраць толькі матар'ялы, а нашым т-вам акрамя гэтага ёсьць магчымасьць заняцца і дасьледваньнем усіх тых пытаньняў, як практычна, так і тэорытычна. Нашым т-вам пастаўлена і праводзіцца праца агульна-дзяржаўнага навуковага значэньня. Наша т-ва ставіць перад сабой больш шырокія задачы і пэрспэктывы. Якія-ж мэты і задачы ставіць студэнцкае навукова-дасьледчае краязнаўчае т-ва?

1. Агульна-рэспубліканскія задачы: гэта вывучэньне сваёй краіны—Беларусі ў прыродазнаўча-географічным, соцыяльна-экономічным, культурна-гістарычным кірунках шляхам зьбіраньня краязнаўчага матар'ялу, як індывідуальна, а таксама шляхам экспэдыцый, экскурсій, камандыровак.

2. Неабходныя і блізкія патрэбам студэнцтва, як далейшае завяршэньне акадэмічных пытаньняў—гэта навукова-дасьледчая распрацоўка ўжо сабраных матар'ялаў.

3. Патрэбна як для рэспублікі, унівэрсытэту і абавязкова для студэнцтва—гэта падрыхтаваць сябе да практычнай працы ў далейшым. Падрыхтаваць організаваным парадкам сваіх навуковых з краязнаўчым ухілам працаўнікоў, даць ім магчымасьць самастойна выявіць сябе практычна ў навуковым кірунку.

4. Падрыхтаваць з студэнцтва мэтодыстых і організатараў краязнаўчага руху. З гэтай прычыны нам трэба навокал гэтага т-ва аб'яднаць усю савецкую навукова-крытычную думку лепшай часткі нашага студэнцтва і даць свой кірунак. Організацыя павінна быць тым Інстытутам для студэнцтва, для вылучэньня навуковых працаўнікоў, чаго ў сучасны момант, па некаторых об'ектыўных умовах, мы яшчэ не дабіліся.

## IV. Работа ў арганізацыйным кірунку.

Што зроблена т-вам і якое становішча яго працы? Задачы і мэты, пастаўленыя т-вам, вялікія і адказныя. За гэтую працу трэба брацца вельмі асьцярожна, каб не скомпромэтаваць навать сябе ў вачох навуковых і грамадзкіх працаўнікоў. Трэба правільна раз назаўсёды вызначыць арганізацыйныя і мэтодычныя формы працы т-ва. Трэба быць вельмі ўважлівымі, каб правільна кіраваць гэтай работай, каб трапна выкарыстоўваць навуковых працаўнікоў. Такія формы і зьмест працы цяпер мы маем, але яны яшчэ ня зусім удасканалены. Нам неабходна дабіцца належных адносін з боку студэнцкіх, грамадзкіх і іншых арганізацый. Патрэбна наяўнасьць адпаведных арганізатараў, сродкаў і памяшканьня. І нарэшце, патрэбна шырокая ініцыятыва, зацікаўленасьць з боку ня толькі нашага сучаснага актыву, а шырокай масы студэнцтва. А гэта, на жаль, у працы т-ва ў значнай меры адсутнічае. Зразумела, што пры такім палажэньні цяжка выконваць пастаўленыя т-вам задачы і мэты. Але, ня гледзячы на гэта, т-ва шмат і шмат дасягнула за апошні год у сваёй працы. Яно дало карысьць як для дзяржавы, так і для БДУ ў прыватнасьці. Трэба зазначыць, што цяжкасьць працы залежыць і ад таго, што формы арганізацыі работы краязнаўства на Ун-це выпрацоўваюцца паступова самім жыцьцём. Мы ня маем вопыту такіх арганізацый. Нашае студэнцкае т-ва зьяўляецца першым пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, пры іншых-жа ВНУ СССР такіх арганізацый няма, а калі ёсьць, то з вельмі вузкімі формамі працы.

І толькі ў 1926-27 годзе т-ва распачала работу пры трох сэкцыях: а) мэдычнай, б) культурна-гістарычнай і в) соцыяльна-гістарычнай, а к канцу 1927 году былі арганізаваны яўрэйская і прыродазнаўча-геаграфічная сэкцыі. Т-ва з некалькіх дзесяткаў паасобных аматараў вырастае к гэтаму часу ў масавую арганізацыю ў 170 чалавек. Акрамя арганізацыйнай і мэтодычнай работы была шырока арганізавана навукова-дасьледчая работа; былі распрацаваны і заслуханы навукова-дасьледчыя даклады па сэкцыях: *мэдычная*—„Як і чым лечыцца наша вёска“ (т. Гарбач), даклад надрукаваны ў часопісе „Мэдычная думка“. „Вальляк на Меншчыне, Віцебшчыне і Аршаншчыне“ (т.т. Бірыла і Андрэеў); „Санітарна-гігіенічны досьлед Асіпавіцкага раёну“ (т. т. Лагун і Тамковіч); „Санітарна-гігіенічны досьлед Ісэрнскага сельсавету на Случчыне“ і „Як адбіліся хваробы на народнай творчасьці“—(т. Бараноўскі); „Лекавыя травы на Беларусі і іх ужытак у народнай мэдыцыне“—(т. Андрэеў). *Культурна-гістарычная*—„Дасьледваньне цячэньня ракі Сьвіслачы—(т. Улашчык); „Аб раскопках у Заслаўлі“—(т. Каваленя); „Гісторыя „Маладняка“—(т. Александровіч); „Гісторыя міліцыі і гісторыя крымінальнага вышуку“—(т. Потэс). Усе гэтыя працы большай часткай ужо надрукаваны, а даклад аб гісторыі міліцыі і крымінальнага вышуку выданы асобным выданьнем.

У 1926-27 г. удалося з вельмі абмежаванымі чуць ня выжабраванымі сродкамі правесьці першую ў Бел. Дз. Ун-це студэнцкую экспэдыцыю ў Тураўскі раён Мазырскай акругі. Гэтая экспэдыцыя (у складзе: студэнтаў Аніхоўскага—адказны кіраўнік, Адзінца, Бараноўскага Яз., Юрашкевіча, Улашчыка, Бараноўскага К., Сьмірновай, Лагуна, Зыкавай, Пастуховіча, Каржанеўскага, Шутава, Кавалені, Мельцара, Касяловіча, Гісака, Аўчыньнікава і на чале навуковых работнікаў: проф.

Бузука, асыст. Зьбіткоўскага, доктара Магілеўчыка) паставіла мэты: а) па мажлівасьці ўсебакова дасьледваць і вывучыць раён у кірунку соцыяльна-экономічным, культурна-гістарычным і прыродазнаўча-географічным, каб пасьля экспэдыцыі ўвесь сабраны матар'ял навукова апрацаваць і выдаць асобным зборнікам; б) прылажыць усе тэорытычныя веды да практыкі, дзе, замест літаратурнага і сырога крынічнага матар'ялу, студэнту прыдзецца спаткацца з жыцьцёвымі фактамі; в) шырока популярызаваць краязнаўчую працу і організацыі, прачытаньне дакладаў па асобных галінах сучаснага жыцьця; г) уцягнуць у працу экспэдыцыі мясцовых краязнаўцаў і абмяняцца вопытам працы; д) наладзіць цесную сувязь краязнаўчага т-ва пры Бел. Дз. Ун-це з нізавою сеткаю краязнаўчых організацый, каб захоўваць і трымаць яе ўдалейшым.

Экспэдыцыя ў Тураўшчыну зрабіла вялікую навукова-дасьледчую работу. Сабрана шмат экспонатаў, статыстычных даных, зроблена шмат фото-здымкаў і зарысовак; зроблена апісаньне па экономіцы, быту, культуры. Сабрана да 600 лістоў гэрбарый. Знойдзена (М. Зьбіткоўскім) рэдкая расьліна Aldrovandia vesiculosa salvinia natans. Гэты экспонат-расьліна мала сустракаецца ў БССР і зьяўляецца рэдкай каштоўнасьцю. Гэтую расьліну шукаюць дасьледчыкі ўжо даўно і першы экспонат яе быў знойдзены дасьледчыкам Танфільлевым каля Жыткавіч толькі ў 1892 годзе.

Апрача навукова-дасьледчай работы і зьбіраньня каштоўных экспонатаў і рознага характару матар'ялу, экспэдыцыяй прароблена вялікая грамадзка-культурна-асьветная праца. Удзельнікамі экспэдыцыі сярод насельніцтва Мазыршчыны прачытана каля 30 лекцый, дакладаў, праведзена шмат гутарак на розныя тэмы. Таксама ўцягнуты былі мясцовыя краязнаўцы ў работу экспэдыцыі. Удзельнікі экспэдыцыі популярызавалі ня толькі ідэі краязнаўства, працу Студэнцкага Нав.-Дасьледч. Краязнаўчага Т-ва, а таксама і Бел. Дз. Ун-ту, як вышэйшую школу Беларусі, якая выкоўвае сваю інтэлігенцыю, сваіх дасьледчыкаў, сваіх організатараў краязнаучай справы.

## V. Новы этап у працы т-ва.

Новым этапам у працы т-ва зьяўляецца 1927-28 акадэмічны год. Новым праўленьнем (у складзе: проф. Пічэта—старшыня, Я. Марук—нам. старшыні, В. Невядомскі—сакратар, д-р Магілеўчык, Аніхоўскі, Зуенчык, Кірэйчык, Шыманскі і інш.) т-ва зроблена найвялікшая як організацыйная, так і навукова-дасьледчая праца. Т-ва канчаткова організацыйна аформілася; організавала новую сэкцыю мовы і літаратуры, абнавіла і ўзмацніла работу соцыяльна-экономічнай і яурэйскай сэкцый. Складзены цьвёрды пэрспэктыўны гадовы плян (а па навукова-дасьледчай рабоце двухгадовы); вызначыліся каля 115 тэм для навукова-дасьледчай працы.

Т-ва вырасла ў вялікую масавую організацыю: з 170 чалавек у 1927 годзе да 258 у гэтым. Організавана аканчальна за гэты час і працуюць 6 сэкцый: 1) соцыяльна-экономічная (мае 2 камісіі—праўную і эконом.)—26 чал.; 2) прыродазнаўча-географічная (камісіі: гідрабіолёгічн., флёрытычн., зоолёгічная, біолёгічная, геолёгічная)—68 чал.; 3) мэдычная—70 чал.; 4) культурна-гістарычная—36 чал.; 5) сэкцыя мовы і літаратуры—19 чал. і 6) яўрэйская—25 чал.

Праўда, т-ва ня імкнецца ўцягваць усё студэнцтва Унівэрсытэту, не, ня гэта важна. Важна сабраць студэнцкую навуковую думку вокал т-ва, а ў гэтым годзе гэта дасягнута. Ужо навокал сэкцый, бюро, праўленьня т-ва згуртаваны актыў каля 70—80 чалавек. Выяўлены такія організатары краязнаўчай справы, добрыя навуковыя дасьледчыкі студэнты, якія сёньня займаюць кіраўнічую работу ў установах НК Асьветы, Унівэрсытэту ды інш., якія працуюць у якасьці асьпірантаў, асыстэнтаў, з якімі лічацца ў сваёй рабоце навуковыя працаўнікі Унівэрсытэту.

У гэтым-жа 1927-28 годзе быў організаваны, як першая спроба, этнографічны вечар, програма якога будавалася на краязнаўчых матар'ялах. Вечар, да якога была організавана выстаўка сабраных т-вам розных матар'ялаў, экспонаты, фото-здымкі, дыяграмы і г. д., ладзіўся з агітацыйна-папулярызатарскай мэтай.

### VI. Характар навукова-дасьледчай работы т-ва.

Т-ва праводзіць сваю навукова-дасьледчую працу як па сэкцыях, так і шляхам экспэдыцый пад кіраўніцтвам навуковых працаўнікоў, якія дапамагаюць, як мэтодычна, так і наогул сваім навуковым вопытам. Асабліва прымаюць удзел: па прыродазнаўча-географічнай сэкцыі—Зьбіткоўскі, Акімава, проф. Гайдукоў, проф. Блюдухо, часткова проф. Фядзюшын ды інш.; па мэдычнай—д-р Магілеўчык, Прахарчук, Трамповіч; па сэкцыі мовы і літаратуры—проф. Замоцін, Піотуховіч і Бузук; па соцыяльна-экономічнай і культурна-географічнай—проф. Пічэта, Дружчыц і Сербаў; яўрэйскай сэкцыі—Аляксандраў. За гэты год т-ва часткова распрацавала і адаслала матар'ялы мінулай экспэдыцыі мазырскім організацыям. Аб'яднаны ў сэкцыі некаторыя прыватныя гурткі, якія маюць краязнаўчы характар і знаходзяцца яшчэ пры катэдрах. Праводзіцца сыстэматызацыя ўсіх навукова-дасьледчых матар'ялаў, артыкулаў і гэтым самым вядзецца падрыхтоўчая праца па выданьні зборніка прац таварыства, зборніка прац праведзеных экспэдыцый. Заслугоўвае таксама асабліва грамадзкай увагі організацыя пры т-ве студыі курсаў, мэта якіх была за кароткі 4—6-тыднёвы тэрмін даць мінімум ведаў па краязнаўству. Студыя-курсы[1]) ахапілі апроч студэнцтва БДУ і ўсе іншыя навучальныя ўстановы гор. Менску: Комвуз, тэхнікумы, рабфак, настаўніцтва, вучняў сямігодак і фабзавучаў. Такім чынам, слухачы (больш 300 чалавек) змаглі атрымаць самыя неабходныя веды, патрэбныя для практычнай, як мэтодычнай, так і організацыйна-краязнаўчай працы. Першы вопыт у Беларусі студыі курсаў па краязнаўству патрэбна прадоўжыць і можа найлепш было-б організаваць ЦБК такія курсы і для краязнаўцаў на мясцох. Апрача тэй вялікай організацыйнай, папулярызатарскай, мэтодычнай работы, т-ва правяло ў гэтым годзе найкаштоўнейшую навукова-дасьледчую працу шляхам распрацаваньня матар'ялаў сабраных экспэдыцыямі і

[1]) Програма студыі курсаў складалася з шэрагу дысцыплін: 1. Гісторыя і сучасны стан краязнаўства БССР—за межамі—М. Касьпяровіч. 2. Організацыя краязнаўчага руху ў БССР—А. Шашалевіч. 3. Экономічнае вывучэньне краю—Аляксандраў. 4. Вывучэньне флёры краю—проф. М. М. Гайдукоў. 5. Вывучэньне біоклімату БССР—С. Жураўскі. 6. Вывучэньне гісторыі краю—проф. У. І. Пічэта. 7. Вывучэньне фольклёру краю—проф. М. М. Піотуховіч. 8. Вывучэньне мясцовых гаворак—проф. П. А Бузук. 9. Музэязнаўства і музэябудаўніцтва—В. Ю. Ластоўскі. 10. Вывучэньне археолёгіі краю—А. М. Ляўданскі. 11. Школьнае краязнаўства—М. І. Касьпяровіч. 12. Агульная і краёвая бібліографія—Ю. Бібіла.

індывідуальна; заслуханы даклады па сэкцыях: 1) соцыяльна-эканомічнай 1. Культурна-бытавы стан Тураўшчыны (па матар'ялах навукова-дасьледчай экспэдыцыі), 2. Эканомічны стан Тураўшчыны (па матар. нав.-дасьл. экспэд.), 3. Апека на Беларусі ў пачатку XVI сталецьця, 4. Адміністрацыйныя пакараньні паводле савецкага законадаўства, 5. Судовыя рэформы 1925 г. ў БССР і 6. Права роднай мовы ў БССР. Некаторыя з гэтых прац падрыхтаваны і адасланы ў друк у Менскія часопісы „Наш край", „Мэдычная думка", „Рэволюцыйная законнасьць" ды інш. Некаторыя тэмы ўзяты для распрацоўкі сябрамі сэкцыі, але канчаткова не распрацаваны. Такімі зьяўляюцца:

1. Аграрнае перанасяленьне БССР і перасяленьне ў іншыя рэспублікі СССР.

2. Лекавыя травы, як галіна гандлю ў БССР.

3. Тэхнічныя культуры ў сельскай гаспадарцы і дынаміка іх разьвіцьця на Беларусі.

2) Культурна-гістарычнай сэкцыяй распрацаваны і заслуханы даклады:

1. Магілеў і Менск у 1697 г. паводле запісаў стольніка Талстога (Цыганоў). 2. Аб выніках археолёгічных досьледаў (паводле матар'ялаў 1-й студ. навукова-дасьледч. экспэдыцыі) (Каваленя і Шутаў) і 3. Матар'яльная культура Тураўшчыны (таксама паводле матар. экспэдыцыі (Улашчык).

Апрача гэтага 6 дакладаў падрыхтоўваюцца і частка з іх ужо закончана, але прачытаць іх у 1927-28 акадэмічным годзе не давялося. Яны будуць заслуханы ў пачатку наступнага акадэмічнага году.

3) Прыродазнаўча-географічнай—заслуханы і распрацаваны даклады:

1. Біолёгічны аналіз вады. 2. Мікрофлёра ракі Сьвіслачы. 3. Аб тутавым дрэве і шаўкаводзтве на БССР. 4. Аб выкармленьні шаўкавічных чарвякоў і разьвядзеньне тутавага дрэва на БССР. 5. Малюскі (паводле матар. навукова-дасьледч. экспэдыцыі ў Тураўшчыну).

4) Медычнай сэкцыяй распрацаваны і заслуханы даклады:

1. Аб вальляку на Беларусі. 2. Абсьледваньне Асіпавіцкага раёну з саніт.-бытавога боку. 3. Дасьледваньне ўмоў жыцьця аднае вёскі. 4. Спроба дасьледваньня сельсавету з боку санітарна-гігіенічнага. 5. Распрацаваны 2 даклады аб працы малярыйнага атраду і некаторыя з народных сродкаў барацьбы з малярыяй у Мазырскай акрузе (надрукавана ў часопісу „Мэдычная думка"). 6. Заслуханы даклад „Простытуцыя ў Эўропе і ў прыватнасьці па Беларусі і барацьба з ёй. 7. Зроблены мэтодычны даклад на тэму „Вывучэньне савецкай мэдыцыны на Беларусі" (ідэёвым кіраўнікам проф. Рубашоў). 8. Вывучэньне крыніц і мясцовасьцяй на Беларусі, маючых лекавае значэньне". 9. Санітарна-бытавое апісаньне вёскі Азяраны па матар'ялах экспэдыцыі. 10. Спроба санітарнага дасьледваньня вёскі Радзілавічы па мат. экспэдыцыі. 11. Спробы саніт.-бытав. апісаньня Турава па матар. экспэдыцыі. 12. Аб вадазабясьпецы і вадакарыстаньні Тураўскага раёну.

5) Яўрэйская сэкцыя распрацавала даклады:

1. Рамесьніцтва яўрэяў у Беларусі. 2. Рэкрутчына. 3. Эканоміка яўрэйскага мястэчка. 4. Стан яўрэяў у Тураўскім мястэчку (паводле матар. навукова-дасьледч. экспэдыцыі).

6) Сэкцыяй мовы і літаратуры—распрацаваны даклады:

1. Досьледы гутаркі Тураўшчыны. 2. Менская бэтлейка. 3. Літаратурная продукцыя Барысаўшчыны. 4. Вясельле N мясцовасьці.

У гэтым-жа годзе былі арганізаваны і праведзены 3 значных экспэдыцыі. Адна (у складзе: Каржанеўскага—адказны кіраўнік, Барановўскага, Невядомскага, Коршуна, Шыёнка, Гарэліка, Гацко, Бранавіцкага, Вярнова, Шутава, Пшанічнага, доц. Зьбіткоўскага, Сербава, Зьбіткоўскай, Ластоўскага, Шчарбініка ды інш.) далёкая экспэдыцыя ў Вушацкі раён Полацкай акругі ставіла мэтай:

1. Вывучыць і дасьледваць мясцовасьць, у якой праводзіцца экспэдыцыя ў напрамку экономічным, прыродазнаўча-географічным, гістарычным, мовазнаўчым і інш. 2. Зьбіраньне розных экспонатаў і матар'ялаў для унівэрсытэцкіх лябараторый і Бел. Дзярж. Музэю. 3. Популярызаваць краязнаўчую працу Унівэрсытэту і Студ. Нав.-Дасьледч. Краязнаўчага Т-ва БДУ. 4. Уцягнуць у практычную працу мясцовых краязнаўцаў па розных галінах досьледаў. 5. Праводзіць сярод шырокіх пластоў насельніцтва N мясцовасьці культурна-асьветную працу шляхам: а) лекцый профэсароў і навуковых працаўнікоў Ун-ту; б) лекцый і дакладаў студэнтаў аб навінах сучаснасьці; в) азнаямленьне насельніцтва з мэтодамі экспэдыцыі.

Гэтай экспэдыцыяй сабрана 1500 лістоў гэрбарый: а) дасьледваны дубняк па вазёрных адкладах—зьява рэдкая да паўночнай БССР; б) дасьледвана возера Крывое і цэлы шэраг вазёр з боку іх расьліннасьці. Знойдзены (студ. Гацко) рэдкія расьліны—Hydrina verticinata і Linnae borecelis.

Культурна-гістарычнай сэкцыяй вывучаны старыя шляхі пешыя, сухапутныя і вадзяныя. Абсьледвана вадзяная сыстэма, якая зьвязваецца з рэчкаю Вушачу; абсьледваны старажытныя сельскія і гарадзкія магільнікі; выяўлена культура славян і літоўцаў; абсьледвана і ўскрыта шмат курганных магільнікаў; вывучаны паселішчы, будынкі, вопраткі, розныя рэчы ежы і піцьця, тыпы насельніцтва і яго сьветапогляд. Зроблена зарысовак і фото-здымкаў больш за 150, характарызуючых быт і гаспадарку гэтага раёну. Абсьледваны мінэральныя крыніцы Баркоўшчыны. Зроблены санітарна-гігіенічныя апісаньні і досьледы раёну. Запісана народных песень: жніўных—68 шт., вясельных—81 шт., купальскіх—29 шт., талочных—11, іншых 17. Акрамя песень было запісана 205 прыпевак. Побач з сабранымі песьнямі былі апісаны вясельныя, жніўныя і купальскія абрады, як яны праводзіліся раней і як яны захаваліся ў сучасны момант. Было зроблена вывучэньне жывой народнай гутаркі і асаблівасьцяй мовы раёну. Асобна ад правадзімай працы па зьбіраньні фольклёру—быў запісаны ў в. Славені ад сялянкі Домны Круцёнак невядомы дагэтуль верш Багушэвіча „Панскае ігрышча“. Правадзіліся запісы асобных мясцовых слоў, якія ня маюць агульнага і пашыранага характару ў цэлым для беларускай літаратурнай мовы. Зроблены апісаньні і досьледы па экономіцы і сельскай гаспадарцы раёну. Экспэдыцыяй праведзена вялікая грамадзкая і культурна-асьветная работа. Прачытана каля 25 лекцый, дакладаў на краязнаўчыя, палітычныя і культурна-асьветныя тэмы.

Другая экспэдыцыя, на чале якой стаяў проф. Гайдукоў і асыстэнтка Акімава, займалася вывучэньнем мікрофлёры ракі Сьвіслачы, якая да гэтага часу амаль што зусім ня была апісана ў літаратуры і ня высьветлены ўплыў гораду на забруджваньне вады. Усяго знойдзена гэтай экспэдыцыяй 201 від водарасьляў, сэра-бактэрый—4 віды і грыбоў—5 відаў. Высьветлена забруджваньне рэчкі ў межах гораду ў наступнай паступовасьці: Старажоўка,—вусьце Нямігі, скураны завод, бойня. Дзякуючы моцнаму забруджваньню вады ў горадзе, нават на

адлегласьці 30 кілёмэтраў ад гораду выяўлены сьляды забруджанасьці, што гаворыць аб неабходнасьці зьвярнуць належную ўвагу на вадазабясьпеку, як акраін гораду, так і тых вёсак, якія знаходзяцца па ніжнім цячэньні Сьвіслачы.

Апрацоўка матар'ялаў яшчэ поўнасьцю ня скончана, таму што чакаецца канчатковае вывучэньне ракі Сьвіслачы да вясны 1929 г.

Трэцяя экспэдыцыя—распачала соцыяльна-экономічнае вывучэньне падшэфнага БДУ (Падгайскага сельсавету), яна ставіць мэтай вывучыць географічнае палажэньне сельсавету, насельніцтва, гаспадарку, прамысловасьць, гандаль і шляхі зносін. Вывучыць усю матар'яльную культуру. Зрабіць дакладанае вывучэньне прыроды сельсавету; прасачыць асаблівасьці зьяў мовы, быту, культуры; дакладна вывучыць санітарныя ўмовы жыльля, вадазабясьпеку і вадакарыстаньне, хваравітасьць насельніцтва. Асабліва важна тое, што экспэдыцыя мае намер правесьці пагалоўны мэдычны агляд вёсак сельсавету, прыцягнуўшы да гэтай справы мэдычныя сілы БДУ.

Такім чынам пэрспэктывы, якія стаялі перад т-вам і праробленая праца т-вам на працягу 3-х год, апраўданы самым жыцьцём. Т-ва сваёй працай дапамагае будаваць сваю культуру, організоўваць сваю экономіку. У далейшым перад т-вам стаяць аснаўныя пытаньні. Паколькі організацыйна т-ва аформілася, зьмест работы знойдзены—яно павінна надалей зьвярнуць асаблівую ўвагу на паглыбленьне і замацаваньне сваёй работы, зьвярнуўшы ўвагу на навукова-дасьледчую працу, на распрацоўку і сыстэматызацыю ўсіх матар'ялаў, якія былі сабраны экспэдыцыямі. Т-ву неабходна надрукаваць зборнікі прац т-ва і экспэдыцыі. Перад т-вам стаіць задача ў далейшым організаваць першую ў Беларусі біолёгічную станцыю, свой краязнаўчы музэй.

І ў гэтым уся ўвага, падтрыманьне з боку партыйных і студэнцкапрофэсыйных організацый павінна быць зьвернута на дасьледчую працу т-ва, перад якім, як і перад Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам, пастаўлены вялікія пэрспэктывы ў навукова-дасьледчай справе па вывучэньні экономікі, гісторыі, быту, культуры Беларусі.

Т-ва запраўды ўжо зьяўляецца тым інстытутам, навокал якога згуртавалася ўся савецкая навукова-крытычная думка лепшай часткі нашага студэнцтва, аб'ядналася тая частка маладых дасьледчыкаў краязнаўцаў поўных сьвежай, бурлівай энэргіі, вялікага энтузыязму, бадзёрасьці, адданасьці справе навукі, сваёй краіне—Беларусі, якія вывучаюць і дасьледуюць Беларусь, а гэтым самым і будуюць новую Савецкую Беларусь.

---

**В. Дзьмітрыеў.**

# Дзесяць гадоў этнографічнай працы ў Смаленскай губ. (1917—1927 г. г.)[1]).

Зацікаўленасьць да вывучэньня Смаленшчыны з боку этнографічнага праявілася, як вядома, ужо даўно. Прыблізна з паловы мінулага стагодзьдзя на старонках мясцовага пэрыодычнага друку пачынаюць зьяўляцца артыкулы і нататкі, у якіх малюецца побыт і занятк і мясцовага насяленьня; спачатку такія артыкулы і нататкі—зьява вельмі

---

¹) Пасьля таго, як артыкул Дзьмітрыева быў набраны і зьвярстаны, рэдакцыя даведалася, што, гэты-ж артыкул надрукованы ў час „Краеведение" №10 за 1928 г., аб чым аўтар рэдакцыю не паведамляў.

рэдкая, толькі ў канцы мінулага стагодзьдзя ў гэтым кірунку ствараюцца больш спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця этнографіі ў Смаленшчыне. Трэба падкрэсьліць, што ў першы момант уся ўвага Смаленскіх этнографаў была сконцэнтравана на зьбіраньні і вывучэньні матар'ялаў духоўнай культуры і толькі за апошнія гады выявілася зацікаўленасьць і да зьбіраньня помнікаў матар'яльнай культуры; зьбіраньне гэтых матар'ялаў рабілі і паасобныя аматары і мясцовыя навуковыя ўстановы: Ценішаўскі Музэй і гарадзкі Гістарычна-Археолёгічны Музэй.

Але вайна 1914 г. зразумела вельмі шкодна адбілася на разьвіцьці этнографічнай працы ў губэрні. Частка этнографаў была адарвана ад улюбёнай працы, дзякуючы ўмовам вайны, і перакінута на іншую працу; экспэдыцыйная праца амаль зусім спынілася, таксама спынілася папаўненьне музэю адпаведнымі матар'яламі. І толькі ня спынілася падрыхтоўка новых кадраў этнографаў, якая вялася ў Смаленскім Аддзяленьні Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту.

Пераходзячы да агляду этнографічнай працы ў Смаленскай губ. за 10 гадоў, неабходна падкрэсьліць, што гэта праца за азначаны тэрмін працякала бяз пляну, былі перарывы (быў пэрыод поўнага росквіту 1917—1920 г.—організацыя новых музэяў, і пэрыод заняпаду 1920—25 г.) і толькі апошнія гады этнографічная праца пачынае займаць пэўнае месца ў мясцовай краязнаўчай працы.

Гэты агляд і ахапляе галоўным чынам этнографічную працу мясцовага характару, якая зьвязана з краёвымі музэямі і краязнаўчымі організацыямі.

## І. Аб этнографічнай працы мясцовых музэяў.

Рэволюцыйны лад з аднаго боку абудзіў новыя сілы, якія дагэтуль нібы спалі, а з другога—прымусіў старыя сілы задумацца і адыйсьці часова ад паступовага руху рэволюцыі. Новыя сілы ўсю сваю энэргію кінулі на будаўніцтва новага ладу, новых установ. У ліку апошніх зьяўляюцца і такія, якія сваёй задачай ставілі зьбіраньне помнікаў старасьветчыны, побыту і мастацтва, раскіданых па панскіх сядзібах. Далейшаму захаваньню гэтых помнікаў пагражала небясьпека. І спачатку зьяўленьне такіх установ ішло самацёкам, часам нават выпадкова, без усялякага кіраўніцтва зьверху, з боку губэрскіх навуковых і грамадзкіх організацый. Такім чынам, к канцу 1919 г. мы маем павятовыя музэі ў гарадох: Ельні (заснаваўся ў 1917 г.), Дарагабужы (1918 г.), Гжацку, Ярцаве, Вязьме, а ў канцы 1919 г. адчыняюцца музэі і ва ўсіх іншых гарадох Смаленшчыны. Апрача паказаных вышэй задач, некаторыя музэі пачалі організоўваць і этнографічныя аддзелы. Так у канцы 1919 г. такія аддзелы былі заснаваны ў Ельнінскім і Праслаўскім музэях, прычым у першым было больш 150 этнографічных рэчаў, большасьць іх—вопратка і ўбраньне мясцовага насельніцтва, якія сабраў М. І. Пагодзін, і вельмі орыгінальная колекцыя „жаўранкаў" (звычай мясцовых сялян ляпіць з цеста ў дзень 9 сакавіка т. зв. „саракі"—булачкі, якія маюць розную форму, пераважна—птушак). Тут-жа быў організаваны аддзел працы, у якім было каля 100 рэчаў, большая частка якіх былі гліняныя і драўляныя вырабы мясцовых саматужнікаў. Частка экспонаваных у паказаных аддзелах рэчаў была набыта музэем ад сельска-гаспадарчай выстаўкі, якая адбылася ў Ельні ў верасьні 1919 г.

У аддзеле побыту Рослаўскага музэю былі сабраны земляробныя прылады, хатняе абсталяваньне, узоры мясцовых тканін, галаўныя ўборы, вопратка, саматужныя вырабы і інш.

Што датычыцца г. Смаленску, дык тут мы наглядаем іншы малюнак: у першы пэрыод рэволюцыі праца ў музэях была спынена. Пасьля быў організаваны пры Аддзеле Народнай Асьветы Мастацка-Археолёгічны пад'аддзел, які меў задачу: ратаваць помнікі старасьветчыны, раскіданыя па маёнтках, падлічыць іх і концэнтраваць, а таксама кіраваць музэйнай працай і г. д. З гэтае прычыны этнографічная праца ў некаторай сваёй частцы (зьбіраньне помнікаў матар'яльнай і духоўнай культуры мясцовага насяленьня) як-бы часова была адсунута на задні плян. Усё гэта прымусіла нябожчыка этнографа мясцовага краю В. Н. Дабравольскага зьвярнуцца ў Губ. Музэй, рэорганізаваны з Мастацка-Археолёгічнага Пад'аддзелу, з прапановай організаваць пры апошнім асобую ўстанову, якая мела-б задачай зьбіраньне і вывучэньне этнографічных помнікаў. Гэтая прапанова была абмеркавана калегіяй Губмузэю 13-XI—1919 г. і была прынята пастанова „прыняць прапанову В. Н. Дабравольскага і організаваць пры музэйнай сэкцыі этнографічнае бюро для вывучэньня народу, яго побыту і мастацтва. У склад бюро ўвесьці т. Дабравольскага, Баршчэўскага і Пагодзіна. Прапанаваць бюро даць на зацьверджаньне Губмузэю плян дзейнасьці".

3-га студзеня 1920 г. В. Н. Дабравольскі падае ў Губмузэй даклад аб задачах этнографічнай навукі ў Смаленскай губ., які абмеркавалі потым на пасяджэньні калегіі музэю. Была прынята пастанова: „Перадаць на разгляд этнографічнага бюро". У справах Губмузэю няма ні пляну працы, ні справаздач аб дзейнасьці этнографічнага бюро і нельга, на жаль, адзначыць працу бюро.

У часе Губэрскай Музэйнай Конфэрэнцыі, якая адбылася ў лютым 1920 г. зноў узьнімаецца пытаньне аб ажыўленьні мясцовай этнографічнай працы. Быў заслуханы даклад т. Яновіча на тэму: „Зьбіраньне помнікаў народнай творчасьці". Гэты даклад выклікаў вялікі абмен думкамі і конфэрэнцыя прыняла наступную рэзолюцыю: „Губэрская конфэрэнцыя, заслухаўшы даклад, прызнала найважнейшаю натрэбаю этнографічнай навукі Смаленшчыны: 1) укладаньне этнографічнай карты губэрні, 2) зьбіраньне для экспонаваньня ў краёвых музэях помнікаў духоўнай і матар'яльнай культуры, характэрнай для прамысловасьці і аблічча мясцовага насельніцтва, 3) організацыю экскурсіі для вывучэньня і зьбіраньня помнікаў народнай творчасьці і побыту, 4) распаўсюджаньне па розных мясцох Смаленшчыны програмы для зьбіраньня этнографічных і лексычных матар'ялаў і 5) азнаямленьне на мясцох аб задачах і мэтах этнографічнай навукі і спосабах зьбіраньня такіх помнікаў". Ці была праведзена ў жыцьцё гэтая рэзолюцыя—зьвестак няма. Паглядзім цяпер, што робіцца ў сучасны момант у павятовых музэях. Апошнія, як можна бачыць са справаздач, ня гледзячы на шэраг няспрыяючых момантаў (адсутнасьць сродкаў, памяшканьняў, дарагоўлю жыцьця), патроху пачынаюць пашыраць свае аддзелы, а некаторыя нават пачынаюць зьбіраць вакол сябе аматараў, яднаючы іх у гурткі па вывучэньні мясцовага краю. Такія гурткі былі організаваны ў Рославе, Ельні і Дарагабужы. У 1920 г. загадчыкам Ярцаўскага музэю была намечана этнографічная экспэдыцыя, але ці была апошняя наладжана—зьвестак няма. З гэтага часу этнографічная праца ў мясцовых музэях замірае аж да 1924 г. Праўда, у

1922 г. была яшчэ адна спроба Губмузэю організаваць 2 экспэдыцыі ў Бельскі павет і г. Вязьму, прычым першая з этнографічнымі мэтамі, а другая—у мэтах вывучэньня архітэктуры. Але і гэтая спроба ня была зьдзейсьнена за адсутнасьцю сродкаў.

Гэты пэрыод зацішша для музэйнага будаўніцтва ў Смаленшчыне быў ня вельмі добрым: некаторыя з павятовых музэяў былі ліквідаваны, некаторыя самі сабою спынілі сваё існаваньне. Былі ліквідаваны наступныя павятовыя музэі: Гжацкі, Крясьненскі і Ярцаўскі. У гэты пэрыод уся дзейнасьць губэрскіх музэяў пашла на апісаньне колекцый, інвэнтарызацыю іх і г. д.

Але Дарагабускаму музэю ў гэтых адносінах пашанцавала: этнографічны аддзел узбагаціўся значным лікам рэчаў. Апрача гэтага Дарагабускі Музэй організаваў у 1924—25 г. 2 экспэдыцыі: 1—па досьледах правага і левага берагоў Дняпра на працягу 50 в. уніз і ўверх па цячэньні, прычым было выкрыта 7 нэолітычных стаянак; 2—экспэдыцыя, якая цягнулася каля 30 дзён, па досьледах р. Угры ў этнографічным і археолёгічным стасунках . Гэтая экспэдыцыя была організавана Дарагабускім Музэем супольна з Ельнінскім і ў ёй прынялі ўдзел: Н. І. Савін, М. І. Пагодзін, мастак Глазаў і Пагодзіна. Экспэдыцыяй было зарэгістравана вялікая колькасьць курганаў, гарадкоў, выкрыта адна нэолітычная стаянка, на якой знойдзена каля 100 каменных рэчаў, запісаны песьні, прыпеўкі і г. д. Апрача гэтага навуковымі супрацоўнікамі памянёнага музэю, як і наогул усіх музэяў, вялася популярызацыя ідэй краязнаўства. Так, напр., загадчыкам Дарагабускага музэю Н. І. Савіным былі зачытаны даклады: 1) Аб вывучэньні краю (на настаўніцкім зьезьдзе Дарагаб. пав.), пав. 2) Аб народных вераваньнях і хаўтурных помніках (у Акадэміі гісторыі матар'яльнай культуры). Апрача гэтага была наладжана вечарына ў мэтах азнаямленьня публікі з жывой старасьветчынай музычнай творчасьці з удзелам дудара — селяніна М. С. Крукава, які граў на інстрмэнце XVI—XVII ст. Перад концэртам Н. І. Савіным быў прачытаны даклад на тэму: „Народная творчасьць у стары час“.

У 1925-26 г. мы бачым, што Дарагабускі Дзяржмузэй вёў пачатую ў мінулым годзе працу па досьледах р. Угры і суседніх з Дарагабускім паветам. На гэты раз экспэдыцыяй было дасьледвана ў паказаным кірунку вярхоўе р. Угры да г. Калугі. Вынікі гэтых прац: была зарэгістравана вялікая колькасьць курганаў, гарадкоў, запісана песень, прыпевак, казак і г. д. Неабходна ўсё-такі адзначыць, што недахоп сродкаў не даваў магчымасьці скончыць як трэба распачатую працу. Гэты год быў спрыяючым для этнографічнай працы Дзярж. Музэю. Так, апрача штодзённай новуковай і популярызацыйнай працы ў самым Музэі некаторыя супрацоўнікі знайшлі час і сілы для этнографічнай працы. А. Ф. Палашанкаў у гэтым годзе зьбіраў і вывучаў матар'ял аб сялянскіх пабудовах нашага краю і фольклёр. Н. А. Уюноў рабіў сыстэматычнае апісаньне скрыняў у колекцыях Ценішаўскага Музэю.

У 1927 г. мы наглядаем вялікі пералом у дзейнасьці Музэю ў адносінах да этнографіі наогул і да краязнаўчай працы ў прыватнасьці. З гэтага моманту этнографічная праца набывае права грамадзянства. У мінулым годзе на вызначаныя па каштарысу сродкі было організавана некалькі падарожаў і экспэдыцый у складзе: загадчыка гістарычна-археолёгічным аддзелам А. Ф. Палашанкава, мастака А. П. Паўловіча і рысоўшчыка Н. І. Канвісарова ў такія раёны гу-

бэрні: 1) Шумяцкі Рослаўск. павету, дзе абсьледвана 10 вёсак, 2) Івонінскі Ельнінскага павету, абсьледвана 8 вёсак, 3) Холм—Жыркаўскі і Ленінскі Бельскага павету і 4) Боўдзінскі Дарагабуск. павету. Пры досьледах памянёных раёнаў уся ўвага была накіравана на тыя бакі Смаленскай вёскі, якія найменш вядомы і якія цяпер, дзякуючы розным прычынам, хутка зьмяняюцца, напрыклад, характар распляна-ваньня вёскі і хутароў, вывучэньне сялянскіх пабудоў. У выніку гэтых досьледаў былі выяўлены тыповыя асаблівасьці знадворнага выгляду вёскі наогул, пабудоў у прыватнасьці. Зроблены зарысоўкі вёсак, хутароў, вуліц, двароў, пабудоў; засьняты пляны характэрных для пэўнай мясцовасьці двароў, гумнаў, лазьняў і г. д. Усяго каля 70 зарысовак і 20 плянаў. У Шумяцкім раёне зроблены фотоздымкі. Апрача вывучэньня знадворнага выгляду вёскі, тут вывучаліся і іншыя галіны жыцьця.Так, напр., у Шумячах абсьледвана ганчарніцтва. Шумячы—самы буйны цэнтр гэтай саматужнай прамысловасьці на Смаленшчыне. Тут гэтым займаецца больш 50 двароў. У Бельскім павеце, багатым лесам і дрэваапрацоўнымі промысламі, увага была зьвернута на спосабы вытворчасьці драўлянага начыньня: місак, лыжак, філіжанак і г. д. (Холм-Жыркаўская і Ленінская воласьці). Паўсюды зьбіраўся і матар'ял для слоўніка жывой мовы Смаленшчыны. Найбольшы лік слоў запісалі ў Рослаўскім павеце. Усяго запісана больш 1000 слоў, якіх няма ў слоўніку В. Н. Дабравольскага. У Бельскім павеце запісана больш 300 старых песень, прычым А. М. Палашанкава некаторыя з іх запісала з мэлёдыямі. Апрача гэтага сабраны „Страданія“ (прыпеўкі)—апошні від народнай песеннай творчасьці. У вёсцы Надзьве, Катынскай вол. Смаленск. павету, ад старога казачніка А. І. Гапеенкава запісана 10 казак. Недастача вызначаных сродкаў перашкодзіла Дзярж. Музэю набыць за грошы неабходныя яму рэчы для папаўненьня этнографічных колекцый [1]). Матар'ялы вышэйпамянёных экспэдыцый былі экспонаваны ў Музэі на выстаўцы, прысьвечанай 10 гада-віне Кастрычніка.

За 1927 г. у гістарычна-этнографічны аддзел прыбавілася 44 рэчы, з іх найбольш цікавы: хустачка працы прыгонных дзяўчын, малюнкі для вязаньня кружаў і ўзоры апошніх, некалькі дзіцячых цацак смаленскага вырабу і інш. У параўнаньні з мінулым годам таксама разгарнулася і навуковая дзейнасьць супрацоўнікаў Музэю. Да друку падрыхтаваны наступныя працы: І) А. Ф. Палашанкава 1) „Знадворны выгляд Смаленскай вёскі“, 2) „Яда сялян Смаленшчыны“, 3) „Будоўлі сялян Ельнінскага павету“, 4) „Прыпеўкі Смаленшчыны“, 5) „Архітэктура, скульптура і поэзія Смаленскага нэкрополя“; II) І. Ф. Бартшчэўскага 1) „Аб кульце фальлюсу“; III) А. Н. Уюнова 1) „Разгляд і папаўненьне слоўніка Даля“, 2) „Аб асновах рускага вымаўленьня“.

Нельга прамоўчыць аб тых пэрспэктывах, якія намячае Дзярж. Музэй на бліжэйшы час у галіне мясцовай этнографіі. Музэй вызначыў да адчыненьня новы аддзел „Смаленская вёска“.

Дарагабускі Музэй, як і ў мінулым годзе, вёў навукова-дасьледчую працу. Была наладжана экспэдыцыя па досьледах нэолітычных стаянак на Дняпры. Апрача гэтага былі абсьледваны сядзібы Крукава, Авіноўшчына, Мікола-Пагарэлае і інш. З навуковых прац, падрыхта-

---

[1]) Весткі ўзяты з дакладу А. Ф. Палашанкава „Краеведческая работа Смоленского Госуд. Областного Музея“, які быў зачытаны на пасяджэньні Смаленскага Т-ва Краязнаўства.

ваных да друку, неабходна падкрэсьліць: І. Н. І. Савіна 1) „Бунт прыгонных у маёнтку Барышнікавых“, 2) „Культ пятніцы“, 3) „Культ вады“ і інш.

## II. Аб этнографічнай працы навуковых організацый.

Да рэволюцыі на тэрыторыі Смаленскай губ. існавала 3 краязнаўчыя т-вы: Т-ва вывучэньня Смаленскай губ., Архіўная Камісія і Вяземскае Т-ва, прычым 2 апошнія організацыі ніякай увагі не зварачвалі на вывучэньне губэрні ў этнографічным стасунку, бо ставілі сабе іншыя мэты. Што датычыцца Т-ва вывучэньня Смаленскай губ., дык яно, хоць і мела на ўвазе ў першай програме сваёй дзейнасьці ўсебаковае вывучэньне губэрні, але дзякуючы таму, што да моманту заснаваньня пры Т-ве культурна-гістарычнай сэкцыі дзейнымі членамі Т-ва зьяўляліся прыродаведы,—Т-ва працавала амаль выключна ў адным напрамку—прыродна-гістарычным. Вельмі рэдка на пасяджэньнях Т-ва, як відаць з протоколаў Т-ва, чыталіся даклады этнографічнага, гістарычнага ці археолёгічнага характару. У пачатку 1920 г. Т-ва на сваім пасяджэньні 24 траўня ўхваліла організаваць сэкцыю культурна-гістарычную. Першая думка аб неабходнасьці гэтага належала нябожчыку В. Н. Дабравольскаму, які не адзін раз узьнімаў пытаньне аб утварэньні этнографічнай сэкцыі, даводзячы, што „ў наш рэволюцыйны час, калі тэмп народнага жыцьця ідзе з узвышанай, ліхаманачнай хуткасьцю, шмат якія бытавыя зьявы, асабліва ў галіне мовы, будуць беззваротна страчаны, застануцца неазначанымі і нявывучанымі“. Культурна-гістарычная сэкцыя атрымала імя трагічна загінуўшага ў гэты час свайго ініцыятара В. Н. Дабравольскага. Гэта сэкцыя сваёй задачай ставіла: I) вывучэньне гістарычных помнікаў: а) вусных, пісьмовых і друкаваных, б) матар'яльна-монумэнтальных (архітэктурных) і прадметных; II) помнікаў побыту: а) побыт панскіх маёнткаў, б) гарадзкі побыт—мяшчане, гандляры, чыноўніцтва, духавенства, в) вясковы побыт—матар'яльная, духоўная і соцыяльная культура сялянства, г) прамысловы побыт фабрык і заводаў, саматужнай прамысловасьці. Вывучэньне г. Смаленску думалі вылучыць асобнай задачай.

У першы момант памянёная сэкцыя працавала вельмі жвава: шэраг пасяджэньняў з дакладамі па розных пытаньнях мясцовага краю, апрацоўка 3 анкет па вывучэньні географічнай номэнклятуры, якія надрукавала і разаслала па губэрні. Сэкцыя ўзьняла пытаньне аб організацыі ў Смаленску саматужна-прамысловага музэю. На жаль гэтая справа ня зьдзейсьнілася. Музэй павінен быў зьяўляцца сталай выстаўкай саматужных вырабаў мясцовага краю, пасрэднікам між вытворцам і спажыўцом. Адзін экзэмпляр кожнай катэгорыі экспанаваных рэчаў павінен быць у фондзе Музэю. Гэта думка была выкарыстана некаторымі коопэрацыйнымі організацыямі, якія пачалі засноўваць такія музэі; адны з іх праіснавалі нядоўга, іншыя злучыліся з краязнаўчымі музэямі, як гэта мела месца ў Сычоўцы. Даволі значная частка экспонатаў ад ліквідаваных саматужных музэяў згінула назаўсёды.

Летам 1921 г. праца сэкцыі спынілася. Амаль у той-ж час пры Смаленскім Дзяржаўным Унівэрсытэце заснавалася Т-ва гісторыі, этнографіі і археолёгіі; Т-ва апрача паказаных задач ставіла мэтай вывучэньне мясцовага краю ў этнографічным стасунку. Т-ва наладжвала

навуковыя пасяджэньні з дакладамі, вяло папулярызацыю краязнаўства, зьбірала мясцовыя матар‘ялы ў розных галінах навукі, рабіла раскопкі і г. д. На пасяджэньнях яго былі заслуханы даклады: 1. Е. Н. Клятновай[1]) „Аб сымболіцы народных украс[2]), „Аб зьмяіным кульце ў Смаленшчыне“; 2. В. В. Дзьмітрыевым „Пахавальныя абрады і галошаньні ў Смаленшчыне“; 3. А. П. Серабраньнікавым „Некаторыя абрады Ельнінскага павету“ і інш. Але і гэтае т-ва існавала нядоўга, не пасьпеўшы як належыць разьвіць сваю дзейнасьць. Гэта пазьбавіла некаторых членаў т-ва магчымасьці дзяліцца сваімі нагляданьнямі, здабытымі матар‘яламі, але этнографічную працу яны вялі да таго часу, калі заснавалася т-ва краязнаўства, статут якога быў зацьверджаны 19 сакавіка 1926 г. Маладому Т-ву ў першы момант прышлося заняцца аб‘яднаньнем вакол сябе краязнаўцаў, чыста організацыйнай справай, але значная ўвага аддавалася і навукова-дасьледчай працы. Этнографічная праца была сконцэнтравана ў этнографічнай сэкцыі Т-ва. Дзейнасьць сэкцыі была ня толькі організацыйнага характару: падлік этнографаў, уцягненьне іх у працу сэкцыі і г. д., але і мэтодычнага: кіраваньне працай мясцовых краязнаўчых організацый, гурткоў, паасобных аматараў, распрацоўка програм і анкет, папулярызацыя ідэй вывучэньня краю ў этнографічным стасунку і г. д.

Вынікі гэтай дзейнасьці на працягу 2 год наступныя: у першы год працы Т-ва этнографічная сэкцыя налічввла 8 асоб, у 1927 г. членаў сэкцыі было ўжо 14. Экспэдыцыйная праца па зьбіраньні этнографічных матар‘ялаў вялася на ўласныя сродкі сяброў Т-ва, якія цікавіліся гэтай працай, што, зразумела, не магло мець вельмі прыкметныя вынікі. Усяго за гэтыя 2 гады сабралася шмат фольклёрных матар‘ялаў. У галіне матар‘яльнай культуры вывучаліся, зарысоўваліся тыпы пабудоў, сельска-гаспадарчыя прылады і г. д. у Смаленскім і Ельнінскім паветах. Апрача таго, членамі сэкцыі супольна з школьнымі і бібліотэчнымі працаўнікамі Рачаўскага раёну ў Смаленску былі апрацаваны програмы па вывучэньні сіламі школьнікаў памянёнага раёну і дадзены адпаведныя практычныя парады аб зьбіраньні матар‘ялаў этнографічнага і экономічнага характару. Сэкцыя таксама апрацавала інструкцыю па зьбіраньні этнографічных матар‘ялаў і разаслала яе краязнаўчым гурткам і т-вам Смаленшчыны.

На адчыненых пасяджэньнях Т-ва на працягу двухгадовай дзейнасьці было заслухана 15 дакладаў і паведамленьняў этнографічнага характару: I. Г. В. Пархвенава 1) „Географічнае і экономічнае дасьледваньне Любавіцкай вол. Смаленскага павету“, 2) „3 гады працы Рачаўскага музэю“, 3) „Вынікі выстаўкі пры Рачаўскім музэі, прысьвечанай 10 кастрычніку“; II. І. Ф. Баршчэўскага „Аб фальлёктэнізьме ў сувязі з некаторымі бытавымі зьявамі Смаленшчыны“; III. Н. І. Савіна 1) Аб прававым і экономічны палажэньні сялян у маёнтках Барышніковых“ 2) „Бунт прыгонных у 1912 г. у маёнтках Барышніковых“; IV. В. П. Лапчынскага 1) „Памяці В. Н. Дабравольскага“, 2) „Забытая магіла“ (аб поэце-селяніне Гарвасіі Псальмаве); V. Н. Н. Рэдкава —„В. Н. Дабравольскі“ (біографія і характарыстыка па матар‘ялах В. В. Дабравольскага і па яго асабістых успамінах); VI. А. Ф. Палашанкава 1) „В. Н. Дабравольскі інспэктар народных школ“, 2) „Лёс расійскай народнай песьні ў 2 палове XIX ст. і В. Н. Дабравольскі“, 3) „Аб краязнаўчай працы Смаленскага Дзярж“. Музэю“. VII. В. В. Дзьмітрыева—„Успаміны аб В. Н. Дабравольскім“. VIII. В. Р. Тарасенкі

„Успаміны аб В. Н. Дабравольскім—профэсары Археолёгічнага Інстытуту“; IX. В. М. Архангельскага—„В. Н. Дабравольскі ў чырвонаармейскай школе і сярод дзяцей“.

Апрача пералічаных прац у парадку ўласнай ініцыятывы былі зроблены такія працы: I. А. Ф. Палашанкаў вывучаў Смаленскую вёску і яе побыт. Ён падрыхтаваў: 1. „Народны іменаслоў Смаленшчыны“, 2. „Старыя песьні Смаленшчыны“ (матар‘ялы), 3. „Вясельле і вясельныя песьні Смаленшчыны“, 4. „Загаворы Смаленшчыны“ (матар‘ялы), 5. „Прыметы, загадкі, пагаворкі Смаленшчыны“ (матар‘ялы), 6. „Народныя спосабы лячэньня Смаленшчыны“. II. В. В. Дзьмітрыеў зьбіраў матар‘ял для монографічнага апісаньня С. Катыні Смал. павету, ім засьнята на плян зямельная плошча вёскі, сядзібы, пабудовы, зафотографаваны хаты, розныя забудовы, сельска-гаспадарчыя прылады, вопратка, тыпы насяленьня і г. д.; складзены мясцовы каляндар; сабраны фольклёрныя матар‘ялы; складзены генэолёгія сялянскіх двароў. Апрача гэтага ён вёў зьбіраньне фольклёру наогул па Смаленшчыне, прымаў удзел у абсьледваньні з этнографічнага боку Рачаўскага раёну і бібліографічную працу па этнографіі Смаленшчыны. Ім падрыхтаваны да друку: 1) „Пахавальныя абрады і галошаньні на Смаленшчыне“, 2) „В. Н. Дабравольскі“ (біографія і этнографічная дзейнасьць), 3) „Загаворы Смал. павету“, 4) „Перапіска П. В. Шэйна з Дабравольскім“ і інш. III. М. І. Пагодзін вывучаў побыт вялікарусаў Ельнінскага павету IV. Н. Н. Рэдкаў падрыхтаваў да друку артыкул „Аб мастацкіх вырабах Талашкінскай майстэрні“ (па матар‘ялах Ценішаўскага Музэю) V. І. Ф. Баршчэўскі падрыхтаваў да друку, апрача пералічаных вышэй, яшчэ такія працы: 1. „Аб кераміцы старога часу“, 2. „Шкло крышталь“. Гэтыя працы напісаны паводле колекцый Ценішаўскага Музэю. VI. А. В. Цьвяткоў падрыхтаваў да друку „Бельскае Палесье“. VII. М. Н. Канвісараў зрабіў зарысоўкі і здымкі знадворнага выгляду Смаленскай губ. ў часе этнографічных экспэдыцый, наладжаных Дзярж. Музэем. VIII. В. Н. Архангельскі сабраў матар’ялы народнай творчасьці ў Дарагабускім павеце ў часе экспэдыцыі ад Дзярж. Унівэрсытэту, на чале якой ён стаяў. IX. А. П. Паўловіч запісаў значную колькасьць фольклёрных матар‘ялаў. Апрача таго ён прымаў удзел у этнографічнай экспэдыцыі Дзярж. Музэю, зарысоўваў знадворны выгляд вёскі, сельска-гаспадарчых прылад, саматужніцтва і г. д. X. Г. В. Пархвенаў зьбірае матар‘ялы па этнографічным апісаньні Рачаўскай Слабады ў Смаленску. Апрача дзейных сяброў Т-ва зьбіраньне этнографічных матар‘ялаў па даручэньні сэкцыі вялі і члены-прыхільнікі: М. І. Саўчанкаў, С. М. Ісачанкаў і др.

Апрача Смаленску, этнографічная праца вялася яшчэ Бельскім т-вам краязнаўства, Вяземскім Аддзяленьнем т-ва і інш. Этнографічную працу ў Бельскім т-ве вялі Ф. Аляксандраў, Ф. Барадоўскі і інш. Апрача гэтага Бельскае т-ва вяло працу па зьбіраньні матар‘ялаў аб Бельскім Краі по програме ГубАНА[1]), прычым у бібліотэку т-ва здадзены працы: 1) М. Г. Лызлова—„Селішчанская воласьць Бельск. павету“ (апісаньне ў прыродна-географічным, экономічным і інш. стасунках), 2) Д. І. Сакалова і інш.—„Холмская воласьць“, 3) Баравікова і інш. „Ленінская воласьць“. У некаторых з гэтых прац даецца шмат этнографічных матар‘ялаў. Вельмі шмат такіх матар‘ялаў і ў вялікай працы настаўніка Н. Кудраўцава—„Краязнаўчыя весткі аб Вярхоўі—Ма-

[1]) У гэтай програме вельмі мала зьвернута ўвагі на вывучэньне жыцьця вёскі.

лышкінскай воласьці Бельскага павету"; праца зьяўляецца лепшай па колькасьці і падрабязнасьці матар'ялаў.

У Вяземскім Аддзяленьні Смаленскага Т-ва краязнаўства, якое заснавалася 17-VI-27 г., уся этнографічная праца сконцэнтравана ў этнографічнай сэкцыі т-ва. Сэкцыяй праведзена значная праца: а) зачытана на агульных сходах 2 даклады: Дуброўскага—„Гісторыя вёскі Бозьні" і Сямёнава—„Азарава ў 30-40 гадох". Т. Дуброўскі зьбіраў фольклёрны матар'ял і на працягу 3 год вёў бюджэтныя запісы аднае сялянскае гаспадаркі. Некаторыя члены сэкцыі зьбіралі і вывучалі вышыўкі. Трэба яшчэ падкрэсьліць даволі пасьпяховую працу Аддзяленьня ў напрамку популярызацыі ідэй краязнаўства наогул і зьбіраньня фольклёрных матар'ялаў, у прыватнасьці. Популярызацыя праводзілася праз мясцовы пэрыодычны друк. У мясцовых газэтах была зьмешчана значная колькасьць прыпевак і песень.

Праца Сычоўскага Аддзяленьня (засн. 18-V-27) у першы год мела організацыйны характар: пашырэньне краёвага музэю, організацыя пры музэі саматужна-прамысловай выстаўкі і мастацкай выстаўкі да 10 кастрычніка, організацыя школьна-краязнаўчага гуртка. Зьбіраньне этнографічных матар'ялаў уключана ў плян працы 1928 году.

Дарагабускае аддзяленьне заснавалася ў канцы 1927 г. і яшчэ не наладзіла краязнаўчай працы.

У Рослаўскім павеце этнографічная праца вялася мясцовым краязнаўчым т-вам і пасьля сьмерці ініцыятара заснаваньня т-ва заг. музэю С. М. Сакалоўскага спынілася. 110 песень, якія яшчэ раней сабраў настаўнік В. І. Ласкін, і 48 прыпевак, сабраныя Слуцкіным, знаходзяцца ў Рослаўскім музэі.

Смаленская губ. прыўмала ўдзел ва Ўсесаюзнай сельска-гаспадарчай выстаўцы, дзе быў організаваны і аддзел побыту, вельмі добра экспанаваны Смаленскімі колекцыямі.

### III. Аб выданьні этнографічных прац аб Смаленшчыне.

Смаленскім этнографам, параўнальна з іншымі, у справе выданьня сваіх прац не павязло, бо ні адно краязнаўчае т-ва ня мела выстарчальных сродкаў на выданьне навуковых прац і прыходзілася друкаваць там, дзе ўдавалася. Так у час. „Голос" за 1919 г. (выд. аўтаномнай культасьветнай сэкцыі Цэнтр. Камітэту працаўнікоў пошт, тэлеграфаў і тэлефонаў Беларусі і Літвы) былі зьмешчаны 2 артыкулы: Е. Н. Клятновай „Бяседы аб родным краі" і І. Баршчэўскага „Ценішаўскі Музэй" (некалькі слоў з гісторыі Музэю і яго колекцый). У час. „Смоленская Новь" за 1923 г. зьмешчана некалькі песень, якія запісаны вучнямі аднэй школы („Песьні нашага краю", № 5-6, стр. 47-48). У час. „Кооперативное Слово" надрукаваны артыкул В. І. Грачова „Пчалярства ў Смаленшчыне" (№ 21-22). У час. „Экономическая жизнь" (штомесячнік Смаленскага губ. Выканкому і Оргбюро Заходняй вобласьці), апрача азначаных ужо ў „Обзоре работ по этнографии восточных славян за 1917-1925 г. г." прац. Д. К. Зяленіна, зьмешчаны яшчэ іншыя этнографічныя артыкулы: за 1922 г. 1) Казімірава „Птушніцтва ў сялянскай гаспадарцы Смаленшчыны" (№ 7, стр. 43-48), 2) Вячаслава Васільлева „Неабходна вывучаць мясцовую працоўную гаспадарку" (№ 9, стр. 6-12), 3) Яго-ж „Сельская гаспадарка ў Бельскім павеце" (№ 3, стр. 3-24). За 1920 г. 1) . . . . „Да пытаньня аб вывучэньні саматужнай прамысловасьці Смаленшчыны" (№ 5-6, стр. 14-18). За 1923 г.

П. Мілеева „Кармленьне насяленьня г. Смаленску“ (№ 1 стр. 30-34), „Кармленьне вясковага насельніцтва Смаленскай губ.“ (№ 2, стр. 29-32).

За 1924 г. А. Салаўёва „Саматужная прамысловасьць Смаленшчыны 1923 г.“ (№ 3-4, стр. 22-49), А. Селіванава „Некалькі слоў па пытаньні об організацыі сялянскай гаспадаркі“ (№ 7, стр. 39-44). За 1926 г. М. Давідовіча „Некаторыя рысы эволюцыі сялянскай гаспадаркі Смаленшчыны ў пасьлярэволюцыйны час“ (№ 10-12, стр. 11-20), Г. М. і М. Д. „Запас працоўнай сілы ў сельскай гаспадарцы Заходняй вобласьці“ (№ 10-12, стр. 85-96).

За 1927 г. В. І. Міхайлава „Асноўныя рысы і дынаміка сялянскага харчаваньня Смаленшчыны за 1921—26 г. (№ 5—8, стр. 33), А. Пучкова „Да пытаньня аб організацыі працы ў сялянскай гаспадарцы Смаленшчыны“ (№ 5—8, стр. 47), Д. Гэрна „Бюджэт батрака ў Савецкіх гаспадарках Смаленшчыны“ (№ 5—8, стр. 67).

У час. „Этнографія“ за 1928 г. у № 2 зьмешчана заметка В. Дзьмітрыева „Этнографічная праца ў Смаленшчыне за 1925—26 г.“

Апрача гэтага шэраг артыкулаў і бытавых нарысаў зьмешчаны ў мясцовых газэтах; з іх трэба адзначыць такія: 1. А. Палашанкава „Вёска будуецца“ („Рабочий путь“ № 260 за 1927 г.), 2. С. Камскага „Новае ў старым“—падарожныя нататкі („Раб. путь“ № 269, 1927 г.), М. Сакаловай „Мінулае і будучыня“—вясковыя нарысы („Раб. путь“ № 73 за 1927 г.) і інш.

## IV. Аб падарожах і працы паасобных этнографаў.

Да 1924 г., як гаварылася вышэй, Смаленшчына не дасьледвалася экспэдыцыйна з прычыны недахопу сродкаў, але паасобныя краяведыэтнографы, ня гледзячы на няспрыяючыя ўмовы, за гэты 10-гадовы тэрмін наведаліся ў шмат якія месцы Смаленшчыны ў мэтах зьбіраньня этнографічных матар'ялаў і вывучэньня мясцовага насяленьня, яго побыту і творчасьці. З такіх асоб неабходна адзначыць 1) В. Н. Дабравольскага, які ў апошнія гады свайго жыцьця вельмі часта наведваў розныя паветы губэрні, асабліва Пачынкаўскую і Прудкаўскую воласьці Смаленскага павету; 2) А. Ф. і А. М. Палашанкавых, якія наведалі Смаленскі, Ельнінскі і др. паветы; 3) В. В. Дзьмітрыева і Г. В. Пархвенава, якія наведалі Смаленскі і Красьнінскі паветы.

Некаторыя аматары зьбіралі на месцы і вывучалі побыт і творчасьць мясцовага насяленьня. Весткі аб такіх асобах вельмі бедныя. Трэба памянуць: М. Н. Людагоўскую (Нікулінская школа, Рослаўск. павету), якая на працягу 2 год зьбірала фольклёрны матар'ял і падрыхтавала да друку „Зборнік песень і прыпевак“.

## V. Страты Смаленскай этнографіі.

За гэты час Смаленская этнографія панесла вялікія страты, з прычыны сьмерці шэрагу мясцовых працаўнікоў—знаўцаў Смаленшчыны. У 1919 ці ў 1920 г. памёр організатар і кіраўнік народных хораў Сяргей Паўлавіч Коласаў, які вывучаў Смаленшчыну ў музыкальнаэтнографічным стасунку [1]). У ноч з 7 на 8 траўня 1920 г. трагічна

[1]) Гл. яго артыкулы: 1) „З гусьлямі па Парэцкаму павету“ Смоленский Вестник 1915 г. № 162, 2) „В гостях у честного леса“ (по этнографии Поречского полесья)—Смоленск. Вестник 1915 г. № 206 і 210.

загінуў ад бандыцкай рукі, па дарозе ў сваю родную вёску Далькава, В. Н. Дабравольскі, аўтар капітальных прац аб Смаленшчыне („Смаленскі этнографічны зборнік“ у 4 т., „Смаленскі краёвы слоўнік“ і інш.). 1-га траўня 1927 г. памёр С. М. Сакалоўскі, заснаваўца Рослаўскага Музэю прыроды і гісторыі краю (яго працы: „Археолёгічная карта Рослаўскага павету“ (рукапіс). „Сутнасьць фальлічнага культу і сьляды яго ў павеце“ і інш.

Трэба ў заключэньне адзначыць наступнае:

1. Этнографічная праца па вывучэньні побыту і творчасьці сялян за 10 гадоў набыла значныя разьмеры, але кепска вывучаецца побыт рабочых і нацменшасьцяй, а таксама вывучэньне саматужніцтва.

2. Большая доля этнографічнай працы падае на паасобных аматараў, сконцэнтравана на фольклёры і часткова на вывучэньні матар'яльнай культуры.

3. Уся этнографічная праца, можна сьмела сказаць, вядзецца краязнаўчымі організацыямі і музэямі.

4. Адсутнасьць сродкаў перашкаджала этнографічнаму вывучэньню Смаленшчыны, выданьню програм, навуковых прац і г. д.

5. Сувязь краязнаўчых організацый са школамі выклікала зацікаўленасьць да этнографіі Смаленшчыны і прыцягнула да працы аматараў.

6. На жаль трэба адзначыць, што з боку Дзяржмузэю да 1927 г. ня было належнай увагі і імкненьня да больш поўнага выяўленьня ў Музэі Смаленскай Этнографіі.

Толькі колектыўнымі сіламі краязнаўчых організацый, Дзяржмузэю і іншых навуковых устаноў, толькі пры плянавасьці ў гэтай працы, пры вызначэньні неабходных сродкаў мы можам разьлічваць на далейшае разьвіцьцё Смаленскай этнографіі.

**М. Макарэўскі.**

---

# Мэтэоролёгічныя ўмовы і іх уплыў на сельскую гаспадарку ў межах БССР за жнівень 1927 г.—жнівень 1928 г.

## Жнівень—кастрычнік 1927 г. (канец лета і восень).

Агульны характар і ход надвор'я ў адзначаны пэрыод быў досыць добры. Уплыў яго на сельскую гаспадарку, асабліва на стан і рост азімых, трэба лічыць таксама досыць спрыяючым.

Воблачнасьць увесь гэты час трымалася амаль што нормальная. Вятры панавалі зусім нормальныя, спачатку заходніх, а потым паўднёва-заходніх румбаў.

Сярэдняя тэмэратура паветра як за паасобныя месяцы, гэтак і за ўсю гэтую пару дала вялічыні вышэй нормальных (сярэдніх за шмат гадоў). Тое-ж самае трэба сказаць і адносна паасобных дэкад. Адхіленьне ў бок зьніжэньня супроць нормы сярэдняй тэмпэратуры наглядалася толькі ў трэцюю дэкаду кастрычніка—на 2,8°.

Цікава адзначыць, між іншым і тое, што ў верасьні тэмпэратура паветра ня зьніжалася больш, як да нуля, а ў кастрычніку— да 7,5° холаду.

Што датычыцца ападкаў, дык нормальную колькасьць яны далі толькі ў кастрычніку. У жніўні іх вылілася больш нормы да 25%, а ў верасьні да 62%. Найбольшае адхіленьне ад нормы прыпадала на паўднёвыя акругі. Ападкі не пашкодзілі азімых, бо ў час пасеву і выруньваньня іх было мала.

Тэмпэратура—вышэй нормальнай і малая колькасьць ападкаў у час пасеву і выруньваньня азімых—вось тыя галоўныя мэтэоролёгічныя ўмовы, якія спрыялі ўсходу і росту азімых за даны пэрыод часу, што ў поўнай меры і сьцьвярджаецца данымі ЦСУ аб стане пасеваў на 1-е лістапада.

## Лістапад 1927 г.—сакавік 1928 г. (зіма).

Зімовы пэрыод пачаўся ў свой час, а менавіта—у пачатку другой дэкады лістапада. Аб гэтым гаворыць як ход сярэдняй сутачнай тэмпэратуры паветра, гэтак і сьнегавы насьціл. Апошні ўтварыўся раптам і адразу залёг па ўсёй краіне (13-XI) досыць тоўстым пластом, чаму і змог пратрымацца нясупынна да самай вясны, што адбываецца ва ўмовах БССР ня досыць часта.

Такі пачатак зімы не абяцаў, як адразу было відаць, нічога добрага для азімых. Каб уявіць сабе гэта, трэба ведаць, што да гэтага трымалася цёплае і дажджыстае надвор'е і што сьнег таму залёг на мокрую глебу, калі яшчэ адбываўся рост і дыханьне азімых пасеваў. Утварэньне пры такіх умовах адразу сталага і досыць тоўстага пласту сьнегу, а пад ім хутка і лёдавай коркі, зразумела, павінна было выклікаць задушэньне і падправаньне азімых, як у пачатку зімы, гэтак і ўвесну. Таму-та НКЗБ яшчэ ў сакавіку і былі ўжыты належныя крокі для набыцьця насеньня для перасеваў увясну.

Надвор'е ў працягу зімы трымалася досыць халоднае. За выключэньнем студзеня, сярэднія тэмпэратуры за ўсе месяцы далі вялічыні ніжэй нормальных (у сьнежні аж да 5,5°).

Ападкаў за ўсе зімовыя месяцы, акрамя лістападу, наглядаўся недахоп супроць нормы. Стану пасеваў гэта не пашкодзіла ні ўзімку ні ўвясну.

## Красавік—май 1928 г. (вясна).

Зімовы сьнегавы насьціл пратрымаўся амаль што ўсюды па БССР не даўжэй, як да 5-6 красавіка. Даволі халоднае надвор'е другой дэкады гэтага месяца выклікала зноў і ўсюды ўтварэньне новага сьнегавога насьцілу, аднак толькі да 20—23 чысла, калі і гэты насьціл зьнік.

Ня гледзячы на ўсё гэта, паводле ходу сярэдняй сутачнай тэмпэратуры паветра, неабходна ўсё-ж такі палічыць, што вясна пачалася сваечасова—у пачатку красавіка.

Агульны характар і ход надвор'я ўвясну рабіў на насельніцтва надта нядобрае ўражаньне. Гэта выклікалася: значнымі халадамі ў другую дэкаду красавіка і частымі дажджамі ў працягу ўсяго мая.

Сярэдняя тэмпэратура за красавік дала зьніжэньне супроць нормы на 1,7°, а за май—на 0,9°. Больш за ўсё дала зьніжэньне другая дэкада красавіка, аж на 6,0°.

Ападкі ў красавіку перавысілі норму на 11%, а ў маі—на 75%.

Ход надвор'я ўвясну быў такім чынам досыць няспрыяючым сельскай гаспадарцы: ён затрымліваў як палявыя работы, гэтак рост азімых і пасевы яравых ды тэхнічных культур. Усё гэта добра адбілася як на даных ЦСУ аб стане пасеваў на 1 чэрвеня, гэтак і на настроях сялянства ў той час.

### Чэрвень—жнівень 1928 г. (лета).

Холоднае трымалася надвор'е ўзімку і ўвясну, ня лепш яно з гэтага боку было і ўлетку. Сярэднія тэмпэратуры паветра за ўсе летнія месяцы далі зьніжэньні супроць нормы. Гэткае адхіленьне за чэрвень было больш за 4°, пры зьніжэньні за першую дэкаду аж на 6,2°.

Дзён з дажджом у кожным месяцы было больш нормы. Аднак, дажджы наглядаліся хаця і часта, але больш дробныя, а таму і вільгаці яны далі толькі да 20% звыш нормы ў чэрвені і жніўні, а ў ліпні—нават менш нормы.

Халоднае і дажджыстае надвор'е ўлетку, бязумоўна, ня спрыяла сельскай гаспадарцы і перш за ўсё затрымала вэгетацыйны пэрыод да 3 тыдняў, што больш за ўсё адбілася на тэхнічных культурах, бульбе і часткова, на яравых. Азімыя і яравыя змаглі перамагчы шкадлівае наогул надвор'е толькі таму, што ў крытычныя пэрыоды іх росту прыпалі спрыяючыя ўмовы надвор'я: для азімых—адсутнасьць значных ападкаў у час пасеву і ўсходу і цёплае надвор'е ўвосень; для яравых—адпаведная вільготнасьць глебы ў час выхаду ў мяцёлку.

**Мэтэоролёгічная характарыстыка надвор'я паводле сярэдніх па Б.С.С.Р.**

| Месяцы | Тэмпэр. паветра С° | Адхіленьні ад нормы тэмпэрат. паветра С° | Ападкі ў мм. | Адхіленьні ападкаў ад нормы ў процантах |
|---|---|---|---|---|
| **1927 г.** | | | | |
| Жнівень . . . | 18,2 | 1,7 | 90,3 | 25 |
| Верасень . . . | 13,0 | 1,3 | 90,2 | 63 |
| Кастрычнік . . | 6,1 | 0,5 | 49,1 | 0 |
| Лістапад . . . | —0,9 | —0,6 | 66,2 | 51 |
| Сьнежань . . . | —10,1 | —5,5 | 14,2 | —62 |
| **1928 г.** | | | | |
| Студзень . . . | —5,3 | 1,7 | 18,3 | —33 |
| Люты . . . | —8,0 | —2,2 | 20,4 | —10 |
| Сакавік . . . | —5,8 | —3,8 | 6,5 | —78 |
| Красавік . . . | 3,8 | —1,7 | 48,0 | 11 |
| Май . . . | 12,3 | —0,9 | 93,6 | 75 |
| Чэрвень . . . | 12,6 | —4,3 | 91,5 | 22 |
| Ліпень . . . | 17,3 | —1,2 | 54,0 | —44 |
| Жнівень . . . | 14,8 | —1,7 | 85,5 | 20 |

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

**І. Г. Мірскі.**

## Матар'ялы да вывучэньня рабочага і сялянскага руху ў Магілеўшчыне ў пэрыод 1903—1910 году [1]).

У пачатку ліпня 1906 г., як мы бачылі з раней пададзеных матар'ялаў, забастовачны рух сярод сялянства ахапіў значную частку Быхаўскага павету. Апошні натуральна абвясьцілі „неблагополучным по аграрным беспорядкам" і туды накіравалі карныя баявыя адзінкі.

Аб чыннасьці аднаго такога атраду, які складаўся з досыць лояльных у адносінах да працоўнага сялянства кубанскіх казакаў (у Мгілеве ў 1906 г. былі раскватараваны кубанскія казакі) і паліцыянтаў, маем наступнае паведамленьне:

Яшчэ за дзень да прыезду карнага атраду сяляне в. Камарычы рыхтаваліся да сустрэчы гасьцей. Кубанцаў на чале з Радзіёнавым сяляне сустрэлі з хлебам-сольлю на адлегласьці больш за вярсту ад вёскі. Казакі прынялі хлеб-соль і супакойна ўехалі ў вёску. Начальнік атраду загадаў казакам разьмясьціцца ў сялянскіх хатах. Трэба заўважыць, што кубанцы адмовіліся карыстацца дарэмна сялянскімі продуктамі, кажучы: „Нас запрасіў пан, дык няхай ён і корміць нас". Мінуючы сялянскія гароды, казакі за гароднінай ідуць да паноў. Наогул увесь час кубанцы трымалі сябе добра. „Мы тут будзем рабаваць і паліць, а ў нас у станіцах гэта самае будуць рабіць іншыя казакі. Гэта нікуды ня варта!"—ня раз гаварылі казакі.

Куды горш адносіліся да сялян паліцыянты з Рагачэва і Быхава, іх бізуны ня раз сыпаліся на сьпіны „забастоўшчыкаў". Пасьля ўважыстых прамоў адбыліся арышты. 40 сялян накіравалі ў Быхаў. На другі дзень 34 вызвалілі. З Камарычаў атрад выехаў у Седзічы, дзе арышты адбываліся па сьпісу. Арыштавалі 2 сялян—Дзяніса і Сьцяпана, трэцяга не злавілі. Пабыўшы ў Седзічах, войска накіравалася ў Баркалабава, дзе арыштавалі 21 селяніна і яўрэя Зусю, які нібы схаваў у сябе 5 сялян. Гэтага яўрэя казакі жорстка пабілі.

Пасьля заспакойваньня кубанцы паехалі ў Магілеў, арыштаваных накіравалі ў Быхаў, там іх трымалі пры паліцыі. Сяляне з рэдкім адзінадушшам праводзяць забастоўку. Атрад ня мог яе спыніць.

---

[1]) Гл. час. „Наш Край" № 10 (37) за 1928 г., стр. 49—55.

## Кадзінская справа.

Кадзінская справа закончыла сабою (вядома часова) сялянскі рух на Магілеўшчыне ў 1905 і 1906 г. Гэта быў дзевяты вал сялянскага руху 1906 г., момант найвышэйшай напружанасьці ў барацьбе за зямлю. Гэтая справа, як і іншыя, пакінула за сабой крывавы сьлед.

У жніўні 1906 г., пры спробе разагнаць сялянскі мітынг, скліканы з прычыны ліквідацыі І Дзярж. Думы, паміж Кадзінскімі сялянамі (м. Кадзінск Мсьціслаўскага павету) і атрадам паліцыі адбылася запраўдная бойка.

У выніку—забітыя і параненыя з абодвух бакоў, засуджаныя на катаргу на розныя тэрміны (звыш дзесяці сялян), астатнія—у арыштанцкія роты; у выніку—зноў адзін з вялікіх сялянскіх працэсаў, які адбыўся ў Магілеве вясною 1907 г. у выязной сэсіі Кіеўскай Судовай Палаты з саслоўнымі прадстаўнікамі.

Прыводзім некаторыя эпізоды ў гэтай справе, якія мы бярэм з мясцовага друку за красавік 1907 г. Вось кароткая вытрымка з прамовы пракурора: „Я лічу магчымым, гаварыў ён, падзею разьбіць на два моманты: 1) супраціленьне ўладзе і 2) мардаваньне прystава. Адпаведна гэтаму, мы маем два адпраўныя пункты: забойства двох паліцыянтаў і зьдзекі над чынам паліцыі. Нескладаныя мотывы, якія далі канву для справы. Спачатку — выклікаючыя паводзіны сялян, патравы, зробленыя імі, наяўныя парасьлі шырокай агітацыі, уплыў мітынгаў, на якіх праводзіліся погляды аб зьняцьці з працы рабочых у маёнтках, а далей — паказальны факт, што на кватэрах галоўных агітатараў, Харжэева, напрыклад, выкрыта нелегальная літаратура. І вось сталі распаўсюджвацца чуткі аб будучым „грандыёзным бунце“, з прычыны чаго на месцы былі згрупаваны паліцыянты. Так і адбылося. Пры спробе арыштаваць Харжэева забілі ў званы і пачалі зьбягацца масы сялян. Такім чынам, гэта якраз зьявілася сыгналам для згрупаваньня вакол паліцыянтаў сялянскага натоўпу і адгэтуль вернае меркаваньне аб тым, што ўсё было задумана раней, правільна разьлічана і чакала толькі знаку, каб разгарнуцца ва ўсю шырыню. Мы маем, значыцца, правільна організаваную змову. Распаўсюджваюцца затым чуткі, што ў мэтах атрыманьня неабходных для суду паказаньняў у адносінах да некаторых арыштаваных былі ўжыты мардаваньні. Наяўная хлусьня. Паліцыя, паводле яе слоў, не рабіла ніякага гвалту тым сьведкам, якія далі выстарчальныя паказаньні. Прystава Жудру мардавалі сяляне іншага раёну, а паліцыянтаў білі тады, калі арыштаваны імі Харжэеў сам вырваўся і зьбег і, значыцца, ня быў у руках паліцыі.

Відавочна, тут адыгрывала ролю лютая злаба да паліцыянтаў, выкліканая агітацыяй. Ім помстваалі, як прысьпешнікам „паноў“, як вінавайцам складаньня протоколаў на сялян. Сялянскую масу штурхала на гэта моладзь, якая направа і налева распаўдсюджвала чуткі аб набліжэньні новага часу для сялян, аб тым, што паліцыянты выкліканы для расправы з сялянамі і абароны паноў. Вынікі гэтай агітацыі некалькіх асоб—увесь цяжар зробленага злачынства, за якое віноўныя павінны быць сувора пакараны адпаведна закону“.

* * *

Лепшыя сталічныя адвакаты, якія абаранялі сялян, гавораць бліскучыя прамовы, падкрэсьліваючы выключна цяжкае становішча Кадзін-

скіх сялян у карыстаньні зямлёй, выключна кабальныя аграрныя ўзаемаадносіны, якія стварыліся між кадзінцамі, панам і арандатарам. Але дарэмна: прыгавор, зразумела, вынесены раней, і ці можа, ці адважыцца Палата парушыць волю міністра юстыцыі? Яна паслухмяная прылада для ліквідацыі рэволюцыі. Прыгавор суворы, і, як кажа Ісаеў, аўтар артыкулу ў Магілеўскай газэце („Могил. В." за красавік 1907 г. Ісаеў „Кадинское дело"), „выклікае моцнае рыданьне усёй радні падсудных, якая перапаўняе залю".

## Змычка сялянства з рабочымі.

*(Матар'ялы „Искры" за 1905 г.).*

На Магілеўшчыне, як і паўсюды ў царскай Расіі, ня было змычкі між рабочым і сялянскім рухам. Гэта агульнае палажэньне.

Рабочыя і сяляне, аднолькава прыгнечаныя, аднолькава эксплёатаваныя, тым ня менш дзейнічалі зусім паасобна, ня зьвязана. Выпадкі супольнай чыннасьці, солідарнасьці вельмі рэдкі. З матар'ялаў „Искры" мы маем даныя толькі аб адным выпадку такога контакту між сельскагаспадарчымі рабочымі, сялянамі і фабрычнымі рабочымі ў Горацкім павеце, у маёнтку буйнага зямляўласьніка Чачкова па суседзтву з прамысловым пунктам Копысьсю.

Паведамляючы аб руху забастоўкі, якая ахапіла каля 1000 чалавек (аб гэтым ніжэй), корэспондэнт „Искры", між іншым, прыводзіць наступныя цікавыя інцыдэнты: „Абшарніку Чачкову не дае супакою тая акалічнасьць, што яго сяляне „псуюцца", працуючы на заводах (яго маёнткі знаходзяцца — адзін у 1½, другі — у 8 в. ад гораду)". Гэты пан мае і свой завод, які аддае ў арэнду.

Летам, у часе палявых прац, арандатар ня прымае на завод сялян з маёнтку Чачкова, ня глядзячы на тое, у гэты час на заводзе самая гарачая пара. Гэта тлумачыцца вельмі проста: рабочым на заводзе плоцяць ў гэты час капеек на 10—15 больш, чым у маёнтку, а таму пан не дазваляе арандатару браць на працу сялян з „яго" вёсак. Гэта, бачыце, яго рэнта!

Зразумела, сяляне з-за лішніх 10 капеек ня пойдуць працаваць за 8 в., і, дзякуючы таму, што на суседні завод іх ня прымаюць, яны прымушаны закабаляцца ў пана.

У 1903 г., калі сяляне — сельска-гаспадарчыя рабочыя ў пана забаставалі, патрабуючы дабаўкі некалькі капеек на чвэрць за капаньне бульбы, Чачкоў, паляцеў і ў губэрню, і ў Пецярбург і, дзякуючы багацьцю, сувязям і ўплыву, яму ўдалося выклікаць да сябе губарнатара і казакаў. Па дырэктывах поліцыі былі ўзяты самыя шкодныя з „бунтаўшчыкоў", галоўным чынам, з фабрычных рабочых. Чалавек 8 з іх пад моцным канвоем казакаў прыгналі ў маёнтках Чачкова для экзэкуцыі ў прысутнасьці ўсяе вёскі. Апрача таго тагочасны „візыт" губарнатара абышоўся рабочым у 1½ дзесятка таварышоў, якіх пасадзілі ў турму.

Задаволены жывадзёрствам Чачкоў яшчэ доўга знаёмым гаварыў, паціраючы рукі: „Калі ім скуру палупілі, дык яны супакоіліся!". А калі цяпер фабрычныя зноў узьнялі ў пана „бунт", зьняўшы рабочых з працы, дык гэты пан з вышэйшай асьветай, як ратавальнік бацькаўшчыны, зноў паляцеў у Пецярбург да свайго прыяцеля Ватацы[1]) і

[1]) У 1905 г. быў таварышам міністра ўнутр. спраў; меў вялікую маемасьць на Магілеўшчыне.

скора наш сатрап Клінгэнбэрг атрымаў загад: „ісьці на Копысь і зрабіць там парадак!“

Як гаварылася вышэй, Клінгэнбэргу не ўдалося пусьціць кроў у Копысі, а наконт парадку яму заставалася толькі павучыцца ад рабочых.

## Пэрыод тэрору на Магілеўшчыне.

1905 год даў, апрача вышэйапісаных фактаў, некалькі выпадкаў тэрору. Аб гэтым мы скажам больш падрабязна.

Стрэл рабочага (шаўца) Гіцалева ў Магілеўскага поліцмайстара Радзіёнава ў сьнежні 1905 г.; бомба, кінутая рабочым маляром Брыльёнам у жніўні 1905 г. у Магілеўскага губарнатара Клінгэнбэрга, урэшце, стрэл Язерскай у кастрычніку 1905 г. у таго-ж Клінгэнбэрга, выклікаўшы сур'ёзнае раненьне, і шэраг іншых замахаў — усё гэта этапы, па якіх можна прасачыць паступовы ўзрост рэволюцыйнага руху. Вельмі цікавыя дэталі гэтых спраў высьвятляліся на судзе.

Вось, напрыклад, разглядаецца справа Язерскай Лідзіі. Абарона прадстаўлена тут лепшымі сіламі. Адвакаты малююць портрэт губарнатара Клінгэнбэрга ва ўвесь яго рост, ілюструюць яго чыннасьць, яго расправы, якія выклікалі тэрорыстычны акт.

Старшыня суду часта спыняе абарону, якая тым ня меньш дала добрую характарыстыку провінцыяльнаму сатрапу.

А сама Лідзія Язерская, якая зьмяніла дамавітасьць і дабрабыт шляхецкай сям'і (муж яе С. Язерскі — былы таварыш гарадзкога галавы г. Магілева, праслужыў на гэтай пасадзе некалькі год) на халат катаржніцы, гарда кінула судзьдзям: — Я дачка свайго народу і ўчыніла помсту за народ. Я з вялікай радасьцю выканала даручэньне партыі! (Язерская — член эсэраўскай організацыі).

А вось разглядаецца справа групы гомельцаў, абвінавачаных у хаваньні бомбаў і зброі. Прыгавор дае, зразумела, катаргу. Але тут здараецца нешта такое, што вельмі зьбянтэжвае судзьдзяў у па залочаных мундзірах.

— Якія вы судзьдзі? — пытае ў старшыні адна абвінавачаная маладая дзяўчына: вы проста хуліганы!

Гэты выклік робіць ражаньне выбухнутай бомбы. Зьбянтэжыўся судовы пристаў, ня ведае, што зрабіць яму ў гэтым нязвычайным выпадку. Разявіўшы рот стаяць канвойныя, а падсудная яшчэ раз падкрэсьлівае:

— Хуліганы вы, а ня судзьдзі!

Другі падсудны сьлесар Клім Фляркоў апэлюе да шматлічнай публікі з прычыны дзейнасьці Гомельскай поліцыі, якая вымагала packазаньні ад яго катаваньнем:

— Вось гэтыя каты! паказвае рукой Фляркоў на гомельскіх поліцыянтаў, якія сядзяць у залі, на мясцох для сьведкаў. Спроба старшыні спыніць Фляркова не дасягае мэты. Фляркову ўдаецца намаляваць гомельскі поліцэйскі засьценак (процэс быў у Магілеве ў сакавіку 1907 г., разглядала выязная сэсія Кіеўскай судовай палаты).

Цяпер скажам аб справе двох тэрорыстых, як аб гэтым пісаў: „Могилевский Голос“ ад 9 сакавіка 1906 г.: „7 сакавіка палата разглядала справу 17-гадовага Брыльёна, абвінавачанага ў замаху на б. Магілеўскага губарнатара Клінгэнбэрга, у якога, згодна акту абвінавачваньня, падсудны ў жніўні мінулага году кінуў каля Архіўнага завулку

бомбу, якая не разарвалася. Перш чым перайсьці да апытаньня сьведак і экспэрта палата выносіць рэзолюцыю аб разглядзе справы пры зачыненых дзьвярах. Публіка выдаляецца з залі і праз тры гадзіны выносіцца прыгавор: „Брыльёна засудзіць на 8 гадоў катаргі“.

### Замах на жыцьцё Радзіёнава.

Бразгаючы стрэльбамі, канвойныя ўводзяць у залю суду хлапчука 17 гадоў Г. Гіцалева, якога абвінавачваюць у замаху на жыцьцё Магілеўскага поліцмайстара Радзіёнава.

Вось прыблізныя дэталі справы. 28 студзеня 1905 г. поліцмайстар Радзіёнаў разам з сваёй дачкою праяжджаў па Пішчыкаву завулку ў кірунку Дняпроўскага проспэкту. На правым баку завулку заўважылі 4-х яўрэяў, і ў гэты час былі зроблены 2 рэвольвэрныя стрэлы, накіраваныя ў поліцмайстара, на адлегласьці ня больш 2-3 крокаў. Зрабіўшы затым яшчэ адзін стрэл у дагонку шпарка ляцеўшым санкам, трое з гэтых асоб пабеглі ўніз па Пішчыкавым перавулку, адзін пабег па Дняпроўскім проспэкце і, наколькі гэта можна было заўважыць, схаваўся ў ніжняй частцы рагавога дому. У гэтым месцы выкрылі Г. Гіцалева; каля яго ляжаў рэвольвэр, з якога, па думцы экспэрта, ня было зроблена дзейнага выстралу, бо на адным з патронаў была ўдаўліна і магчыма была асечка. Знойдзеную калошу Гіцалеў прызнаў сваёю. У кішэні яго быў знойдзены фотографічны здымак асобы, затрыманай „за дэмонстрацыю“ (з абвінаваўчага акту). На падставе вышэйпададзенага Гіцалева прызналі за аднаго з 4 людзей, якія стралялі. На гэты тэрорыстычны акт іх штурханула „помста за прасьледваньне соцыял-дэмократаў і распаўсюджаныя чуткі аб катаваньнях палітычных вязьняў у поліцэйскіх засьценках“.

Далей да гэтай справы далучылі ліст, знойдзены ў Гіцалева ў турме. У лісьце былі фразы: „Ніякія ланцугі і катаваньні нам ня страшны!“ „Турма — гэта яшчэ не магіла!“ і іншыя, напісаныя „да таварышоў на волі“.

Выклікаюцца сьведкі. Першым з іх дае паказаньні Радзіёнаў.

— Як вы думаеце — пытае старшыня ў яго — за што на вас маглі зрабіць замах?

— Замах ёсьць адгалосак угамаваньня мною дэмонстрацыі, якая была ў Магілеве за 5 дзён перад гэтым, на якой несьлі чырвоныя сьцягі! — адказвае Радзіёнаў.

— Хто ў гэтай дэмонстрацыі прымаў удзел: яўрэі? рускія?

— Дэмонстрацыя была зьмешаная, але больш было яўрэяў! Заспакаеньне дэмонстрацыі выявілася ў тым, што аднаго студэнта, які страляў у поліцэйскага чыноўніка, поліцыянт моцна стукнуў па галаве рэвольвэрным рулём!

— А запраўды ці хадзілі па горадзе чуткі аб катаваньнях палітычных вязьняў у поліцэйскіх камерах?

— Самыя недарэчныя! Дадумаліся, напрыклад, да таго, што прыпісвалі нам такія чыста інквізіцыйныя прыёмы, як ламаньне пальцаў у дзьвярах... Гэты замах зьявіўся актам помсты мне. Яго выканалі 4 яўрэі, з якіх у рукі суда папаў гэты Гіцалеў.

Далей дае паказаньні сьведка-поліцыянт, які прысутнічаў пры акружэньні дому Сакалова, куды ў вароты забег Гіцалеў.

— Там ён і схаваўся! закончыў сваё паказаньне поліцыянт.

— Скажэцэ, сьведка — пытае старшыня — вы самі бачылі, як Гіцалеў убег у вароты, ці вам гэта паліцмайстар сказаў?

— Так, ваша правасхадзіцельства, пан паліцмайстар сказаў гэта мне, бо пан прыстаў, значыцца, бачылі...

Кароткую і вельмі маляўнічую прамову кажа абаронца І. Ф. Фуровіч. Сказаўшы аб супярэчнасьці ў паказаньнях усіх сьведак, аб адсутнасьці „пэўных улік“, абаронца заявіў: „Гэты замах — адна з праяў ускаламучанага цяпер Расійскага мора, продукт сучаснага расійскага жыцьця, якое імкнецца да волі... Будучая, абноўленая Расія ня будзе ведаць гэтыя злачынствы!“

Палата засуджае Гіцалева ў катаргу на 6 гадоў 6 месяцаў.

## Рэволюцыйны рух сярод шклоўскіх рабочых.

Да 1902 г. аб рэволюцыйным руху ў Шклове гаварыць ня прыходзіцца. Ён паступова нараджаецца з канца 1902 г. Зьяўляюцца першыя спробы заснаваць сувязь з рабочымі фабрыкі, але ў першы час з прычыны таго, што большасьць рабочых былі сяляне, мала сьвядомыя, гэтыя спробы не даюць станоўчых вынікаў, ды і наогул Шклоўская фабрыка ў той час адставала ад іншых фабрык. Першая спроба сувязі з фабрыкай была з боку „Бунду“, але, як мы сказалі, ня мела добрых вынікаў. Гэта усё-такі ня спыніла „Бунд“. ён у пачатку 1903 г. распаўсюджваў на фабрыцы лістоўкі за подпісам Магілеўскага с.-д. камітэту. Лістоўка зьвярталася да рабочых Шклоўскай фабрыкі з заклікам да жыцьця, згуртаваньня, далучэньня да агульнай масы рабочых, якія вядуць барацьбу за вызваленьне працоўных. Лістоўка пакінула глыбокі сьлед сярод рабочых. Рабочыя пачалі арганізоўваць гурткі, якія спачатку слаба працавалі, бо ня было сярод рабочых добрых кіраўнікоў. Праца ажыўлялася ў момант прыезду рэволюцыянэраў-падпольшчыкаў з Воршы і Магілеву. Організацыі зьбіраліся ў двох улюбленых мясцох: у прадмесьці Шклова Француўцы ці на беразе Дняпра ў хмызьняках. Зьбіраліся вельмі консьпірацыйна, дзякуючы чаму за ўвесь час працы гурткоў ня было ні разу правалу. Прыезды таварышоў былі ня частымі, і праца, ў сувязі з гэтым, праводзілася пасыўна, але ўсё-такі трэба сказаць, што праца ня спынялася. Спробы Крывашэіна задабрыць рабочых, яго „падачкі“, на якія шлі ў значным ліку несьвядомыя рабочыя, мелі значэньне і для нарастаньня рэволюцыйнага руху на фабрыцы. Рух пачаў мець перабоі. У гэты час кіраваньне рэволюцыйным рухам з боку „Бунду“ замянілася кіраваньнем з боку „іскраўцаў“.

Гурткі „іскраўцаў“ пачалі расьці хутчэй. З шэрагаў рабочых вышлі організатары гэтых гурткоў, як, напрыклад, Шукальскі Язэп — сьлесар-машыніст і Шчарбакоў Барыс — рабочы папяровай фабрыкі, якія самым актыўным спосабам праводзілі вярбоўку рабочых у гурткі, вялі сярод іх агітацыю, пашыралі літаратуру. Скора была заснавана сувязь з рабочымі іншых фабрык і заводаў: з рабочымі кахляных заводаў у Копысі, дзе рэволюцыйная праца была больш наладжана.

Праца гурткоў пачала пашырацца. Разам з гэтым не адставаў і „Бунд“. Ён чынна падтрымліваў сувязь з фабрыкай. Ён у дзень 1-га траўня 1905 г. распаўсюдзіў сярод рабочых першую проклямацыю, якая высьвятляла значэньне сьвята і давала заклік да барацьбы.

П. Астроўскі.

# Колёніі баброў на рэчцы Сож.

*(Гомельская акруга).*

Па даручэньні Гомельскага краязнаўчага таварыства я і т. т. Зьвінагродзкі, Мерман і Саламыкін зрабілі 22-24 чэрвеня м. г. абсьледваньне бабровых колёній на рэчцы Сож, Чачэрскага раёну, Гомельскай акругі.

Вышэй гораду Веткі, не даяжджаючы вёскі Шапатовіч, ад рэчкі Сож адыходзіць у правы бок рэчка Старык, якая недалёка ўпадае ў рэчку Ліпу, а Ліпа ў сваю чаргу—у рэчку Сож. Такім чынам памянёныя рэчкі ўтварылі востраў абшарам каля 800 дзесяцін зямлі. На гэтым востраве пасьля рэволюцыйных часоў утварыўся пасёлак Востраў з 12 гаспадаркамі.

Увесну і ўвосень востраў гэты на вялікім абшары ахапляецца вадою і зносіны з ім адбываюцца толькі на чаўнох. Наўкола вострава



Пень паваленага бабрамі асінавага дрэва ў вур. Перакоп.

ў берагох рэчкі Сож разьмясьціліся пяць бабровых колёній: вур. Старык, Яршова Валока, Ялізваў (часовая колёнія), Перакоп і Рачышча.

Калі ехаць па рэчцы Сож зьверху ад вёскі Шапатовіч, дык не даяжджаючы пасёлка Вострава ў вурочышчы Яршова Валока супроць вур. Ялізгава (назва часткі вострава) Сож на левым сваім беразе ўтварыў ціхую затоку, падобную да падковы. Глухі канец затокі накірованы ўверх Сажа і аддзяляецца ад яго лазовым зарасьняком на два-тры сажні. Такім чынам паміж затокай і Сажом таксама ўтварыўся падковападобны паўвостраў, які ўвесь зарос лазой, а па другі бок яго

цягнецца на некалькі вёрст удаўжкі і ўшыркі нізкі луг вуроч. Сьвенч, увесь пакрыты лазьняком.

У верхняй частцы гэтае затокі (лічачы зьверху Сажа) сажняў у 10 ад левага берагу Сажа і ад глухога канца затокі ёсьць бабровая хатка, якая пабудавана 6-7 год таму назад з дубцоў і валежніку. Кожны год бабры рамантуюць і паднаўляюць сваю хатку. Пры нашым аглядзе хаткі аказалася, што яна пабудавана ў некалькі паверхаў над роўнем вады, вышынёю ў рост сярэдняга чалавека. Хатка мае выгляд тупога стажка (конуса). Зьверху стажка ляжаць больш тоўстыя дубцы, а на іх камкі зямлі і дзёрну. Надворны бок хаткі не паказвае правільнасьці разьмеркаваньня дубцоў. Яны ляжаць у розных напрамках, і, як відаць, бабры ня дужа клапоцяцца аб правільнасьці і характве знадворнага боку хаткі. Затое моцнасьць хаткі вельмі вялікая. Яна вольна вытрімлівае цяжар двох чалавек, якія ўсходзілі на самы яе верх. Асаблівую ўвагу бабры зьвярнулі на нутраную частку будоўлі. Дубцы ўнутры хаткі раскладзены так, каб добра было сядзець на задніх нагах і апірацца пярэднімі, а зьверху, па бакох і ўніз ёсьць невялікі вольны прастор, які запаўняецца вадой у часе яе падняцьця.

Мы бачылі такія два верхнія паверхі, але колькі іх ёсьць унутры хаткі—невядома. Паводле нашых меркаваньняў іх можа быць 5-6.

Да хаткі і затокі ў беразе ёсьць тры ходы: адзін па сярэдзіне 2 па бакох хаткі. З Сажа таксама ёсьць ходы, але мы знайшлі толькі



Ход у норку баброў у вуроч. Перакоп.

адзін, які злучае Сож з хаткай і затокай. Апрача гэтага затока з Сажом злучаецца канаўкамі, якія, як відаць, выкапаны самімі бабрамі.

Аб жыцьці баброў у гэтым годзе ў хатцы відаць з наступных абставін: пры аглядзе намі хаткі мы знайшлі ў ёй сьвежаабгрызаныя лазовыя дубцы, такія-ж дубцы знайшлі каля хаткі на дне затокі і сьвежазгрызаныя пні лазьняка. Апрача гэтага, недалёка ад гэтай мясцовасьці ў мінулым годзе бачыў баброў гр. Андрэеўскіх хутароў Якаў Драбышэўскі.

Па абгрызцы дубцоў і па сьлядох зубоў можна з пэўнасьцю сказаць, што гэта работа маладых баброў.

Ніжэй вуроч. Яршова Валока рэчка Сож робіць круты паварот направа. Тут паміж рэчкай і высокім берагам лесу вурочышча Яліснаў супроць „пасекі" Мельнікава ёсьць ня шырокая, але доўгая затока, якая летам высыхае, а вясной мае глыбіню вышэй сажня. Ідучы па беразе лесу, мы выпадкова натрапілі на кучу лому, наваленага пад дубам на беразе затокі. Калі мы падышлі да гэтай кучы лому і таркнуліся да яе кіёчкам, дык пад кучай раздаўся вельмі моцны пляск, характэрны для бабра, але самога бабра мы ня бачылі. Праз некаторы час, узяўшы човен і аглядзеўшы гэтае месца з боку затокі, мы заўважылі, што пад дуб, на карэньні якога накідана ламачча, вядуць некалькі нор-ходаў. Дзякуючы таму, што ўлетку вада тут высыхае, гэта дае нам мажлівасьць зрабіць вывад, што бабры, апрача сталых сваіх памяшканьняў, будуюць і часовыя, на час высокага роўню вады. Недалёка ад гэтага месца навальніцай, якая была ў красавіку гэтага году, вывернута з карэньнямі некалькі дзесяткаў асін. Большая частка гэтых асін ужо абгрызена бабрамі. Коз на востраве зусім няма, а зайцоў вельмі мала.

Вурочышча Перакоп. Ніжэй пасёлка Вострава, недалёка ад упадзеньня рэчкі Ліпы ў рэчку Сож, на правым беразе Сажа ёсьць невялікае возера Перакоп. Возера аддзелена ад Сажа маленькай грывай



Хатка баброў у вур. Яршова Валока.

лазьняку і злучаецца з ім канаўкамі. Гэтае возера, таксама як і затока Яршова Валока, мае падкովападобную форму. Па вялікім крузе гэтай падковы (возера) ідзе высокі лясісты бераг, а процілеглы бераг зарос лазьняком. У гэтым высокім лясістым беразе возера ёсьць пяць бабровых нор. Чатыры з іх зарасьлі і, як відаць, у іх бабры ўжо ня жывуць. А ў першай, крайняй ад Сажа, ходы пачышчаны і ў адным з хадоў намі знойдзены сьвежаабгрызаныя лазовыя дубцы. Недалёка ад нары мы знайшлі сьляды бабра, які сядзеў на беразе на краю вады.

Сьляды задніх ног значна большыя і на іх відаць перапонкі паміж пальцаў, а пярэднія без перапонак, але з вострымі кіпцюрамі.

Памяшканьні-норы бабры будуюць тут такім чынам: выкопваюць з возера (пад вадой) некалькі ходаў у беразе, якія ідуць далей і вышэй ад вады, потым гэтыя ходы (норы) сходяцца і ў канцы іх бабры выкопваюць досыць вялікую круглую яму, падобную на купал, якая высьцілаецца тонкімі дубцамі і травой. Колёніі урочышча Старык і Рачышча намі не абсьледваны.

Апісаныя мясцовасьці вельмі добра прыстасаваны да жыцьця баброў. На вялікім абшары вакол вострава цягнуцца нізкія лугі, якія пакрыты лазьняком і вясной і ўвосень заліваюцца вадой, а на востраве ёсьць досыць вялікі лес.

З апавяданьняў старых людзей выяўлена, што раней у гэтых мясцох баброў ня было і што яны перасяліліся сюды ў часы вайны (1914-1916 г. г.) з рэчкі Гніва, за чатыры-пяць вёрст адсюль. Спачатку зьявіліся адзіночкі, а потым і цэлыя сем'і. Да перасяленьня бабры вадзіліся на рэчцы Гніва, у мясцох цяперашняга хутару Якава Драбышэўскага, але ў сучасны момант іх там нідзе няма. Перасяленьне баброў адбылося дзякуючы таму, што іх памяшканьні былі разбураны паляўнічымі. Паводле паказаньняў тых-жа мясцовых жыхароў і рыбакоў-старажылаў наўкола вострава ёсьць да 10 сям'яў баброў. Сем'і бываюць ад трох да пяці і больш членаў, але якая тут наогул колькасьць баброў, ня выяўлена. Толькі тое выяўлена, што тут жыве бабёр—Castori fiber, які корміцца карой асіны, лазы, радзей дубу, а таксама сьцяблами і карнявішчамі вадзяных расьлін. Па паверхні вады бабры любяць паплаваць у вячэрнюю і ранішнюю зару. Перад тым, як паказацца на паверхні вады, бабёр асьцярожна высоўвае спачатку сваю мордачку, аглядае прастор наўкола і калі нічога асаблівага не заўважае, тады ўжо вылазіць увесь на паверхню вады. Паплаваўшы даволі, бабёр ціха апускаецца на дно рэчкі (возера), нават паверхня вады не скалыхнецца, як-быццам на гэтым месцы нікога і ня было.

Праглядаючы лазовыя кусты і дубцы, зрэзаныя бабрамі, мы заўважылі, што яны зразаюцца наўкос. Як на пнёх, таксама і на зрэзаных дубцох добра відаць сьляды долатападобных загнутых па краёх зубоў. Гацей бабры ў гэтай мясцовасьці ня будуюць, ды ім яны і не патрэбны таму, што ровень вады і абшары яе бываюць досыць вялікімі цэлы год.

Ахова баброў пастаўлена ня дужа добра. Ня гледзячы на тое, што ёсьць наглядальнік і вартаўнік колёній, усё-ткі мясцовае насельніцтва высякае лазу і лес у мясцох бабровых колёній.

Зробленае абсьледваньне бабровых колёній зьяўляецца пачаткам дасканалага вывучэньня краязнаўчым таварыствам жыцьця баброў. Ужо выпрацавана інструкцыя па ахове і нагляданьні за бабрамі, выкананьне якой даручана наглядальніку і вартаўніку бабровых колёній. Апрача таго мяркуюцца выезды сяброў таварыства для непасрэднага вывучэньня жыцьця баброў на месцы.

З сабранага пры абсьледваньні матар'ялу (малюнкі: хаткі, нораў, затокі і схэматычнай карты, абгрызеных дубцоў, пнёў зваленых бабрамі дрэў) зроблены экспонат для музэю мясцовага краю.

Усевалад Мікіцінскі.

# Дванаццаць дзён краязнаўчага вандраваньня.

*(Матар'ялы з падарожы па Слуцкім, Грэскім, Пухавіцкім і Стара-Дароскім раёнах).*

## Ад Слуцку да Грэску.

25 ліпня, чуць золак, са скруткамі праз плячо, з торбамі па бакох, вышлі з Слуцку. Надвор'е не абяцала быць добрым, хмурылася, але для пешага вандраваньня спрыяла, толькі-б ня дождж! Вабяць да сябе Грэскія лясы-гушчары і вялізныя балотныя абшары па Птычы. Першую на дарозе вёску — Лучнікі, пакідаем убаку, накіроўваемся ў напрамку на Грозава, па гасьцінцы. Абапал пасевы жыта, ячменю, аўсу і іншага збожжа. Нідзе ня відаць ні лесу, ні гаёў, усюды толькі палі, ды невялічкімі выспачкамі дзесь далёка чарнеюць вёскі. Каля Васілінкаўскіх хутароў сярод пасеваў пачынаюць трапляцца хмызьнякі—рэшткі былых лясоў. Ад Васілінкаўскіх хутароў даходзім да Бокшыцкіх пасёлкаў. Відаць, што гаспадары жывуць нішто сабе: будова добрая, некаторыя пазаводзілі невялічкія садочкі, у якіх пануючым дрэвам зьяўляецца вішня. Адсюль зьвярнуўшы ўбок, пайшлі на вёску Ушаловічы, да якой і даходзім збожжавымі палямі. Вёска невялічкая, уся ў дрэвах, гэта значна яе прыхарошвае. Характэрнай асаблівасьцю трэба лічыць багацьце ўзораў орнамэнту, якімі аздоблены вокны і шчыты на хатах. Тут упяршыню прышлося заўважыць сучасныя мотывы ў аздабленьнях: часта сустракаюцца пяцікутныя зоркі, сярпы, малаткі, усё гэта скампанавана досыць удала. Замаляваўшы некаторыя орнамэнты, пайшлі на в. Шулякі праз луг. Краявід трохі мяняецца: па адзін бок алешнікавы хмызьняк і бярозавыя гаі, па другі— дрэнная балотлівая сенажаць, на якой працавалі сяляне. Пакінуўшы ўбаку хут. Жук, зайшлі ў вёску Уланава папіць вады. Вёска маленькая, уся ў гушчыні дрэў; тут на пяшчаным узгорку стаяць адзінокія могілкі з некалькімі бярозкамі і пахілымі, спарахнелымі крыжамі.

Адсюль пераходзім на новую, толькі насыпаную дарогу, па якой ніхто яшчэ ня езьдзіў; думалі па ёй прайсьці на Грэск, праз в. Шулякі, але даведаўшыся ад рабочых аб сваёй памылцы, вяртаемся назад, праходзім полем, потым трапляем на бальшак, якім і падыходзім да Шулякоў. Пачаў кропаць невялічкі дождждык, ад якога хаваемся пад страху, каб трохі адпачыць.

Шулякі вёска досыць значная, налічвае 103 хаты, з надворнага боку нічым не адзначаецца. Жыхарства жыве бедна з прычыны дрэннае глебы; частка іх аб'яднана ў малочную арцель, якая вырабляе сыры. У Шулякох знаходзіцца сельсавет, школа, прыпынак пошты. Недалёка, на так званым Хрэнаўскім полі, раскідана каля 10 курганоў, у большасьці раскопаных, дзе трапляліся знахадкі каменных малаткоў. У адлегласьці 1 кілёмэтру дарогу прарэзвае невялічкая рачулка, з чыстай вадой і берагамі парослымі алешнікам. Далей праходзім балотлівай нізінай, хмызьнякамі, якія паступова пераходзяць у значны алешнік і бярэзьнік. Трохі прайшоўшы, мясцовасьць прымае іншы характар, пераходзячы ў больш узвышаную і пяшчаную. Тут мэтрах у 60 ад дарогі раскідана каля 6 вялікіх курганоў, а ля самае дарогі прытуліўся ветраны млын; значна далей, сярод купін дрэў відаць ху-

тары. Не даходзячы кілёмэтры 4-5 да Грэску, мінуўшы вёску Боркі, знаходзяцца былыя торпараспрацоўкі і цагельня, якія ў сучасны момант не працуюць. Цяпер засталося зусім недалёка да Грэску. Спыняемся, прыводзім сябе ў парадак: абчышчаем пыл, папраўляем скруткі і торбы. Недзе на палёх чуваць сьпевы жанчын,—то зажынаюць жыта. Такім чынам, у гадзін 10½ уваходзім у мястэчка Грэск.

### Мястэчка Грэск.

Трапіўшы ў Грэск, у першую чаргу зьявіліся ў райміліцыю, каб зарэгістраваць докумэнты. Тут нас ветла сустрэў начміліцыі, тое-сёе параіў, пералічыў асоб, якія цікавяцца краязнаўствам. З міліцыі накіраваліся ў Р. В. К. для атрыманьня начлегу. Тут атмосфэра зусім іншая,



Мястэчка Грэск. Агульны від з замчышча.

прасочваецца чыноўны дух, але нарэшце атрымалі запіску да старшыні Грэскага сельсавету, дзе мы сустрэлі больш чулыя адносіны. Вядомая рэч, старшыня сельсавету чалавек просты і чынам ніжэйшы, аднёсься да нашае справы больш жвава, хаця нейкі час з задумёнасьцю аглядаў паперку і, перачытаўшы некалькі разоў, запытаў: „а што такое будзе краязнаўства пабеларуску?“ Атрымаўшы належныя тлумачэньні, пайшлі шукаць памяшканьне, што ў Грэску знайсьці ня зусім лёгка. Хацелі даць нам начлег у Файнбэрга, дзе застанаўліваюцца асобы матар‘яльна забясьпечаныя, але даведаўшыся, што краязнаўчыя кішэні досыць дзіравыя, твар старшыні выцягнуўся, ня ведаў, што рабіць, прышлося прымаць гэроічныя крокі, ну,—значыцца пайшлі вандраваць па непролетарскім элемэнце мястэчка, дзе і атрымалі належнае паводле чыну і сродкаў. Трохі адпачыўшы, накіраваліся аглядаць мястэчка.

Грэск лічыцца адміністрацыйным і культурным цэнтрам Грэскага раёну Менскай акругі. З надворнага боку ён не падобен да нашых мястэчак, якія маюць свой спэцыфічны твар, гэта хутчэй будзе вялі-

кая вёска. Распаложана мястэчка на значных узгорках, што надае яму хараство. Вуліц ёсьць 8: Лава, Крывая, Краўцовая, Замагільная, Шышчыцкая, Сьцяпкоўская, Аселіца і Куток. Пры ўваходзе ў мястэчка стаіць ветраны млын. Прайшоўшы троху далей, вуліцу перасякае безназоўны ручай, ад якога, праз мост, дарога досыць крута падымаецца ўгору. Па левы бок маста, над ручаём узвышаецца аграмадная гара, пад назвай „Замчышча". Тут, у далёкім мінулым, стаяў замак, аб якім сярод жыхарства захаваліся розныя паданьні. Прайшоўшы яшчэ троху, да верхавіны ўзгорку, трапляем на вялікую плошчу, дзе пры ўваходзе з правага боку знаходзіцца школа і коопэратыў, а з левага—аптэка і амбуляторыя. Наўкол плошчы разьмешчаны: Райком комсамолу, інтэрнат для служачых розных установ, пара піўных, другі коопэратыў, райміліцыя і пошта; потым ідуць некалькі прыватных крамак дробнага гандлю. Амаль пасярэдзіне плошчы знаходзіцца царква з каменнай брамай, досыць цікавай архітэктуры. Абнесена царковішча парканам з цэглы і абсаджана вялізарнымі ліпамі. Недалёка царквы стаіць каменная капліца, каля якой знаходзіцца мясная крамка. Праз нейкі завулак, або двор, трапляем на другую плошчу, дзе ў вялікім будынку зьмяшчаецца РВК, каля якога ў прыгожым памяшканьні знаходзіцца сельсавет і клюб, які мае бібліотэку і радыё. Прыватныя дамы нічым не адрозьніваюцца ад звычайных сялянскіх хат, крыты яны ў большасьці саломай. Двары пазавалены розным сьмецьцем і толькі сям-там пры дварох ёсьць невялічкія сады з пладовымі дрэвамі. Насельніцтва ў Грэску налічваецца каля 2000 чалавек, з якіх сямействаў 15 яўрэяў, якія займаюцца дробным гандлем, саматужніцтвам і земляробствам. Беларускае насельніцтва выключна земляробскае; сеюць: жыта, авёс, ячмень, картоплі, але з прычыны дрэннае глебы ўраджаі бываюць нязначныя, што прымушае некаторую частку насельніцтва шукаць пабочнага заробку, асноўным з якіх і зьяўляецца здабываньне вапняку і апальваньне вапны. У канцы аднае з вуліц Грэску, недалёка могілак, знаходзіцца невялічкі ўзгорак, на якім пабудаваны вепенныя печы, лікам 12. Пабудова вапенных печаў справа ня вельмі складаная, робяцца яны наступным чынам: недалёка краю ўзгорку выкопваюць яму глыбінёй да аднаго сажню, потым абраўняўшы зямлю з краю узгорку, падкопваюцца да ямы,—гэта ўваход у печку. Усё гэта як унутры, гэтак і знадворку абкладаецца каменьнямі. Каб неабсыпалася зямля, робяць яшчэ загародкі з дошак, якія зьмяшчаюцца над уваходам печак. Калі будуюцца печы пасярэдзіне ўзгорку, то ў такім выпадку капаюць дзьве ямы, якія злучаюцца падкопам праз сьценку, з якіх адна служыць печкай, а другая памяшканьнем для працуючых. Для выпальваньня вапны вапняк складаецца ў выглядзе скляпеньня: спачатку кладуць буйнейшыя, а потым драбнейныя кавалкі, такім чынам яму закрываюць быццам шапкай. Процэс выпальваньня працягваецца тры дні, паляць покуль ня зьявіцца полымя. У сучасны момант над здабываньнем вапны працуюць 16 чалавек. З кожнае печы за адзін раз атрымоўваюць да 600 пудоў вапны. Здабываньне яе, паводле слоў тубыльцаў, не дае амаль ніякага прыбытку з наступных прычын: папершае—мясцовыя запасы скарыстаны, раскопваць замчышча, дзе ёсьць сыравіна, забаронена, прыходзіцца езьдзіць у суседнія вёскі Ануправічы і Покрашава, дзе за адну яму мясцовыя гаспадары бяруць ад 6 да 8 рублёў. Другая прычына—дарагоўля апалу, трэцяя—продукцыю прыходзіцца вывозіць вёрст за 80, а галоўнае тое, што няма каму прадаваць. Апошні час вапну выпальваюць

толькі тады, калі пачуюць, што дзе-небудзь будуюцца і патрэбна вапна. Пакупцы выкарыстоўваюць дрэнныя ўмовы збыту, даючы зрэдку за воз вапны 8—10 руб. Выпальваньне вапны ў сучаснасьці зьяўляецца працай сэзоннай, займаюцца ёю па восені і па спэцыяльных заказах.

Азнаёміўшыся з мястэчкам, накіраваліся для агляду помнікаў старасьветчыны, выдатнейшым з якіх трэба лічыць замчышча. Трэба адзначыць, што Грэск мае сваю значную гісторыю. Першыя весткі аб ім сустракаюцца пад 1558 г., з якіх відаць, што ў гэтыя часы ён належаў да Мартына Валатковіча, прычым паміж апошнім і кн. Слуцкімі Юр'ем і Сымонам Алелькавічамі вяліся спрэчкі з прычын захопу



Мястэчка Грэск. Вапенныя печы.

Алелькавічамі зямлі Валатковіча ў м. Грэску. У 1570 г. прывілеем караля Жыгімонта Аўгуста Грэск атрымоўвае правы мястэчка, і ў ім засноўваюцца штотыднёвыя таргі. У пачатку XVIII ст., ласьне ў 1723 г., Грэск зьяўляуся маемасьцю кн. Радзівіла-Гітнэра. У часы ўвядзеньня уніі Грэская царква была абернута ў уніяцкую. Яшчэ ў канцы XIX ст. наўкола Грэску і нават на двары папа было шмат курганоў, якія мясцовае насельніцтна зьвязвае з часамі мангольскіх нападаў. Трэба адзначыць, што ў Грэску ўсе гістарычныя паданьні гавораць аб гэтых часох, што сьцьвярджаецца некаторымі знаходкамі, пры частковых раскопках на замчышчы. Але перш, чым гаварыць аб іх, спынімся на апісаньні гэтага выдатнага помніку. Знаходзіцца замчышча ў адлегласьці 150 мэтраў ад мосту і мае па верхняй плошчы ў даўжыню 100 мэтраў і шырыню 85 м. Узвышаецца яно над роўнем вады ў ручаі прыблізна мэтраў на 15, абкружана глыбокім і шырокім ровам, дзе працякае ручай, які, злучаючыся з ровамі, забясьпечваў ад подступаў да замку. У сваю чаргу ручай быў зьвязаны з возерам, ад якога засталіся адзнакі ў выглядзе балотца, пад назвай „Азярышча". Знаходзіцца апошняе ў адлегласьці 1½ в. ад замшчышча. Равы калісьці былі глыбокімі і шырокімі, бо зараз на іх дне і часткова па схілах,

распаложаны гароды, палеткі і паасобныя сядзібы. Пасярэдзіне замчышча захавалася ўзвышэньне, на якім, мабыць, стаяў замак. Уся плошча замчышча была абкружана нейкімі акопамі ў выглядзе ламаных ліній, якія ў некаторых мясцох добра захаваліся. Да якіх часоў яны адносяцца,—невядома. Схілы замчышча стромкія, акрамя месца з боку мосту. На паўночным усходзе засталіся рэшткі нейкіх слупоў і каменьня, як відаць былога мосту, па якім замчышча злучалася з тэрыторыяй. Уся паўночна-ўсходняя частка замчышча парасла вялізарнымі грабамі і вязамі, якія выцягнуліся ланцугом. Паўночны бок зрыты значнымі ямамі, з якіх насельніцтва брала вапняк. На замчышчы таксама захаваліся акопы часоў імпэрыялістычнае вайны. Тутэйшыя людзі апавядаюць, што ў даўнія часы на гары стаяў княжыцкі замак, наўкол якога, на нязначнай адлегласьці, былі распаложаны слабады замкавых людзей, прызначаных для абароны замку; апошні быў зьнішчаны ў часы мангольскага нападу. Гэтае паданьне сьцьвярджаецца некаторымі фактычнымі матар'яламі, здабытымі пры капаньні вапняку і досьледамі мясцовага настаўніка-краязнаўцы Сасноўскага. Апошнім у 1927 г. на паўночна-ўсходняй частцы замчышча была раскопана магіла, на якой ляжаў намагільны камень у форме сэрца. У магіле знайшлі добра захаваны касьцяк, галавой на захад. Пры шкілеце ляжаў мэталёвы значок, які, паводле меркаваньняў мясцовых знаўцаў, адносіцца да вайскова-начальніцкай адзнакі. Чэрап быў старанна дасьледваны доктарам, які прызнаў яго бязумоўна мангольскім. Сярод касьцякоў, якіх шмат знаходзілі на замчышчы, трапляліся дзіцячыя і жаночыя. Гадоў 6 таму назад сяляне, капаючы вапняк, трапілі на нейкія падземныя лёхі, вылажаныя цэгламі, пры ўваходзе ў якія былі складзены запасы яе, цэглу насельніцтва пазабірала; дасьледваць лёхі пабаяліся, так яны паступова засыпаліся, і месца гэтае цяжка знайсьці. На верхняй плошчы замчышча ў часе раскопваньня наткнуліся на нейкую вузкую, круглую трубу, вымураваную цэглай, мабыць студню, у якую апускалі доўгую жардзіну, але дна не дасталі. Гэтае месца і зараз можна пазнаць па дзьвюх упадзінах, якія кожны год патроху асядаюць.

Гісторыю недалёкага мінулага Грэску лепш за ўсіх памятуе селянін Сямён Вітка, ён самы стары чалавек у мястэчку. Паводле слоў, каля Грэску было шмат лесу. Грэск быў тады нязначным мястэчкам у 100 двароў. На ўсё мястэчка было 10 коняй, зямлю апрацоўвалі на валох. Ён казаў, што выпальваньне вапны вядзецца з даўных часоў, яшчэ дзяды яго бацькоў займаліся гэтым. Пры абшарніку за права выпальваньня вапны плацілі падатку 10 р. у год. У Грэскіх лясох вадзілася шмат зьвярыны, лясы-ж служылі прытулкам хлопцам, якія ўцякалі ад набору ў рэкруты, хаваючыся ў іх ад Пакрава да Раства. Царква не захавала ніякай старажытнасьці, пабудавана яна замест згарэўшае ў 1848 г. З боку архітэктуры досыць цікавая.

З дзейнасьці грамадзкіх організацый варта адзначыць саюз паляўнічых, організаваны яшчэ ў 1917 г., у сваім складзе ён налічвае да 280 асоб. Дзейнасьць яго праходзіць досыць жвава, асабліва саюз рашуча змагаецца з ваўкамі, робячы рэгулярныя аблавы. У 1928 г. зьнішчана каля 30 штук, прычым чатыры сямейства разам з маладняком.

Калісьці ў Грэску было Краязнаўчае Т-ва ў 48 асоб, старшынёй якога быў Тав. Сасноўскі, але паступова праца замірала і, ня гледзячы на гэроічныя меры апошняга, зусім спынілася, існуе цяпер толькі на

паперы. Як адзнакі былое дзейнасьці захаваліся пры школе некаторыя музэйныя рэчы і апісальныя матар'ялы. Азнаёміўшыся з мястэчкам і па мажлівасьці дасьледваўшы, зайшлі на разьвітаньне да тав. Сасноўскага, які параіў нам заглянуць у мясьціны, цікавыя з краязнаўчага боку. Такім чынам 26 ліпня а 10 гадзіне раніцы пакінулі Грэск і накіраваліся на Вераб'ёўскія лясы.

## Ад Грэску да Вераб'ёўскіх лясоў.

Выходзячы з мястэчка, праходзілі каля паравога млына, які не працаваў. Дарога да вёскі Маразоў ідзе сярод розных пасеваў; лясы,



Хутар Вежы гр. Міхася Шклярэўскага (Грэскі раён).

да якіх мы так імкнуліся, яшчэ далёка, ледзь адзначаюцца на небасхіле сіняй істужкай. Маразы—вёска маленькая, хат 25, але мае сваю асаблівасьць: хаты ў ёй стаяць па адзін бок вуліцы, а гаспадарчыя будовы—насупраць па другі бок. Дамы ў адносінах да вуліцы распляніраваны парознаму, то шчытамі да яе, то бокам. Наступная вёска Забелы ня больш дзьвюх вёрст ад Маразоў. Паміж гэтымі вёскамі ў паўднёва-ўсходнім напрамку, каля дарогі раскідана група кургаНоў да 40 штук. Забелы—нязначнае паселішча, двароў ня больш 25. У вёсцы ёсьць цікавая з архітэктурнага боку царква, багата аздобленая рознымі орнамэнтамі. Час не дазваляе доўга затрымлівацца ў вёсцы, таму рушым далей у вёску Шышчыцы, да якой і даходзім збожжавымі палямі.

Шышчыцы зьяўляюцца адміністрацыйным пунктам Шышчыцкага сельсавету, таму лічым неабходным зайсьці ў сельсавет явіць дакумэнты і пагутарыць з прадстаўнікамі ўлады. Сустрэлі нас тут вельмі ветла і гасьцінна, сакратар нават паклапаціўся, каб было чым падмацавацца. Пашлі са старшынёю і сакратаром аглядаць вёску. Мае яна

дзьве вуліцы, адна з якіх распаложана на ўзгорку, а другая праходзіць часткова па нізіне, дзе працякае маленькая рачулка Жалезьніца, якая ўпадае ў Случ. У часе вясновае павадкі, а таксама пасьля значных дажджоў, яна выходзіць з берагоў, залівае нізінную частку вуліцы, наносячы шмат страт і клопату. Вёска мае двароў каля 105, будова ня дрэнная, хаця сялянства жыве бедна. Вуліцы гразкія, з прэтэнзіяй на брукаваньне, якое выяўляецца ў тым, што сяляне бяз усякае сыстэмы кідаюць на іх каменьні. Абапал вуліц пракопаны канаўкі, над якімі з розных дручкоў і кавалкаў дошак змайстраваны саматужныя тротуары, небясьпечныя для пешаходаў. Сярод будынкаў кідаецца ў вочы значны лік новых хат, гэта вынікі пажару 1921 году.

Глеба ў сялянства дрэнная—пяшчаная за выключэньнем невялікага кавалку па нізіне ля рэчкі, дзе распаложаны гароды. Сяляне з нецярплівасьцю чакаюць таго часу, калі іх расплянуюць на пасёлкі, а тым часам вёска ўсё расьце і расьце. Неўрадлівая глеба вымагае шукаць пабочных заробкаў, якімі і зьяўляюцца лесарубства і возка. У вёсцы знаходзяцца наступныя ўстановы: сельсавет, 2-хкомплектная школа, спажывецкая крамка, пажарная дружына. Пры сельсавеце ёсьць ложак для маючых патрэбу пераначаваць, утрымоўваецца ложак чыста, коўдра і падушкі добрыя. У вёсцы ёсьць 2 партыйцы, 2 кандыдаты і 2 комсамольцы.

Адзначаюцца Шышчыцы некаторай старасьветчынай: пры ўваходзе ў вёску, збоку Забел, на могілках стаіць старая капліца ў выглядзе 2-х скрынак, з якіх адна меншая, стаіць на большай, з нейкай цыбулінкай замест купалу, але, не зважаючы на простую архітэктуру, яна захоўвае значныя вартасьці ў якасьці вобраза „божай маці“, прыгожага пісьма і пераноснага вобраза з подпісам 1791 г. Таксама сяляне апавядаюць, што на значнай адлегласьці ад ручаю Жалезьніцы знаходзяцца рэшткі нейкіх слупоў з жалезнымі ланцугамі і колцамі. Па іх думцы, на гэтым месцы была калісьці прыстань нейкай буйной у мінулым рэчкі.

Разьвітаўшыся пабратэрску з працаўнікамі сельсавету, пайшлі далей. Праходзячы праз вёску, заўважаем у аздабленьні хат орнамэнты на сучасныя мотывы, скомпанаваныя з пяцікутных зорак.

У вёску Замосьце ідзем не па дарозе, а па вузкай сьцежцы сярод жытняга мора. Вёска Замосьце, як і Шышчыцы, распаложана на значным узгорку. Мае адну вялікую і тры невялічкія вуліцы, адна з якіх досыць крута падымаецца ў гору, на якой стаіць касьцёл. Налічвае вёска 124 хаты. Насельніцтва ў пераважнай частцы каталікі, як і ў вакольных засьценках і хутарох. Жыве насельніцтва бедна, глеба пяшчаная, неўрадлівая. Падсобным заробкам для жанчын служыць зьбіраньне грыбоў і ягад, па якія яны ходзяць грамадой вёрст за 10—15, у самыя гушчары грэскіх лясоў. Ягады і грыбы яны праменьваюць у бязьлесных вёсках на лён. Цікава адзначыць, что каміны тут лепяць з гліны, беляць іх і ўтыкаюць дробнымі каменчыкамі. Як касьцёл, так і званіца адзначаюцца простасьцю архітэктуры. Абнесены касьцёл парканам і абсаджаны дрэвамі, каля якіх прыкметна некалькі курганоў. Ад Замосьця да славутых грэскіх лясоў зусім блізка.

### Вераб’ёўская пушча.

З Замосьця кіруемся на Вежы, дзе ў гушчыні Вераб‘ёўскае пушчы, як мядзьведзь у бярлозе, зарыўся ўсім вядомы гр. Міхась Шклярэў-

скі, аб якім ходзяць самыя фонтастычныя чуткі. Завуць яго дзікім чалавекам; вось туды і ідзем, каб пазнаёміцца з Шклярэўскім.

Пакінуўшы Замосьце, пытаем бліжэйшую дарогу на Вераб'ёва і, атрымаўшы шмат рэцэптаў, выбіраем той, які нам прыходзіцца больш да густу. Краявід патроху пачынае зьменьвацца: адышоўшы ад Замосьця ня больш кілёмэтру, увайшлі ў першы раз па выхадзе са Слуцку спачатку ў невялічкі хвойнічак, а потым у запраўдны вялікі лес. Тут да самага Вераб'ёва, дзе знаходзіцца лясьніцтва, прышлося ісьці ўвесь час сярод хвой-волатаў, якія абступілі дарогу з двух бакоў вялічэзнай грамадою. Кідаеш вачыма ўгару, каб угледзець кавалачкі блакітнага неба. Усюды пануе цішыня і толькі ледзь чуваць шэпты верхавін дрэў. Як прыемна і разам жудасна! Адчуваеш сябе сярод гэтых волатаў нейкім мізэрным, маленькім. Так, гэта запраўдны лес! Праходзім моўчкі нейкі час і вось на скрыжаваньні дарог стаіць слуп з надпісам: Вераб'ёўская лясная дача Грэскага Лясьніцтва Б. С. С. Р. Адсюль, прайшоўшы ня больш кілёмэтру, лес няпрыкметна пераходзіць у прыгожыя прысады, якія прыводзяць нас да лясьніцтва. Вечарэла, зьбіраўся дождждык, адчувалася зморанасьць. Сігаем па пасёлку шукаючы месца для адпачынку і начлегу, які і знаходзім у апошняй хаце. Гаспадары ветла і гасьцінна аднесьліся, даведаўшыся, што мы краязнаўцы.

На другі дзень чуць золак усхапіліся і пайшлі аглядаць Вераб'ёва. Пасёлак невялічкі, раскінуўся сярод лесу. Тут калісьці была лесапілка, спаленая бандытамі ў 1921 г. Працавала яна вельмі жвава. Ад яе і да ст. Рудзенск была пракладзена вузкакалейка для вывазу лесаматар'ялаў, але ў сучасны момант ад яе нічога не засталося, затое атрымалася добрая дарога. Пасёлак складаецца з памяшканьняў лясьніцтва і паасобных дамоў, у якіх калісьці зьмяшчаліся рабочыя заводу. Пасьля пажару пільні частка рабочых засталася на месцы, заарэндавала зямлю і дамы ад лясьніцтва. Кантора лясьніцтва, а таксама кватэры служачых зьмяшчаюцца ў вялікім будынку, абсажаным наўкол бэзам, тут-жа ёсьць пладовы сад. Каля саду і будоўлі праходзяць прысады, абсаджаныя лісьцьвеніцамі, клёнамі і елкамі. Пасёлкавыя дамкі параскіданы сярод лесу нібы дачы, даглядаюцца яны, відаць, ня вельмі добра. У кожным доме жыве па некалькі сямействаў. Насельніцтва займаецца земляробствам, хаця ўмовы для гэтага няспрыяючыя з прычыны глыбокіх пяскоў. Апрача земляробства, люднасьць служыць у лясьніцтве, альбо так ці іначай зьвязана з ім, працуючы ў лесе.

Трэба адзначыць, што некаторыя жыхары жывуць нішто сабе: маюць сенажаці, трымаюць жывёлы. Праз Вераб'ёва працякае рачулка Жалезьніца. У пасёлку ёсьць смалярня, якая вырабляе смалу і неачышчаны шпігінар.

Лясьніцтва займае плошчу ў 53.000 дзесяцін, пераважна лесу, сярод якога галоўнай пародай зьяўляецца хвоя і елка з падмешкай дубу, бярозы і алешніку.

Агледзеўшы Вераб'ёва, на разьвітаньні з гаспадаром пытаем бліжэйшую дарогу на Вежы, што выклікае з боку апошнага сьмех, бо там жыве ўсім вядомы дзік-Шклярэўскі.

Па прыгожай лясной дарожцы пасунуліся ў Вежы; час праходзіць няпрыкметна, але на скрыжаваньні некалькіх дарог прышлося спыніцца і паразважаць куды ісьці. Параіўшыся паміж сабой, абіраем наўгад прасеку, па якой і пайшлі. Праблытаўшыся па карэньнях, валежніку і ямах, нечакана наткнуліся на нейкую сядзібу сярод лесу,

абкружаную жардзёвым досыць высокім плотам. Спачатку думалі, што гэта нейкі загон для жывёлы, але хутка пераконваемся, што тут жывуць людзі. Падыходзім бліжэй, становімся на бярвеньне, што ляжыць па наш бок, заглядаем у двор. Присутнасьць нашу пачулі сабакі, паднялося выцьцё, з якім яны кінулася ў дзіркі плоту. На гэты гвалт вышла маладая, пригожая дзяўчына, якая, супакоіўшы сабак, моўчкі падышла да нас. Вітаемся і пытаем бліжэйшае дарогі на Вежы. Яна зьдзіўлена глядзіць і адказвае, што гэта і ёсьць Вежы. Далей зноў запытаньне: дзе жыве Шкляраэўскі? Зноў адказ: тут і жыве! Такім чынам мы неспадзявана трапілі ў самае логава так званага дзікуна



Хутар Вежы. Гаспадарка Шкляраэўскага.

Просім дазволу ўвайсьці ў двор, на што атрымоўваем поўную згоду зусім няпужлівае дзяўчыны. Але трапіць туды ня так проста, бо прыбор у фортцы вельмі складанай сыстэмы, адным Шкляраэўскім вядомай, але нарэшце пры дапамозе маладой гаспадыні ўваходзім у двор. Вось тут ёсьць на што паглядзець! Запраўдны музэй рознай старажытнасьці быту, якой месца ў этнографічным музэі. Доўга ня думаючы, прымаемся за справу валім свае скруткі і торбы на бярвеньне і пачынаем замалёўваць.

Гаспадыня кудысьці пайшла, і мы засталіся адны ў варожым абкружэньні сабак, якія, негасьцінна пазіраючы на нас, бурчэлі.

Раптам пачулі нейкі гоман, адчыніліся вароты і ў двор, як хваля, хлынула стада розных жывёлін: тут было галоў 15 рагатае жывёлы, сьвіньні, авечкі, цяляты і два прыгожыя крутарогія валы. Далей пачынаем агляд „музэю“.

Двор, як было заўважана раней, абгароджаны з чатырох бакоў досыць высокім парканам з жэрдак. Трапіўшы ў двор праз фортку, зьдзіўлена глядзіш, чаго тут толькі няма: бярвеньне, дручкі, сукі, калодкі, жэрдкі, хвораст, гной, карыты; усё гэта параскідана па ўсім двары,—адным словам нейкі гармідар. Хата ад двара аддзяляецца нявысокім плотам бяз форткі, і, каб трапіць у хату, трэба пералазіць праз плот. Сама хата—маленькі зруб з 2 маленечкімі вакенцамі, зна-

ходзіцца пад аднэй страхой з хлевам, у якім ёсьць толькі адна сьценка, адкуль зроблены выхад у лес. Шчытоў у хаце няма, вецер вольна гуляе пад дахам; няма таксама сенцаў.

Заглядаем пад дах,—коміну нідзе ня відаць, замест яго над дзіркай у столі стаіць калода, на якую наўскос пакладзена дошка, прызначаная служыць комінам. Дым і іскры, выходзячы з печы праз дзірку, трапляюць у дошку, па якой выходзяць з хаты. Тут-жа, каля хаты па-за плотам стаіць маленькае, як грыбок, гуменца, каля якога градкі гародзіны, студня, палеткі збожжа і бульбы.

У часе агляду зьявіўся і сам гаспадар, які касіў на балоце траву. Глядзім на яго, шукаючы адзнак дзікуна, але пераконваемся, што гэта звычайны чалавек гадоў за 45, сярэднага росту, досыць плячысты, з загарэлым тварам, з блакітнымі вачыма, якія глядзяць з нейкім сумам. Апрануты ён у звычайную сялянскую вопратку. Тут мы вітаемся, кажам, што прышлі паглядзець яго цікавую гаспадарку. На ўсе запытаньні гаспадар адказвае ахвотна, гаворачы, што жыве бедна, але скардзіцца толькі на тое, што зямля яго параскідана кавалкамі па розных мясцох, што перашкаджае гаспадарцы.

Затым гаспадар запрашае ў хату, што нам было і патрэбна. Увайшоўшы, не адразу орыентуешся, вочы разьбягаюцца, усё цікава. Падлога ў хаце земляная, у розных ямінах, хата складаецца з аднаго пакойчыку, значную частку якога займае печка дапатопнага тыпу, комін якой даходзіць толькі да столі, дзе зроблена дзірка, праз якую выходзіць дым.

Не хапіла цэглы!—кажа гаспадар,—усё ніяк не зьбяруся з грашыма і часам!

Пад печкай выкапана глыбокая яма, у якую Шклярэўскі хавае бульбу на зіму. Каля печкі на жардзінках збудаваны палаці, пад якімі змайстраваны з негабляваных дошак невялічкія дзьверцы ў хлеў да жывёлы. У адным куце стаіць стол і лаўка, на стале парасстаўлена гліняная і драўляная пасуда, сярод якой чачоткавая міска ўласнага вырабу. Уся хата пазастаўлена кадушачкамі і цэбрыкамі з жытам. У другім куце прытуліліся маленькія кросенцы, а на жардзінах пад стольлю вісяць маткі нітак. У трэцім куце зьмяшчаюцца жоранцы, на якіх гаспадар сам меле для сябе і жывёлы. Вырабляецца мліва такое грубое, што сьпечаны хлеб рассыпаецца на грудкі, у якіх сустракаюцца неразмолатыя часткі зерняў. У часе гутаркі ўвайшоў у хату хлопчык гадоў 13—сын Шклярэўскага, якога ён сам выхоўвае. З размовы з Шклярэўскім выяўляецца, што ён прыхільнік натуральнае гаспадаркі, яго прынцып ня купляць таго, што можна зрабіць самому. І запраўды—гэта унівэрсальны чалавек. Ён сам усё вырабляе: аўчыны, з якіх шые кажухі, дубіць скуры, шые боты, тчэ палатно, шые вопратку, вырабляе пасуду, гаспадарчыя прылады і г. д. Купляе ён толькі соль ды сярнічкі, а замест газы ўжывае карчы, якія паліць на прыпечку. Коняй Шклярэўскі ня трымае, зямлю апрацоўвае на валох, якія, кажа, больш выносьлівыя і патрабуюць менш дагляду; езьдзіць ён таксама на валох. На запытаньне, што прымушае яго весьці так прымітыўна гаспадарку і жыць жыцьцём першабытнага чалавека, ён адказвае, што так лепш, бо так жылі нашыя дзяды, а я чалавек стары, так няхай усё будзе пастарому.

Але і ў жыцьцё Шклярэўскага, непрыкметна для яго, прасочваецца культура. Яшчэ ня так даўно езьдзіў ён на санках летам, запрагаючы кароў, на якіх вазіў снапы, сена, але з часам кароў зьмянілі быкі,

а замест санак пачаў ужываць нейкую на двух колах гарбу ўласнай конструкцыі, якая сваім скрыпам давала знаць, што едзе Міхалка. Але і гэтай прыладзе прышоў канец; гарба апынулася ў гістарычнай частцы „музэю", а замест яе зьявіўся звычайны воз. Аглядаючы гаспадарку, спыняемся на нейкай невядомай для нас прыладзе, якая складаецца з дзьвюх калодак, некалькіх дошак і кліноў. Пытаем аб прызначэньні іх, аказваецца, што гэта алейны завод Шкляроўскага. Тут ён засыпае насеньне паміж дзьвюх дошак, заганяе кліны і зажымае так моцна, што выціскае алей.

Гэта што,—кажа гаспадар, вось у мяне ёсьць плужок, якога вы зараз нідзе ня сустрэнеце!

І запраўды,—рэч вельмі цікавая! Зрабіла яе сама прырода, а Шкляроўскі дапасаваў да сваіх патрэб. Плужок гэты ня больш, як дубовы сук, адзін канец якога зацёсаны і, к сораму Шкляроўскага, абабіты жалезам; да другога канца, у якасьці ручак прымацаваны два кіёчкі. Вось і ўся прылада, якая служыць для абгону бульбы.

Але час пакінуць гэты цікавы куток, складаем свае падарожніцкія прылады. На разьвітаньне гаспадар хоча быць гасьцінным, дастае нейкую мэталёвую дзіравую конавачку і, заткнуўшы пальцам дзірку, лье туды малако, якім і частуе нас, а потым, ужо выходзячы, суе нам нешта ў рукі і кажа: „вось вам хлопцы на дарожку, бо падарожным людзям трэба закусіць!" Аказваецца, што гэта большая палова добрага сыру. Што-ж рабіць, прымаем, каб не абразіць гаспадара, які, відаць, робіць гэта па простасьці сардэчнай. Выходзім разам з хаты, хлопчык трымае сабак за шыю, каб ня кінуліся, а Шкляроўскі ідзе паказваць нам дарогу на Неспадзянку. Адышлі досыць далёка, а лясны жыхар усё яшчэ махаў рукамі, накіроўваючы нас на адны яму вядомыя сьцежкі праз сухія балотцы і праз канаўкі.

Ідзем пакуль моўчкі, уражаньне засталося вельмі моцнае, выплывае шэраг пытаньняў, на якія стараешся даць адказ, каб зразумець, што прымусіла яго Шкляроўскага да такога прымітыўна-першабытнага жыцьця. Адно мы зразумелі, што гэта ня дзікун, які ходзіць у скурах, як нам казалі, а звычайны чалавек, якога нейкая жыцьцёвая прыгода прымусіла замкнуцца думкамі, схавацца ад людзей, каб у цяжкай працы, сярод лесу і зьвярыны знайсьці супакой.

З гутарак з ім, а таксама паводле слоў сялян вакольных вёсак шмат чаго прышлося даведацца аб яго жыцьці. Родам Шкляроўскі з вёскі Варкавіч, што ля самага Слуцку, дзе ён меў зямлю і хату. Потым раптам кінуў гаспадарку ў Варкавічах, купіў 17 дзесяцін пяску ў лесе. Пасяліўся ён спачатку ў зямлянцы, больш падобнай да нейкай зьвярынай бярлогі. Гаспадарка спачатку была маленькая, але потым, дзякуючы ўпартай працы, пашырылася. Збудаваў сабе з дапамогай людзей хату, у якой і жыве. Людзі апавядаюць шмат дзіўнага і жудаснага пра яго жыцьцё. Кажуць, прыкладам, што ён за нязначныя правіннасьці жорстка караў сваю жонку: распранаў яе і зьвязаную голую саджаў на некаторы час у раскапаны мурашнік. Анэгды, гадоў 10 таму назад, жонка ня вытрымаўшы зьдзеку, уцякла ад яго, пакінуўшы яму малую дзяўчынку і хлопчыка $1^1/_2$ гадоў, а сама са старэйшай дачкой пайшла жыць у Варкавічы. Шкляроўскі сам гадаваў і даглядаў дзяцей. Цяпер дачка вырасла ў прыгожую і здаровую дзяўчыну, а хлопчык дапамагае ў гаспадарцы. Шкляроўскі сам вучыць сына грамаце, прычым замест паперы яны крэйдай на завэндзанай столі выводзяць літары і лічбы. Людзі кажуць, што ён скончыў гарадзкое вучылішча, але

Шклярэўскі даводзіць, што толькі скончыў сельскую школу і мала адукаваны. Сяляне кажуць, што чалавек ён заможны, прадае жывёлу за золата, якое хавае дзесь у зямлі. Потым даешся дзіву, як гэты чалавек вытрымлівае зімовыя халады ў недагледжанай хаце, праз шчыліны якой вольна гуляе вецер. Розьніца паміж зімовым і летнім станам яго будовы толькі тая, што ўзімку ён абкладае хваёвымі лапкамі шчыты, ды там-сям затыкае дзіркі. Ну, а пра жывёлу няма чаго і гаварыць. Яна зусім трымаецца пад аткрытым небам і дзівішся, як яна выжывае. Прышлося шмат чуць розных баек, а тым часам наўкол жыцьця гэтага чалавека ёсьць шмат таемнага.

Шклярэўскі чалавек з зьвярыным норавам у адносінах да жонкі, Шклярэўскі прыкладны бацька, які сам, сярод цяжкай працы і змаганьня з прыродай, гадуе маленькіх дзяцей.

*(Далей будзе).*

---

# ХРОНІКА.

## II Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя.

*7—12 студзеня 1929 г.*

### А. Мэтодычная частка конфэрэнцыі.

#### Сутнасьць краязнаўства і яго сёньнешнія задачы.

*(Даклад А. З. Казака).*

У сваім дакладзе т. Казак падрабязна высьветліў тыя разуменьні краянаўства, якія існуюць зараз сярод краязнаўцаў СССР і за межамі, вызначыў яго значэньне, як шырокага грамадзкага руху працоўных, які ставіць сваёй мэтай усебаковае вывучэньне адносна невялікай тэрыторыі сіламі мясцовай працоўнай інтэлігенцыі, рабочых і сялян, і паказаў значэньне краязнаўства для соцыялістычнага будаўніцтва. Дакладчык, разам з тым, падкрэсьліў асноўныя прынцыпы сучаснага беларускага краязнаўства: масавасьць, дабрахвотнасьць, зацікаўленасьць і звычайнасьць об'екту вывучэньня і пазнаёміў зьезд з мэтодамі краязнаўчага вывучэньня ў галіне прыродна-географічнай, грамадзка-экономічнай і культурна-гістарычнай. У справе апошняга ёсьць даволі грунтоўна распрацаваныя програмы, якімі трэба кіравацца пры вывучэньні мясцовага краю. Як вынік штодзённай працы мясцовай краязнаўчай організацыі павінен зьявіцца мясцовы краёвы музэй. Музэй павінен быць усебаковым адлюстраваньнем свайго краю. У заключэньне т. Казак спыніўся на росьце краязнаўчага руху ў БССР і яго організацыйнай структуры.

#### Краязнаўчая праца ў раёне.

*(Даклад А. А. Шашалевіча).*

У наступным дакладзе т. Шашалевіч адзначыў, што на працягу апошніх трох год ЦБК мела магчымасьць улічыць колектыўную практыку краязнаўчых організацый і вызначыць конкрэтны зьмест і найбольш мэтазгодныя формы краязнаўчай працы ў раёне. Неабходна ў першую чаргу правесьці самы дасканалы падлік як паасобных краязнаўцаў і культурнікаў, якія будуць карысны ў справе вывучэньня краю, так і тых гурткоў, дзяржаўных устаноў, грамадзкіх організацый, якія па сутнасьці вядуць краязнаўчую працу. З імі трэба заснаваць самую шчыльную сувязь, якая будзе выяўляцца з боку т-ва ў плянавай інформацыі гэтых організацый аб зьмесьце і напрамку дзейнасьці т-ва, з боку ўстаноў—у актыўным удзеле прадстаўнікоў іх у працы т-ва. Гэтая сувязь дасьць магчымасьць знайсьці і матар'яльныя сродкі для працы т-ва. Першае месца сярод організацый, якія трэба ўцягнуць у краязнаўчую працу, займаюць піонэрскія і комсамольскія організацыі, хаты-чытальні, народныя дамы і школы. Ніводнай сямігодкі ў раёне не павінна быць без краязнаўчага гуртка. Студэнты павінны дапамагаць вывучэньню раёну ўкладаньнем бібліографіі і больш складанымі тэматычнымі працамі. Чарговай працай у справе організацыйна-краязнаўчай зьяўляецца організацыя сельсавецкіх гурткоў краязнаўства і ўмацаваньне сувязі з вышэйстаячымі краязнаўчымі організацыямі, наладжваньне краязнаўчых дакладаў для шырокіх колаў насяленьня, зьмяшчэньне вынікаў вывучэньня свайго раёну ў мясцовым і цэнтральным друку і організаваньне чыста мастацкай популярызацыі краязнаўства адпаведнымі вечарынамі, выстаўкамі, вуснымі і насьценнымі газэтамі і д. т. п. У справе дасьледчай у першую чаргу трэба высьветліць, вывучыць, сабраць самыя поўныя весткі хто, калі і як вывучаў даны раён, якія вынікі гэтага вывучэньня, што яшчэ засталося вывучаць. Падругое трэба зьбіраць увесь сучасны матар'ял з жыцьця раёну і апрацоўваць яго, а таксама ўсе ілюстрацыйныя матар'ялы, якія паказваюць гаспадарку і быт раёну як у мінулым, так і ў сучасным. Гэта праца дапаможа хутчэйшаму адчыненьню мясцовага краёвага музэю і палепшаньню пры яго дапамозе ўсёй краязнаўчай працы.

#### Вывучэньне археолёгічных помнікаў і ўкладаньне археолёгічнай карты раёну.

*(Даклад А. Н. Ляўданскага).*

Першачарговаю працаю краязнаўчых організацый раёну зьяўляецца выяўленьне, аб-

сьледваньне і падлік помнікаў старасьветчыны. Такімі зьяўляюцца стаянкі каменнага і мусяндзовага веку, гарадзішчы селішчы, курганы, магілы і інш. жалезнага кругабегу як дагістарычных часоў, так і першых стагодзьдзяў гісторыі. Рэгістраваньнем знахадак касьцей мамантa і інш. вымершых жывёл старакаменнага кругабегу краязнаўцы дапамогуць навуцы ў справе вывучэньня гэтых вельмі важных помнікаў. Лягчэй за ўсё рэгістраваць гарадзішчы і курганы. Выпадковыя знахадкі захаваных у зямлі дагістарычных магіл маюць такое-ж вялікае значэньне, як і выпадковыя знахадкі каменных, масяндзовых і жалезных прылад, скарбаў паасобных монэт, каменных фігур і д. т. п. Аб усіх гэтых выяўленых рэчах трэба запісваць дакладныя весткі на картке, а таксама адзначаць асобнымі значкамі на карце раёну. Гэта праца краязнаўчых організацый дасьць магчымасьць укласьці карту археолёгічных помнікаў этнографічнай Беларусі, якая складае першачарговую задачу археолёгічнай навукі.

**Стацыянарныя этнографічныя досьледы.**

*(Даклад В. Ю. Ластоўскага).*

У сваім дакладзе т. Ластоўскі даў крытычны агляд працы ў галіне беларускага фольклёру дарэволюцыйнага часу і вызначыў яе хібы. Далей ён вызначыў асноўныя моманты вывучэньня фольклёру з марксыцкага пункту гледжаньня. Беларускі фольклёр зьяўляецца вельмі багатым матар'ялам для вывучэньня перажыткаў першабытнай культуры і сьветагляду. Пры сучасным вывучэньні асаблівую ўвагу трэба зварочваць на гадавы абрадавы цыкль чараўніцтва, як перажытак шаманізму, абрадавыя хлябы і стравы, харчовыя сурагаты, народную орнамэнтыку, будынкі і хатні быт, косметыку, гігіену і лячэньне. У справе такога вывучэньня надзвычайна вялікае значэньне маюць стацыянарныя нагляданьні. У пляны іх павінна ўваходзіць азнаямленьне з гісторыяй мясцовасьці, вывучэньне генэолёгіі жыхарства і групы асоб, узятых за об'ект нагляданьня, запіс дзеньніку і вядзеньне цыклавых апісаньняў абрадаў, забабонаў і прымет. Урэшце дакладчык пазнаёміў зьезд з організаваньнем этнолёгічных станцый і іх значэньнем для культурнага савецкага будаўніцтва.

**Укладаньне раённага слоўніка мовы.**

*(Даклад М. І. Касьпяровіча).*

Другі дзень конфэрэнцыі пачаўся азначаным дакладам т. Касьпяровіча.

Ува ўсякай галіне дзейнасьці ў краі неабходна мець у першую чаргу дакладнае ўяўленьне этнографічных асаблівасьцяй яго і дасканала валадаць моваю мясцовага насельніка. Хутчэй за ўсё дайсьці да сьвядомасьці дзіцяці і селяніна ў навучаньні, або асьветнай гутарцы, ці разважаньні аб справе, можна толькі гаворачы на запраўды роднай, мясцовай, а не літаратурнай мове. Пакуль ёю не валадае той або іншы працаўнік, датуль ня можа быць гутаркі аб штодзённым, а не компанійным, ажыцьцяўленьні сувязі гораду з вёскай, паглыбленьні нацыянальнай політыкі і прыцягненьні шырокіх мас да савецкага будаўніцтва. Разам з тым здаровае ўзбагачэньне літаратурнае мовы можа ісьці толькі шляхам успрыйманьня мясцовых слоў літаратурнаю моваю, а ня выдумваньня іх. Побач з гэтым практычным, політычным і лексыколёгічным значэньнем, веданьне мясцовай мовы высьвятляе географію слоў, дае магчымасьць навуковых дыялектолёгічных асаблівасьцяй, вывадаў аб мінулым народу, яго быце, інтэлектуальным і гаспадарчым стане і г. д. Усё гата павінна прычыніцца таму, каб мясцовае раённае таварыства краязнаўства сіламі сваіх членаў сабрала і ўклала слоўнік мовы свайго раёну. Ды інакш, без укладаньня апошняга, вывучэньне свайго раёну ня было-б усебаковым, а якраз гэта ўсебаковае пазнаньне раёну ў мінулым і сучасным зьяўляецца канцоваю мэтаю кожнага раённага таварыства краязнаўства. Далей т. Касьпяровіч дакладна пазнаёміў конфэрэнцыю з прыёмамі і мэтодамі ўкладаньня слоўніка.

**Мэдычна-санітарнае вывучэньне раёну.**

*(Даклад І. І. Цьвікевіча).*

Трэба, папершае, палепшыць працу па навукова-санітарных досьледах беларускае вёскі, а падругое, гэтыя досьледы і асабліва ў апісаньні рэзультатаў гэтых досьледаў увесьці пэўную сыстэматызацыю і аднастайнасьць у сэнсе агульнага падыходу да гэтае працы і ў сэнсе разьмеркаваньня матар'ялаў у апісаньнях. Калі навукова-санітарныя досьледы будуць ахапляць маштаб раёнаў, акруг і ўсяе рэспублікі, то, зразумела, што гэтыя сыстэматызаваныя і аднастайна распрацаваныя матар'ялы значна лягчэй можна будзе выкарыстаць у сэнсе падсумаваньня агульных вывадаў і выяўленьня агульнага санітарна-бытавога стану нашае вёскі і фізычнага стану яе насельнікаў. У далейшым гэтыя працы дадуць, паміж іншым, магчымасьць улажыць санітарную карту рэспублікі. Карта гэтая будзе мець вялізнае значэньне—навуковае і практычнае—як для ўстаноў рэспубліканскага маштабу, так і для паасобных працаўнікоў. Практыка зьбіраньня мэдычна-краязнаўчых матар'ялаў выключна шляхам анкет паказала, што 1) працаўнікі на мясцох прымушаны абмежавацца мэханічным запаўненьнем анкетных граф і ня могуць выявіць свае ініцыятывы ў сэнсе пашырэньня і больш усебаковага асьвятленьня тых пытаньняў, якія часта зусім не прадугледжаны анкетай, 2) анкетны шлях найбольш падыходзіць для вывучэньня вузкіх акрэсьленых пытаньняў, якія могуць паўстаць у рэзультаце агульнага вывучэньня становішча вёскі. Схема разьлічана ня толькі на спэцыялістых—санітарных дактароў,—але на тое, каб працаўнікі розных спэцыяльнасьцяй, дасьледуючы вёску

паводлуг паасобных разьдзелаў гэтае схэмы, маглі, злучаючы рэзультаты сваіх паасобных досьледаў, даць колектыўны і поўны малюнак санітарна-бытавога становішча вёсак. Дактары на мясцох, скарыстоўваючы ўжо гатовыя матар'ялы мясцовых краязнаўчых таварыстваў, гурткоў або нават паасобных краязнаўцаў і дапаўняючы гэтыя матар'ялы спэцыяльнымі досьледамі маюць магчымасьць ня трацячы многа часу і даволі лёгка, даць поўны малюнак вёсак свайго вучастку. А гэта якраз гаворыць за тое, што краязнаўчая праца дактароў, асабліва санітарных, павінна быць цесна ўвязана з працай краязнаўчых організацый і наадварот—у сэнсе ўзаемнай дапамогі, інформацыі і г. д.

### Аб зьбіраньні народных тэрмінолёгічных матар'ялаў.

*(Даклад Я. Лёсіка).*

Азнаёміўшы зьезд з гісторыяй беларускай тэрмінолёгічнай работы, з яе прынцыпамі і мэтодамі і з тым, што ўжо зроблена ў гэтай часьці навукова-дасьледчай працы Беларускай Акадэміі Навук, дакладчык перайшоў да высьненьня важнасьці для справы культурнага будаўніцтва кожнага народу тэрмінолёгічнай работы. Чалавек без належнага запасу слоў для выражэньня культурных паняцьцяў можа быць толькі „напоў-асьвечаным" чалавекам. Таксама і народ без свае навуковае тэрмінолёгіі ня можа стварыць вялікіх культурных цэннасьцяй. Навуковая тэрмінолёгія ў іншых дзяржаўных народаў вытваралася сталецьцямі: ад нас гісторыя патрабуе выпрацаваць яе ў ударным парадку. Вось чаму і Комуністычная партыя і Савецкая ўлада адразу-ж зьвярнула належную ўвагу на гэту важную і адказную справу. Даць дакладную тэрмінолёгію для тае ці іншае навукі, якая-б у поўнай меры адпавядала навуковасьці і здавальняла-б пэдагогічную і штодзённую практыку,—справа нялёгкая, і Інстытут Навуковае Мовы Беларускае Акадэміі Навук лічыць, што ўдасканаліць сваю работу зможа ён толькі ў тым гыпадку, калі на помач яму прыдзе актыўная работа ўсіх зацікаўленых асоб і ўстаноў. Спадзяючыся знайсьці вялікае слоўнае багацьце ў жывой народнай мове, Інстытут Навуковай Мовы думае ў першую чаргу мець падтрыманьне ў сваёй рабоце—у мясцовых краязнаўчых організацыях і таварыствах. Краязнаўчыя Таварыствы і гурткі, а таксама іншыя навукова-дасьледчыя і навучальна-асьветныя ўстановы і організацыі на мясцох могуць дапамагчы тэрмінолёгічнай справе, зьбіраючы народную тэрмінолёгію—назовы ў розных сфэрах народнага жыцьця, у розных галінах людзкое працы і ў зьявах прыроды. Для зьбіраньня народных тэрмінолёгічных матар'ялаў Інстытут Навуковай Мовы выдае програмы, анкеты, друкуе адпаведныя артыкулы ў журналах і газэтах і рассылае іх на жаданьне ўсім культурным работнікам на мясцох. Кожны, каго абходзіць справа культурнага будаўніцтва ў нашай савецкай краіне, будзе працаваць, зьбіраючы словы-назвы (тэрміны) і запісваць іх дзеля свайго ідэёвага здавальненьня, уласьцівага кожнаму культурнаму работніку, кожнаму дзеячу. Але, каб выдзеліць найлепшых працаўнікоў, Інстытут Навуковай Мовы пастановіў прэміяваць лепшыя запісы народных назоваў грашоваю нагародаю. Запісы народных назваў-тэрмінаў могуць падавацца ў альфабэтным парадку асобнымі сшыткамі і на асобных картках, як гэта робіцца з слоўным матарялам для слоўніка жывое мовы. Да кожнае назвы трэба дадаць, калі гэта можна, сказ-прыклад, што можа паясьніць значэньне данага слова-назвы. Але можна абмежавацца расійскім ці польскім або іншым перакладам ці беларускім тлумачэньнем або нават рысункам, калі справа ідзе аб тэй ці іншай прыладзе ці прыналежнасьці. Рысункі і наогул вельмі пажаданы. Пры запісах найлепш трымацца мясцовага вымаўленьня, каб, пераводзячы на літаратурны правапіс, не папсаваць часам кораня слова і яго значэньня. На ўсе запытаньні Інстытут Навуковай Мовы дае бездакладныя адказы і парады.

### Укладаньне раённага географічнага атлясу.

*(Даклад М. В. Азбукіна).*

Кожнае раённае таварыства атрымала ў ЦБК карту-трохвёстку свайго раёну. Сіламі т-ва гэтую карту трэба дапоўніць і выправіць. Разам з тым трэба будзе перамяніць расійскія назвы на мясцовыя беларускія на гэтых картах. Выканаўшы гэтыя дзьве працы, мы будзем мець пляншэт, з якога трэба зрабіць цэлы шэраг зьнімкаў-копій, што складуць сабой аснову для атлясу. Патрэбныя для атлясу карты трэба падзяліць на дзьве катэгорыі: першачарговага і другараднага значэньня. Абавязкова трэба складаць карты карысных выкапняў, глебавыя, гео-ботанічныя, дазэмэтрычныя, этнографічныя і карты помнікаў старасьветчыны. Для ілюстраваньня гаспадаркі трэба зьмясьціць у атлясе картаграмы з паказаньнем процанту сенажаці адносна ворнай зямлі, папару і аблогі, раёнаў галоўнага яравога збожжа, % нязбожжавых культур, забясьпечанасьці продуктамі ральніцтва і жывёлай, раёнаў цягаценьня, промыслаў і прамысловых прадпрыемстваў. Такі атляс паслужыць базай для ўсёй краязнаўчай працы раёну.

### Волаты.

*(Даклад М. І. Касьпяровіча).*

На тэрыторыі паміж Дняпром, Нёмнам, Дзьвіной і Прыпяцьцю ёсьць надзвычайна шмат курганоў, якія беларусы з старадаўніх часоў завуць валатоўкамі. Многія вучоныя лічаць, што гэта назва нагадвае народ волатаў. У доказ існаваньня гэтага славянскага народу на паказанай тэрыторыі прыводзяць яшчэ і географічныя назвы і прозьвішчы

людзей з асновай волат, а таксама багацьце легенд і казак пра волатаў. Для выяўленьня гэтых пераэжыткаў была разаслана анкета і спэцыяльныя запытаньні вучоным і акадэміям, на якія атрымана звыш 1500 адказаў. Яны засьведчылі шматлічнае існаваньне географічных і фамільных назваў з асновай волат ды сыномніх—з асновай лют і воўк, вялізнае багацьце баечнага матар'ялу аб волатах, асілках і ваўкалаках і паданьняў аб тым, што ў валатоўках пахаваны волаты. Таксама прыслана шмат запісаў саміх казак. У той-жа час высьветлена, што за межамі названай тэрыторыі такога матар'ялу няма. Далей будзе распрацоўвацца баечны матар'ял пра волатаў, асілкаў і ваўкалакаў, які трэба запісваць на мясцох і прысылаць Катэдры Этнографіі БАН.

### Укладаньне раённага гэрбарыя.

*(Даклад М. Зьбіткоўскага).*

Абавязковаю ўмоваю для вывучэньня флёры Беларусі зьяўляецца збор гэрбарыяў і ботанічных колекцый, а таксама і згуртаваньне іх як у раённых і акруговых схоўніках, так і ў цэнтральным для БССР—музэі БАН. Чым багацей і паўней колекцыямі і гэрбарыямі будзе выяўлена ў музэі флёра Беларусі, тым большае значэньне яны будуць мець для навукі і для разьвязаньня практычных пытаньняў. Якое-б пытаньне мы ні ўзялі, калі об'ектам яго зьяўляецца расьліна, то заўсёды і перш за ўсё прыдзецца адказаць на пытаньні: дзе расьце, як называецца, ці часта сустракаецца, калі цьвіце і дае плады і г. д. тая ці іншая расьліна. У той ці іншай меры гэтыя-ж пытаньні паўстануць і перад практычнымі дзеячамі ў сельскай гаспадарцы і перад аматарамі ботанікі ў краязнаўчых гурткох, і, нарэшце, яшчэ часьцей гэтыя пытаньні падымаюцца ў школах, калі гутарка ідзе аб расьлінах. Адказы на гэтыя пытаньні можна, вядома, атрымаць і ў кнігах, толькі кнігамі трэба ўмець карыстацца, іх можа і ня быць, дый паказаньні і адказы на пытаньні ў іх даюцца для мясцовасьцяй ужо вывучаных, а для іншых адказы будуць прыблізныя, не заўсёды дакладныя. Адгэтуль ясна, што пры вывучэньні расьлін ва ўсіх паказаных выпадках вельмі важнае значэньне маюць колекцыі і гэрбарыі. Гэтыя матар'ялы, калі яны правільна сабраны, калі на іх зьмешчаны даты і іншыя патрэбныя весткі, зьяўляюцца навуковымі докумэнтамі, і ў першую чаргу, гэтыя докумэнты, калі яны сабраны разам у музэі, будуць палягчаць і спрыяць вывучэньню флёры тых тэрыторый, на якіх яны сабраны.

### Сялянскі двор як об'ект краязнаўчага дасьледваньня.

*(Даклд В. А. Самцэвіча).*

Комуністычнай партыяй і Савецкай уладай пастаўлена пытаньне аб індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі, аб падвышэньні ўраджайнасьці. Гэта задача вырашаецца адначасова з вырашэньнем задачы культурнае рэволюцыі сярод шырокіх працоўных мас. Процэсы інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі і разьвіцьця культуры ў вёсцы адбываюцца ў надзвычайна цяжкіх умовах, ва ўмовах барацьбы з старымі традыцыямі і звычаямі ў вядзеньні гаспадаркі, у быце. Задача краязнаўцаў—ацаніць складаную і часамі малапрыкметную барацьбу старога ўкладу з новымі формамі быту, высьветліць кірунак, тэмп і спрыяючыя фактары соцыялістычнага будаўніцтва з аднаго боку і перашкоды гэтаму будаўніцтву—з другога. Процэсы аджываньня старых форм гаспадаркі і быту вёскі, як экономічна - соцыяльнага організму, адбіваюцца і на паасобных адзінках - дварох і наадварот, усе зьмены ў паасобных гаспадарках у значнай меры робяць уплыў на жыцьцё вёскі. Адсюль патрэбнасьць вывучэньня паасобных тыпаў гаспадарак: бядняцкай, серадняцкай, кулацкай. Грунтоўнае і ўсебаковае вывучэньне паасобных двароў (тыповых) будзе вельмі каштоўным для навукі, гаспадарчых і савецкіх органаў, для грамадзкіх організацый і школ. Вельмі важна вывучыць, як паасобныя гаспадаркі пераходзяць ад трохпалёўкі на шматпольле, як сяляне-вопытнікі пераходзяць да больш інтэнсыўнай гаспадаркі, як вядзецца барацьба паміж новымі культурнымі гаспадаркамі і гаспадаркамі старога ўкладу, як паасобныя гаспадары паляпшаюць свой дабрабыт і г. д.; патрэбна вывучыць бюджэт паасобных гаспадарак і тыя прычыны, якія перашкаджаюць паасобным катэгорыям двароў паляпшаць свой дабрабыт, ствараць больш спагадныя ўмовы для аховы здароўя. Старыя сямейныя ўстоі руйнуюцца і нараджаюцца новыя ўзаемаадносіны паміж членамі сям'і, новая ідэолёгія, новыя звычаі. Справа краязнаўцаў паказаць, у якіх умовах усё гэта адбываецца і пад уплывам якіх прычын, якая тут роля Партыі, Комсамолу. Вывучэньне двара павінна стаць актуальнай задачай мясцовых краязнаўчых організацый пры ўдзеле саміх сялян. Вывучэньне можа праводзіцца шляхам непасрэдныхназіраньняў і запісаў, зьбіраньня вестак па анкетах і шляхам экскурсій. Ад дасьледваньня трэба перайсьці да ўдзелу да організацыі ўзьдзейнічаньня на жыцьцё для яго ператварэньня; трэба організаваць вясковы актыў для вывучэньня паасобных пытаньняў і, вывучыўшы іх, вызначыць і праводзіць пэўныя мерапрыемствы ў напрамку соцыялістычнага будаўніцтва. Мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны зьвярнуць увагу на монографічныя апісаньні паасобных тыповых двароў. У заключэньне дакладчык пазнаёміў з прыкладнай анкетай для вывучэньня двара.

### Укладаньне географічнага слоўніка раёну.

*(Даклад А. Крукоўскага).*

Да апошняга часу краязнаўчыя організацыі, усе ўстановы, асобы, якія ставяць сваёю

мэтаю географічнае вывучэньне сваёй мясцовасьці, сустракающца з фактам няведаньня падлягаючых вывучэньню об'ектаў, гэтае вельмі абцяжарвае працу, патрабуючы часта вялікае затраты часу і сродкаў толькі на адно адшуканьне саміх об'ектаў вывучэньня. Гэта ўсё кажа за неабходнасьць выданьня такое кніжкі, якая дала-б больш-менш поўны нарыс тых географічных об'ектаў, якія ёсьць у раёне. Такою кніжкаю можа быць географічны слоўнік раёну. Спыняецца на пляне, па якім патрэбна ўкладаць географічны слоўнік раёну, на мэтодах працы, на класыфікацыі сабранага матар'ялу. Добра ўкладзены географічны слоўнік раёну зьявіцца ня толькі патрэбнай кніжкай для краязнаўчых організацый, але і настольнай даведчай кнігай для ўсіх устаноў; для навукова-дасьледчых устаноў слоўнік зможа ў некаторай меры замяніць тую маршрутную працу, якая папярэднічае шэрагу відаў дасьледчае працы; слоўнік зьявіцца даведчай кнігаю і для экскурсій, якія значна цяпер пашыраюцца. Для школ раённы географічны слоўнік дасьць багаты матар'ял для комплексаў. Праца па ўкладаньні географічнага слоўніка цяжкая, але яна пад сілу раённым т-вам краязнаўства пры належнай дапамозе ім з боку мясцовых організацый і ўстаноў.

### Вывучэньне коопэрацыі раёну.

*(Даклад А. Г. Трахімава).*

Коопэрацыя шпарка расьце. Зьдзяйсьняецца Ленінскі коопэрацыйны плян. Неабходна нарыхтаваць дасканалае дасьледваньне коопэрацыйнага руху і будаўніцтва. Коопэрацыя павінна вывучацца як з экономічнага, так і социялёгічнага боку. Вывучэньне коопэрацыі магчыма толькі пры адначасовым аналізе разьвіцьця народнай гаспадаркі і грамадзка-політычнага руху ў данай мясцовасьці. Коопэрацыя павінна дасьледвацца па сваіх асноўных галінах (спажывецкая, сельска-гаспадарчая, прамысловая, жыльлёвая) і па гістарычных пэрыодах (зачатачны, дарэволюцыйны і пасьлярэволюцыйны). Об'ектамі для дасьледваньня могуць быць: а) першыя коопорганізацыі, б) коопэратыў дарэволюцыйнага пэрыоду, в) коопэратыў у сучасны момант, г) паасобная галіна коопэрацыйнага руху, д) коопэрацыйны рух цалкам у данай мясцовасьці. Найбольш тыповымі мэтодамі для вывучэньня коопэрацыі можна лічыць: а) наведваньне месц заснаваньня першых коопорганізацый і апісаньне іх заснаваньня са слоў організатараў ці мясцовых жыхароў—сучасьнікаў таго пэрыоду, б) зьбіраньне архіўных матар'ялаў дарэволюцыйных коопорганізацый і іх распрацоўка, в) наведваньне існуючых коопорганізацый і іх усебаковае вывучэньне, г) картаграфаваньне існуючай коопэрацыйнай сеткі, д) зьбіраньне вестак аб становішчы народнай гаспадаркі і грамадзка-політычнага руху ў данай мясцовасьці і вызначэньне месца коопэрацыйнага руху ў іх, е) заснаваньне коопкутка пры мясцовым і краязнаўчым музэі.

### Практычныя проблемы школьнага краязнаўства.

*(Даклад Г. С. Аляксандрава).*

Пытаньні школьнага краязнаўства ў сучасны момант могуць і павінны ад стадыі добрых пажаданьняў і акадэмічных спрэчак перайсьці да практычнай працы школы. Асноўныя моманты школьнай працы—дасьледчы мэтод, экскурсіі, працоўныя процэсы, грамадзка-карысная праца—усё гэта можа служыць мэтам школьнага краязнаўства. Школьна-краязнаўчыя задачы школы павінны быць разьмеркаваны па гадох навучаньня адпаведна комплексных тэм. Побач з гэтым школьна-краязнаўчыя гурткі ў парадку пазашкольнай працы павінны прапрацоўваць асобныя заданьні краязнаўчага характару па пэўнай програме. Краязнаўчая праца школы павінна быць сыстэматызавана і падлічана, каб вынікі яе маглі быць (у форме даведачнікаў, архіваў і інш.) дапаможнікамі для школы. Такі падлік і сыстэматызацыя будуць разам з тым садзейнічаць выяўленьню грамадзка-карыснай працы школы і заснаваньню шчыльнай сувязі з насельніцтвам.

### Фэнолёгічныя нагляданьні ў краязнаўчай працы.

*(Даклад С. К. Жураўскага).*

Фэнолёгічныя нагляданьні зьяўляюцца адным з сродкаў вывучэньня прыроды мясцовага краю і яго біоклімату. Краязнаўчая фэнолёгія вызначае пэўны абмежаваны круг зьяў у прыродзе, якія зьяўляюцца найбольш відавочнымі і даступнымі для нагляданьня. Фэнолёгічныя нагляданьні краязнаўца абмяжоўваюцца пэўнай мінімальнай програмай. Беларуская програма фэнолёгічных нагляданьняў ахапляе характэрныя ўласьцівасьці ў зьявах беларускай прыроды і клімату. Фэнолёгічныя нагляданьні пажадана праводзіць у шчыльнай сувязі з мэтэоролёгічнымі. Правядзеньне фэнолёгічных нагляданьняў патрабуе ад нагляданьніка максімальнай уважлівасьці і дакладнасьці ў вызначэньні об'екту нагляданьня і тэрміну зьявы. Фэнолёгічныя нагляданьні даюць мясцовым краязнаўцам багаты матар'ял для ўкладаньня сярэдняга календара прыроды мясцовага краю, што можа скарыстоўвацца для патрэб сельскае гаспадаркі. Абагульненьні фэнолёгічных назіраньняў, праведзеных сыстэматычна і дакладна за некалькі год па ўсёй БССР, дадуць пэўны матар'ял для вызначэньня біоклімату Беларусі. Школьныя фэнолёгічныя нагляданьні маюць выхаваўчае значэньне ў падрыхтоўцы новых дасьледчыкаў і краязнаўцаў. З фэнолёгічным нагляданьнем патрэбна наладзіць зьбіраньне народных прымет аб розных зьявах у прыродзе і аб пагодзе. Фэнолёгічная справа ў БССР за апошнія гады наладжваецца, разгортваецца і ўжо дала некаторыя матар'ялы

для абагульненьняў, на падставе якіх можна зрабіць вывады аб асаблівасьцях біоклімату Беларусі.

**Організаваньне раённага музэю.**

*(Даклад т. Сташэўскага).*

Раённыя музэі афармляюць і на матар'ялах паказваюць працу таварыстваў. Музэі павінны быць месцам, дзе кожны грамадзкі дзеяч зможа дастаць усякую спраўку аб прыродзе, эканоміцы і культурным становішчы раёну. Музэі павінны ўзбуджаць самастойную творчасьць насельніцтва мастацкае вартасьці (тканьне, ганчарныя і драўляныя вырабы) шляхам зацікаўленьня і пашырэньня ведаў аб гэтым у народзе. Раённым музэям ня трэба імкнуцца к набываньню дзівачных выпадковых рэчаў, але складаць колекцыі з бытуючых рэчаў народнае творчасьці (сшыткі з сьпевамі і прыказкамі, орнамэнты тканін, ганчарныя і драўляныя вырабы, пляценьне з саломы, малюнкі народнае архітэктуры і г. д.). Раённым музэям ня варта экспонаваць царкоўныя рэчы (іконы, спраты) з якіх складаюцца колекцыі ў Дзяржаўных Музэях і дзе ім даецца адпаведнае тлумачэньне. Раённыя музэі дапамагаюць Дзяржмузэям перадачай ім парытэтаў, зборам этнографічных колекцый, дачай зьвестак аб нумізматычных кладах і інш.; Дзяржмузэі дапамагаюць раённым музэям фотоздымкамі, кнігамі і рознымі даведкамі. Організацыя музэяў патрабуе самых рознастайных ведаў, пагэтаму неабходна, каб для раённых таварыстваў дасылаліся для часовага карыстаньня па ініцыятыве ЦБК адпаведныя бібліотэкі-перасоўкі альбо паасобныя кніжкі. З прычыны таго, што грамадзкія ўстановы будуць мець карысьць ад такіх музэяў, за матар'яльнай дапамогай звярочвацца на мясцох у Райвыканкомы і інш. установы.

**Краязнаўчая літаратура.**

*(Даклад Гурвіча).*

У сваім дакладзе тав. Гурвіч пазнаёміў конфэрэнцыю з літаратураю аб Беларусі і яе краёх, вызначыўшы багацьце яе па розных галінах дасьледваньня.

**Спрэчкі аб значэньні працы ў галіне мэтодычных пытаньняў.**

У спрэчках аб прапрацоўцы мэтодычных пытаньняў конфэрэнцыяй выказалася 10 дэлегатаў з месц і прадстаўнік УКК (Харків)— т. Зайцаў, большасьць іх, як і т. Казак, у заключным слове сьцьвердзілі вялікае значэньне мэтодычнай часткі парадку дня конфэрэнцыі і адзначылі дадатныя бакі самой працы.

## Б. Організацыйная частка конфэрэнцыі.

Прэзыдыум конфэрэнцыі абіраецца ў складзе т. т.: Стасевіча, Бялугі, Казака, Мікалаева, Касьпяровіча, Ластоўскага, Зайцава (УССР), Сэгаля, Лазарыса (РСФСР), Эйзэнштэйн, Паўлоўскага і Гарасімовіча.

Сакратарыят у складзе т. т.: Мацьвяёнка, Варпаховіча і Шашалевіча.

**Павестка II Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі.**

1. Беларуская Акадэмія Навук і краязнаўства т. Ігнатоўскі.
2. Справаздача ЦБК і чарговыя задачы т. Казак.
3. Садаклады акруговых т-ваў краязнаўства: а) Віцебскага, б) Мазырскага і в) Гомельскага.
4. Падрыхтоўка краязнаўцаў тав. Касьпяровіч.
5. Садаклад аб краязнаўстве ў пэдтэхнікумах т. Вялішчанскі.
6. Організацыйныя зьмены ў статуце ЦБК і выбары ЦБК.
7. Зацьверджаньне членаў - корэспондэнтаў ЦБК.
8. Бягучыя справы: а) інформацыя т. Ляўданскага, б) Цьвікевіча А.

Конфэрэнцыя адчыняецца ўступнай прамовай старшыні ЦБК т. Казака і пераходзіць да вызначанай павесткай працы.

**I. Даклад У. Ігнатоўскага „Беларуская Акадэмія Навук і краязнаўства“.**

Дарагія таварышы! Краязнаўчы рух на Беларусі і ўся праца ІБК на працягу мінулых гадоў былі цесна ўвязаны. У нас ніколі думак ня было і цяпер няма, што праца краязнаўчых організацый і праца ІБК могуць разьвівацца паасобна. ІБК і краязнаўчыя оргянізацыі Беларусі народжаны Кастрычнікам. У той час, як Акадэмія Навук СССР і Украінская Акадэмія Навук маюць свой пачатак у эпоху ранейшую і разьвіваліся яшчэ з буржуазных часоў, наша Акадэмія Навук вырасла з тэрмінолёгічнай камісіі ва ўмовах Кастрычніка і ўзгадавана на зусім іншым грунце.

Першай адзнакай, каштоўнай для Беларускае Акадэміі Навук, ёсьць сьціслая, моцная сувязь між краязнаўчым рухам і навукова-дасьледчымі ўстановамі Акадэміі. Гэтая сувязь заснавалася адразу, праца Інбелкульту, а цяпер Акадэміі Навук, заўсёды ўвязвалася і надалей будзе ўвязвацца з працай краязнаўчых організацый.

У сучасны момант падведзены грунтоўныя падваліны пад гэтую ўвязку. У старыя часы гэтае пытаньне зусім не вырашалася. Раней, з 1912 г., пачыналі толькі гаварыць аб увядзеньні ў школьнае выкладаньне „родиноведения“, праўда раздаваліся галасы некаторых настаўнікаў, якія патрабавалі зьмены ўсяе мэтодыкі школьнае працы, падвядзеньня пад яе краязнаўчай базы („Вестник Воспитания“). У той час вельмі цяжка было абараняць думку аб гэтым мэтодзе радзімазнаўства.

Яшчэ раз гэтае пытаньне ставілася ў 1919 г. у нас на Беларусі. Тады гаварылі,

што справа не ў радзімазнаўстве, як прадмеце выкладаньня, а неабходна ўсю навуку паставіць на гэты грунт. У гэтым годзе Менскі Пэдагогічны Інстытут разьвязаў гэтае пытаньне больш станоўча, але і тады былі людзі, якія гаварылі, што ўсё гэта—утопія.

Сёньня для нас усё ясна. Пытаньне аб краязнаўстве для нас ёсьць настолькі зразумелым, што і гаварыць аб ім ня прыходзіцца. Калі ў старой школе і пэдагогіцы згаджаліся яшчэ гаварыць аб географіі і краязнаўстве, дык не дапушчалі і думкі, што можна і трэба гаварыць аб мове і краязнаўстве, аб гісторыі і краязнаўстве, аб літаратуры і краязнаўстве. Цяпер-жа мы добра разумеем усё гэта, і ІБК першы стаў на гэты шлях, прызнаўшы, што масавыя дасьледчыкі на мясцох дадуць вялікі базіс для працы навукова-дасьледчых устаноў у разнастайных галінах. Такім чынам, першыя спробы краязнаўчых організацый вывучаць свой край былі ўвязаны з досьледамі камісій і аддзелаў ІБК. Гэта пачало рэалізавацца яшчэ з 1921 г.

Цяпер мы добра разумеем, што вывучаць Беларусь, ня вывучаючы самых глухіх куточкаў яе, немагчыма. Кастрычнік дапамог абгрунтаваць гэтую думку.

У старыя часы ня лічыліся з маленькімі досьледамі, не прызнавалі звычайных дасьледчыкаў, якія вышлі з масы. Дасьледчыкамі былі выдатныя вучоныя, і лічылася, што звычайны грамадзянін, культурны чалавек ня можа весьці навуковыя досьледы.

Толькі Кастрычнік паставіў на працу скромных, звычайных, масавых дасьледчыкаў. У буржуазных краінах, як-бы ня было добра там пастаўлена краязнаўства, заўсёды будзе грань, мяжа між вялікімі і малымі досьледамі, між вучонымі і краязнаўцамі, і гэта перашкаджае сувязі месц з цэнтральнымі дасьледчымі ўстановамі.

ІБК цьвёрда праводзіць у жыцьцё думку аб неабходнасьці выкарыстаць самыя малыя краязнаўчыя досьледы. З гэтае прычыны краязнаўчыя організацыі Беларусі былі моцна спаяны з ІБК і цяпер, калі ўтварылася Беларуская Акадэмія Навук, гэтая сувязь ня будзе парвана, бо яна ёсьць сувязь з вялікім і шырокім колам дасьледчыкаў.

Ніякіх зьмен у бок зьмяншэньня гэтай сувязі ня можа быць. Цяпер трэба думаць толькі аб тым, як мацней яшчэ ўвязаць працу краязнаўчых організацыі і Акадэміі, як палепшыць тое, што ўжо ёсьць.

Вось першае, што неабходна падкрэсьліць, калі гаворым аб Акадэміі Навук і краязнаўчых організацыях.

Падругое, калі мы гаворым, што культурная рэволюцыя ёсьць зьявішча масавае, дык паглядзім на краязнаўчы рух з гэтага боку. Бязумоўна, за гэты час краязнаўчая праца вельмі пашырылася, у працу ўцягваюцца тысячы людзей, у выніку яе набываецца вялікі каштоўны матар'ял. Магчыма, што пашырэньне краязнаўчай працы далей ня будзе так ісьці, але ясна, што яно яшчэ далёка ня скончана. Пролетарскую культуру ўтвараюць масы пад кіраўніцтвам Компартыі і пролетарыяту. Між тым вёска і горад, рабочыя і селяне ня ўцягнуты ў краязнаўчы рух так, каб іх быў значны %. Нашы краязнаўцы — настаўнікі, студэнты, вучні, але актывісты рабочыя, актывісты сяляне вельмі малы ўдзел прымаюць у гэтай працы. Гэта не азначае, што колькасны лік настаўнікаў і студэнтаў павінен зьмяншацца ў краязнаўчым руху, гэта азначае, што павінен зьмяншацца іх процант і гэта зьмяншэньне павінна адбывацца за лік рабочых і сялян.

Нашым краязнаўчым рухам павінны быць вычарпаны ня толькі ўсе настаўніцкія сілы, але перадавыя сілы рабочых, сялян, чырвонаармейцаў. З гэтага боку наша праца ня скончана. Процантнае павялічэньне ліку рабочых і сялян - дасьледчыкаў нашага краю ёсьць заданьне, якое дала нам Кастрычнікавая рэволюцыя.

Далей трэба нам зьвярнуць увагу на разуменьне паняцьця культуры. Культура складаецца з 2-х частках — матар'яльнай і інтэлектуальнай культуры. Стары погляд на культуру быў ідэалістычным, тады няправільна вызначалі рамкі культуры, пад культурай разумелі толькі інтэлектуальную, эмоцыянальную, духоўную культуру. Да культуры—адносілі толькі мову, гісторыю, літаратуру, мастацтва і г. д. Перажыткі такога разуменьня культуры захаваліся яшчэ і цяпер. Чалавека, які займаецца асьветнай працай, завуць „культурнікам". І ў той момант, калі нарадзіўся ІБК, калі пачалі расьці краязнаўчыя організацыі, яны расьлі пад уплывам старога разуменьня паняцьця культуры, ня гледзячы на ўплыў Кастрычнікавай рэволюцыі. Прычына гэтага ў тым, што трэба было абараняць Савецкую Беларусь ад „орла бялэго", некалі было думаць над ясным вызначэньнем рамак культуры. Такім чынам у нас быў ухіл ісьці па старым шляху разуменьня культуры. Гэта—об'ектыўны недахоп, з якім сустракаецца новае жыцьцё, калі яно ламае старое жыцьцё. І мы забываліся, што апрача інтэлектуальнай ці эмоцыянальнай культуры ёсьць яшчэ матар'яльная культура як база інтэлектуальнай культуры. Самая культура старых часоў так будавалася і складалася, што „культурнікаў" было больш, чым тэхнікаў, прыроднікаў, эканомістых, апошніх трэба было днём з агнём шукаць. У гэтым об'ектыўны недахоп, на які мы не заплюшчваем вочы, у гэтым прычына, што і ІБК і краязнаўчыя організацыі ішлі па старым шляху. Між тым нашы краязнаўчыя організацыі, якія вырасьлі з нізоў (а нізы—людзі практыкі), па прыродзе сваёй ня могуць не займацца вывучэньнем матар'яльнай культуры. З боку вывучэньня апошняй у нас ня ўсё добра. У нас недахват дасьледчыкаў матар'яльнай культуры, дасьледчыкаў прыроды і вытворчых сіл.

Гэты недахват трэба зьнішчыць. Мне прыпамінаецца прадмова Францішка Багушэвіча да „Дудкі Беларускай“, у якой ён кажа, што беларускі народ вымірае. У 80 гацы так і было. Мова беларуская зьнікала, народ вымiраў. Багушэвіч з вялікім болем казаў: не пакідайце мовы роднай, каб ня ўмерці. (Вось погляд людзей інтэлектуальнай культуры). А мы думаем, што чалавек памірае не ад таго, што ў яго мову адняло, а таму, што ён галодны. Яго раней трэба накарміць, вылечыць, забясьпечыць, тады ён і загаворыць. Мы ў мінулым забываліся аб гэтай матар'яльнай базе. Нам неабходна вывучаць і будаваць і матар'яльную, і інтэлектуальную культуру. Краязнаўчыя організацыі шмат гаварылі аб гэтым на II Усебеларускім краязнаўчым зьезьдзе, у гэтым напрамку мы маем некаторыя дасягненьні, але аб гэтым неабходна гаварыць і цяпер, бо наш час патрабуе яшчэ большага пашырэньня вывучэньня матар'яльнай культуры.

Яшчэ адно пытаньне, на якім трэба спыніць сваю ўвагу. Калі мы гаворым аб пролетарскай культуры, дык разумеем, што яна ёсьць нацыянальная па форме. На Беларусі пролетарская культура павінна мець не адну толькі беларускую форму, але яшчэ і формы тых нацменшасьцяй, якія ў нас ёсьць.

Беларускай культуры ў першыя гады існаваньня Савецкай Беларусі дрэнна жылося. Прыходзілася біцца за беларускую форму: і вялікадзяржаўны шовінізм быў, і шыпеньне, кпіны бюрократаў над беларускай формай—усё гэта перашкаджала нам будаваць беларускую культуру. Але з цягам часу Кастрычнік глыбей спускаўся, і беларуская форма была адваявана. Працу па вывучэньні беларускай культуры цяпер мы павінны зьвязваць з працай па вывучэньні яўрэйскай, польскай, літоўскай, рускай і латыскай культуры. Этнографычныя меншасьці на Беларусі не павінны быць забытымі. Культуру трэба браць ва ўсіх формах, якія існуюць на Беларусі. І гэта вымагаецца об'ектыўнымі ўмовамі. Калі мы возьмем, напрыклад, вывучэньне гісторыі гарадоў Беларусі на працягу таго ці іншага часу, дык немагчыма поўнае вывучэньне гэтае галіны гісторыі без таго, каб у гэтым ня прымалі ўдзел вучоныя яўрэі. У Беларускай Акадэміі Навук ёсьць 2 нацыянальная сэктары, ёсьць 2 нацыянальныя катэдры. Забясьпечаньне інтарэсаў нацменшасьцяй мы павінны мець і ў краязнаўчай працы.

Што новага трэба нам зрабіць, каб пасунуць уперад краязнаўчую працу?

Да гэтага часу тыя матар'ялы, якія прысылаліся ад краязнаўчых організацый у Акадэмію Навук, можа не заўсёды рацыянальна выкарыстоўваліся. І нам трэба лепш наладзіць організацыю гэтай працы. Для нас прынцыпы выкарыстаньня гэтых матар'ялаў ясны, прадуманы, некаторыя організацыйныя формы намечаны, але ня ўся праца да канца прадумана, ня ўсё да канца зроблена: і паасобныя працаўнікі і экспэдыцыі Акадэміі ня ўвязваюцца яшчэ з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі, і ня высьветлена пытаньне, якія матар'ялы павінны заставацца на месцы, а якія сюды накіроўвацца, і шэраг іншых. Вельмі важна будзе ўвязаць цэнтральную навуковую працу з масавымі досьледамі. Затраціць на гэта сродкі не шкада будзе. Гэта ўвязка павінна быць ужо не ў агульных рысах, але ў дэталях, дробязях.

Астатняе, на што нам неабходна зьвярнуць увагу, гэта—увязка працы ва Ўсесаюзным маштабе. Перад саюзнымі рэспублікамі стаяць вялікія цяжкасьці, разьвіцьцё ня лёгка ідзе. І калі будзе разьбежка ў краязнаўчай працы ў паасобных рэспубліках, дык ад гэтага будзе вялікая шкода. Такім чынам, нашу краязнаўчую працу трэба ўвязваць з краязнаўчаю працаю сэюзных рэспублік і гэтую сувязь неабходна павялічыць у напрамку большай дэталізацыі. Мы можам радавацца, што ў працы нашай конфэрэнцыі прымаюць удзел прадстаўнікі краязнаўства УССР і РСФСР, але добра было-б, каб удзел прынялі і ЗСФСР, і Сібір, і іншыя аўтаномныя рэспублікі. Для нас вельмі важна дзяліцца вопытам, бо заўсёды ідзем па чыйму-небудзь шляху і важна не рабіць памылак. У прыклад можна ўзяць Татрэспубліку, у якой цяпер будуецца нешта накшталт нашай Акадэміі Навук. А мы таксама некалькі разоў наведвалі РСФСР, УССР і ад іх бралі прыклады і для сваіх статутаў і для мэтодаў працы.

Такім чынам, абагульняючы ўсё сказанае, нам трэба: 1) так пашырыць і паглыбіць нашу працу, каб у яе былі ўцягнуты актывісты рабочыя і актывісты сяляне; 2) зьвярнуць увагу на разьвіцьцё досьледаў у галіне матар'яльнай культуры; 3) пашырыць удзел у краязнаўчым руху нацменшасьцяй; 4) яшчэ больш увязаць вынікі краязнаўчай працы з працай Беларускае Акадэміі Навук; 5) яшчэ лепш увязацца з усім краязнаўствам СССР і павялічыць ужо існуючую сувязь з краязнаўчымі організацыямі паасобных рэспублік СССР.

Вось асноўныя прапановы, якія я хацеў укласьці ў свой інформацыйны даклад.

Няхай жыве наш краязнаўчы рух, няхай жыве сувязь нашай Акадэміі Навук з масавым краязнаўчым рухам!

**Рэзолюцыя.**

Заслухаўшы даклад Прэзыдэнта Беларускае Акадэміі Навук тав. Ігнатоўскага на тэму: „Беларуская Акадэмія Навук і краязнаўства“, II Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя шчыра вітае рэорганізацыю Інстытуту Беларускае Культуры ў Акадэмію Навук.

Беларуская Акадэмія Навук і беларускі краязнаўчы рух, які зараз яднае больш 300 краязнаўчых організацый з лікам членаў звыш 10.000 краязнаўцаў, зьяўляюцца заваёвай Кастрычнікавай рэволюцыі і вырасьлі

пад сталым ідэёвым кіраўніцтвам Комуністычнае партыі.

Конфэрэнцыя выказвае ўпэўненасьць, што і ў далейшым Акадэмія Навук і краязнаўчы рух паранейшаму ў цеснай сувязі будуць вывучаць Беларусь для дапамогі социялістычнаму будаўніцтву.

*Сэгаль* (ЦБК РСФСР). Таварышы! Ад імя ЦБК РСФСР і Наркамасьветы РСФСР я вітаю II Ўсебеларускую Краязнаўчую Конфэрэнцыю і ў вашай асобе ўвесь беларускі народ з 10-годзьдзем існаваньня БССР. Беларуская рэспубліка існуе толькі дзякуючы Кастрычнікавай рэволюцыі і актыўнаму ўдзелу народных мас. Мы цяпер перажываем пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва, якое магчыма толькі пры самым шырокім падтрыманьні працоўных мас. Краязнаўства на Беларусі больш пасьпяхова разьвіваецца, чым у РСФСР; у БССР ня было традыцый у краязнаўстве і яно шырокі шлях пракладвае сабе, як мэтод уцягненьня ў дасьледчую працу шырокіх працоўных мас. У РСФСР прыходзілася вытрымліваць барацьбу, каб зрабіць гэта. Лічбы паказваюць гэта. На Беларусі краязнаўчы рух налічвае 10000 удзельнікаў, у той час як па ўсім саюзе лік іх дяходзіць да 50000. Такім чынам, краязнаўства на Беларусі больш шырака разьвіваецца. Я хацеў-бы зьвярнуць вашу ўвагу на тое, што ў краязнаўчай працы на Беларусі, галоўным чынам, прымае ўдзел настаўніцтва. Неабходна, каб беларускія краязнаўчыя організацыі разьвіваліся ў напрамку ўцягненьня сялянскіх мас. З другога боку неабходна, каб краязнаўчая праца ў БССР прыняла больш практычны характар—паляпшэньне сялянскага жыцьця і разьвіцьцё прамысловасьці гарадоў. Я ўпэўнены што гэта асноўнае заданьне краязнаўчыя організацыі БССР здолеюць выканаць!

*Лазарыс* (Ціміразеўскі Дасьледчы Інстытут). Навукова-дасьледчы Інстытут імя Ціміразева даручыў мне перадаць наша братэрскае прывітаньне конфэрэнцыі ў той момант, калі працоўныя Савецкай Беларусі адсьвяткавамі 10-гадовы юбілей Савецкай Рэспублікі і адчынілі вышэйшую навуковую ўстанову на Беларусі Акадэмію Навук.

Для нас зусім ясна, што краязнаўчы рух на Беларусі ёсьць дзіцё Кастрычніка. Толькі дзякуючы пролетарскай рэволюцыі зьявілася магчымасьць выяўленьня новых дасьледчыкаў, новых самародкаў, новых творчых сіл. Вы шчасьлівы, што Ваша Акадэмія Навук створана Кастрычнікам, што яна разьвівалася ў тым самым напрамку, як і вашы краязнаўчыя організацыі. Антагонізму між Беларускай Акадэміяй і краязнаўчымі організацыямі ня было і ня будзе. Я хачу выказаць пажаданьне, каб вашы краязнаўчыя організацыі пачалі большую ўвагу аддаваць вывучэньню і садзейнічаньню разьвіцьцю вытворчых сіл краіны. Для нас цяпер вельмі важна ў пэрыод рэконструкцыі гаспадаркі заняцца вывучэньнем колектывізацыі сялянскай гаспадаркі, вывучэньнем социялістычных элемэнтаў у нашым будаўніцтве.

Някай жыве Беларуская Акадэмія Навук і беларускі краязнаўчы рух!

*Зайцаў* (Украінскі Камітэт Краязнаўства). Ад імя Украінскага Камітэту Краязнаўства, які зьяўляецца цэнтрам краязнаўчага руху Радзянскае Украіны, передаю гарачае, братэрскае прывітаньне II Ўсебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі. Вітаю конфэрэнцыю і ад Падольскага Камітэту Краязнаўства, лепшай нашай краязнаўчай організацыі. На працягу апошніх 2-х год мы ўважліва сочым за разьвіцьцём краязнаўчага руху на Беларусі і павінны сказаць, што па організацыйнай вашай працы, якую мы бачым на конфэрэнцыі, па ўсім тым, што можна выявіць у вас на месцы, мы беларускаму краязнаўству павінны адвесьці першае месца ў Савецкім Саюзе.

Кастрычнікавая рэволюцыя і на Украіне азначылася рэорганізацыяй Акадэміі Навук. Я ўпэўнены, што Беларуская Акадэмія Навук і абноўленая Украінская Акадэмія Навук пойдуць па тым вялікім шляху, які акрэсьліла ім гісторыя. Будзем спадзявацца, што Акадэміі саюзных рэспублік, якія вышлі з былой турмы народаў, супольнымі сіламі будуць будаваць магутны чырвоны саюз Савецкіх рэспублік!

Конфэрэнцыя пасьля гэтага заслухоўвае прывітальныя тэлеграмы ад Харкаўскага Навуковага Таварыства і Цэнтральнага Бюро Краязнаўства РСФСР.

**II. Справаздача ЦБК і чарговыя задачы** —даклад старшыні ЦБК *т. Казака.*

(Даклад будзе надрукаваны ў чарговых №№ „Нашага Краю").

**III. Справаздача Віцебскага Акруговага Т-ва Краязнаўства**—даклад *т. Варпаховіча.*

Віцебскае Акруговае Т-ва Краязнаўства—адно з першых акруговых т-ваў, якія заснаваліся на Беларусі. Яно заснавана ў жніўні месяцы 1924 г. Пасьля організацыйнага афармленьня яго пачалі засноўвацца раённыя краязнаўчыя організацыі—т-вы і гурткі. У 1925 г. Акруговае Т-ва здолела разгарнуць досыць прыкметную выдавецкую чыннасьць: надрукаваны такія кнігі: „Віцебшчына"—зборнік, т. I, „Беларуская архітэктура", „Беларускае Мастацтва", „Крашаніна" і інш. У тым-жа годзе і асабліва ў 1926 г. у акрузе шырака разгарнулася праца па ўкладаньні слоўніка жывой мовы Віцебшчыны. Вынікам гэтае працы зьявіўся „Краёвы Слоўнік Віцебшчыны", надрукаваны ў 1927 г. З гэтага 1927 г. пачынаецца плянавае вывучэньне ў краязнаўчым стасунку акругі. Першым этапам яго бярэцца ўсебаковае вывучэньне Сураскага раёну, як тыповага для Віцебскай акругі. Другімі момантамі ў дасьледчай працыАкруговага т-ва былі: выпраўленьне геаграфічнай карты трохвярстоўкі, укладаньне археолёгічнай і глебавай карты, зьбіраньне, сы-

стэматызацыя фольклёрных матар'ялаў, ахова помнікаў прыроды і старажытнасьці, укладаньне бібліографіі акругі, вядзеньне фэнолёгічных і мэтэоролёгічных нагляданьняў і г. д. У аснову краязнаўчай працы т-ва на працягу 1928 г. былі пакладзены дырэктывы IV Віцебскай акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі, якая адбылася 9—11 лютага 1928 г. Мы цяпер маем прыблізны падлік краязнаўчых організацый па акрузе. Сяброў організацый 879 (у горадзе 192, у раёнах 697). Вучнёўскіх гурткоў існуе 19 і сельсавецкіх 6. Такім чынам разам з вучнямі краязнаўцаў у акрузе каля 1400 чал. На працягу 1928 г. акруговае праўленьне кіравала працай гарадзкіх і раённых краязнаўчых організацый, пасылала ім свае протоколы, інструкцыі, анкеты, выклікала раённых прадстаўнікоў і кіраўнікоў сэкцый і гурткоў на нарады і пасяджэньні праўленьня, наладжвала выезды прадстаўнікоў акруговага т-ва на раёны, склікала пашыраны пленум праўленьня для абгаварэньня мэтодычных пытаньняў, зьмяшчала інформацыі аб сваёй працы ў друку.

Популярызацыйна-асьветная праца т-ва выявілася як у зьмяшчэньні артыкулаў у друку, так і ў пастаноўцы краязнаўчых дакладаў у клюбах (працасьветы, шчацінькаў, Чырвонай арміі) і ў наладжваньні выстаўкі выданьняў БССР. У мэтах популярызацыі беларускай народнай песьні і яе зьбіраньня пры т-ве існаваў нават народны хор, які спыніў сваю дзейнасьць з прычыны ад'езду ў Менск кіраўніка.

У 1928 г. летам была наладжана орнітолёгічная экспэдыцыя ў Сураскі і Межанскі раёны. Вынікам яе ёсьць праца па орнітофаўне гэтых раёнаў. У мінулым годзе т-ва выпусьціла ў сьвет II т. зьборніка „Віцебшчына", які зьмяшчае галоўным чынам экономічныя досьледы.

Пры т-ве працавала некалькі сэкцый. Праца экономічнай сэкцыі была досыць інтэнсыўная: яна дала шмат матар'ялаў у II т. „Віцебшчыны", цяпер сэкцыя распрацавала і распрацоўвае некаторыя пытаньні сельскай гаспадаркі акругі (ільнаводзтва, саўгасы, калгасы, саматужная прамысловасьць зямляўпарадкаваньне на Віцебшчыне і інш.) і склала падрабязны плян вывучэньня экономікі раёну. Сэкцыя вяла і вядзе популярызацыйна-асьветную працу ў Доме Селяніна.

Культурна-гістарычная сэкцыя распрацавала пытаньні аб літаратуры на Віцебшчыне да і пасьля рэволюцыі складае пуцяводнік па Віцебску, наладжвала чытаньне лекцый у Чырвонай Арміі, скадала археолёгічную карту і праводзіць іншую працу па мэтоду індывідуальных заданьняў.

Прыродазнаўчая сэкцыя мала працавала, летам правялі толькі паказаную вышэй экспэдыцыю, апрацоўвае фэннагляданьні.

Яўрэйская сэкцыя працавала досыць актыўна. Зьбірала і апрацоўвала яўрэйскі фольклёр, распрацована пытаньне аб яўрэях і намеры царскага ўраду падзяліць яўрэяў на саслоўі, вывучаюцца мястэчкі Віцебшчыны. Праца сэкцыі набыла масавы характар—вялікі лік яўрэйскіх рабочых прымаюць удзел у працы сэкцыі. Сэкцыя дапамагае Музэю організаваць у ім яўрэйскі аддзел.

Сьветазнаўчая сэкцыя, якая раней вяла прыкметную працу, цяпер аб'ядналася з прыродазнаўчаи сэкцыяй. Школьна-краязнаўчая сэкцыя стварылася толькі ў мінулым годзе і вяла добрую працу, кіруючы школьна-краязнаўчымі гурткамі. Сэкцыя правяла гарадзкую школьна-краязнаўчую конфэрэнцыю, апрацавала програму працы школьнага краязнаўчага гуртка.

Бібліографічная камісія падрыхтавала да друку досыць поўную бібліографію Віцебшчыны. Бібліграфаваньне і складаньне картатэкі вядзецца і цяпер.

У Віцебску добра працуюць краязнаўчыя гурткі пры Белпэдтэхнікуме, пры чыгуначнай школе (гурток „Юных натуралістых"). Пры Мастацкім Тэхнікуме гурток слаба працуе, хоць прымаў удзел у мастацкай экскурсіі летам па Беларусі мінулага году.

Раённыя т-вы працуюць па заданьнях акруговага т-ва (арх. карта, геогр. карта, фэннагляданьні, фольклёр, экономіка раёну), ЦБК (програмы, анкеты) і БАН. За гэты час раённымі організацыямі сабрана шмат фольклёрных матар'ялаў, але іх недзе друкаваць. Фэннагляданьні вяліся па Віцебшчыне ў 13 пунктах. У некаторых раёнах ёсьць пачаткі краязнаўчых музэяў (Сураж, Гарадок, Бешанкавічы, Сянно, Астроўна), у другіх сабраны экспонаты, але няма памяшканьняў, дзе зьмясьціць іх.

Такім чынам з організацыйнага боку краязнаўчая праца на Віцебшчыне афармілася і мае тэндэнцыю разьвівацца ў глыбіню. Мы маем станоўчыя вынікі сваёй працы і яшчэ больш недахопаў: часта ў раёнах краязнаўчую працу ня лічаць за грамадзкую, краязнаўцы нагружаюцца іншай грамадзкай працай, часта краязнаўцам не хапае ведаў, часта адсутнічае мінімальная матар'яльная база для гэтай працы.

У далейшым неабходна 1) дабіцца асыгнаваньня сродкаў на краязнаўчую працу (сталы працаўнік у акруговым горадзе, грашовая дапамога для раённых т-ваў, сродкі на выданьні і досьледы; 2) стварэньне грамадзкай думкі вакол краязнаўства і прызнаньне краязнаўчай працы грамадзка-карыснаю; 3) пашырэньне мэтодычнай падрыхтоўкі і самаадукацыі краязнаўцаў.

### IV. Справаздача Гомельскага Акруг. Т-ва Краязнаўства—даклад т. *Мікалаева*.

Краязнаўчую працу ў Гомельскай акрузе за 1928 г. можна характарызаваць такімі момантамі: 1) пераход да сэкцыйнай працы ў горадзе, 2) энэргічная дапамога ЦБК па організацыі ў некаторых раёнах краязнаў-

чых таварыстваў і гурткоў, 3) скліканьне 2-х краязнаўчых конфэрэнцый з мэтай пасунуць уперад як організацыйную працу, так і дасьледчую; 4) атрыманьне па мясцовым бюджэту субсыдыі для вядзеньня краязнаўчай працы Акруговым праўленьнем. За мінулы год працавала 11 раённых т-ваў краязнаўства, з іх адно таварыства спыніла працу дзякуючы перакідцы працаўніка, а другое канчаткова не аформілася і працы няма. нішыя раённыя т-вы слаба працуюць і ня зьвязаны з акруг. т-вам. Асгоўны актыў краязнаўчых т-ваў—настаўнікі, але яны часта перакідваюцца з аднае школу ў другую і такім чынам часта ад праўленьня нічога не застаецца. З гэтае прычыны Акруг. праўленьне спрабавала наладзіць сувязь з т-вамі праз школы 7-кі і гэты вопыт даў некаторыя вынікі: у 60% нашы запытаньні праз школы давалі вынікі.

З раённых т-ваў організацыйна моцным зьяўляецца толькі Уваравіцкае Т-ва, якое ў раёне організавала 4 сельсавецкія гурткі.

У самым Гомелі краязнаўчая праца ў мінулым годзе мае свае вынікі. Працавала ў складзе Акруговага Т-ва 30 сяброў. Па прапанове т-ва напісаны т. Крыловым нарыс „аб шкодніках поля Гомельскай акругі" і будзе выдадзены. Даручана другому сябру напісаць нарыс аб лясох Гомельшчыны. Вялася і экспэдыцыйная праца. Былі абсьледваны бабровыя колёніі, набыты для музэю цікавыя экспонаты, зафотографаваны некаторыя моманты з жыцьця баброў. Другая экспэдыцыя мела мэтай дасьледваць акліматызацыю розных расьлін на Беларусі і была накіравана ў „Барысаўшчызну" Хойніцк. р. Выдавецкая праца толькі пачала разгортавацца ў мінулым годзе. Т-ва выдала географічную карту акругі. Т-ва зрабіла даклад у Акрпляне і апошні прапанаваў адпаведным органам павялічыць субсыдыю т-ву да 3000 р. Калі гэта пройдзе, т-ва шырока разгорне сваю працу.

У складзе т-ва ёсьць такія сэкцыі: экономічная, культурна-гістарычная са слоўнікавай камісіяй, прыродна-географічная, школьна-краязнаўчая, яўрэйская і польская. Апошнія дзьве сэкцыі не працуюць. Э.ономічная сэкцыя вяла працу па абсьледваньні шкоднікаў поля і лясоў, аб чым гаварылася раней. Культурна-гістарычная абсьледвала архівы Гомельскіх бібліотэк, праглядзела каля 3000 кніг і адабрала кнігі, неабходныя для працы т-ва. Сэкцыя прымала ўдзел у экспэдыцыі БАН у в. Бердыж. Слоўнікавая камісія наладзіла корэспондэнцкую працу, мела ў раёнах каля 46 корэспондэнтаў і сабрала каля 2000 картак. Прыродазнаўчая сэкцыя правяла 2 вышэйазначаныя экспэдыцыі і спрабавала організаваць сетку фэнназіглядальных пунктаў. Покуль што ёсьць 2 сталыя фэнпункты—Камарын і Гомель. Школьна-краязнаўчая сэкцыя заснавала ў горадзе пры школах 5 гурткоў.

**V. Справаздача Мазырскага Акруг. Т-ва Краязнаўства—даклад** *т. Крукоўскага.*

У галіне організацыйнай на працягу 1928 г. вялася праца популярызацыі краязнаўства, уцягненьня новых сяброў у т-ва і стварэньня краязнаўчых гурткоў, забясьпечаньня раённых краязнаўчых організацый інструкцыйнымі матар'яламі і стварэньня краязнаўчага актыву.

У параўнаньні з мінулым годам па 9 т-вах не паказаны весткі па Юравіцкім і Жыткавіцкім раёнах з прычыны адсутнасьці матар'ялаў) агульны прырост складае 409 чал., з гэтага ліку дабавілася па партыйнасьці: 1) членаў і кандыдатаў КПБ—46 чал. (было 85, стала 131), 2) членаў КСМ—57 (было 149, стала 206), 3) піонэраў—33 (раней зусім ня было), 4) беспартыйных—273 (было 477, стала 750).

Калі разглядзець прырост членаў т-ва (409) па социяльным складзе, то дабавілася: 1) рабочых—19 (было 6, стала 25), 2) сялян-38 (было 11, стала 49), а астатні прырост пераважна складаўся з вучняў.

Па нацыянальнасьці дабавілася: 1) беларусаў 244, яўрэяў 151, палякаў—7, расійцаў—7.

Большы прырост быў па Акруговым, Нараўлянскім, Азарыцкім і Каралінскім т-вах; зусім прыросту ня было ў Пятрыкоўскім і Каленкавіцкім т-вах. Прырост гурткоў быў у Акруговым, Азарыцкім, Каралінскім, Лельчыцкім, Нараўлянскім і Пятрыкоўскім т-вах, зусім прыросту ня было ў Тураўскім і Каленкавіцкім т-вах.

Раённыя т-вы за справаздачную пору забясьпечаны наступнымі матар'ямамі (апрача інстр. ЦБК): 1) кіраўнічымі матар'яламі па вывучэньні монографіі паселішч, 2) па вывучэньні сэктанцтва, 3) па вучоту сьляпых і прычын сьлепаты, 4) па зборы матар'ялаў для географічнага слоўніка Мазыршчыны, 5) па монографічным вывучэньні яўрэйскіх культасьветных устаноў, 6) гідролёгічныя пункты (іх 8), фэнолёгічныя (іх 20), мэтэоролёгічныя станцыі (іх 7) забясьпечваліся бланкамі і інструкцыямі.

Апрача гэтага Акруговым Праўленьнем абсьледвана праца Азарыцкага, Нараўлянскага і Каралінскага т-ваў.

З мэтай стварэньня краязнаўчага актыву праводзілася дача індывідуальных заданьняў і аслабаненьне больш актыўных працаўнікоў ад іншых відаў грамадзкае працы.

У параўнаньні з мінулым годам сяброў праўленьняў таварыстваў зьменшылася на 32 чал.

Уся праведзеная праца ў галіне організацыйнай аднак вельмі нязначная, бо яшчэ працаздольнасьць праўленьняў нізкая, плянава праца не вядзецца, патрэбнае адказнасьці за працу не назіраецца, у частцы т-ваў, напрыклад, не наладзілі збору членскіх узносаў, нават членскія білеты, якія пасылаюцца ў т-вы, часта месяцамі ляжаць нераздадзе-

нымі. Адносна краязнаўчае працы яшчэ не концэнтруецца патрэбнае грамадзкае ўвагі, праца гэтая яшчэ ня прызнана ў патрэбнай меры, а часта і ў мінімальнай, адным з відаў грамадзкае працы, якую трэба прымаць пад увагу, як адзін з відаў грамадзкае працы. Апрача гэтага краязнаўства вымагае замацаваньня пэўнага кадру людзей і стымуляваньня гэтае працы.

Сэкцыі т-ваў краязнаўства вельмі яшчэ непрацаздольныя, зьбіраюцца нерэгулярна, з ліку ўдзельнікаў іх фактычна працуе нязначная частка і то нерэгулярна, мэтод індывідуальных заданьняў яшчэ не знайшоў шырокага ўжываньня ў працы т-ваў.

Усё памянённае кажа, што краязнаўчаю працаю ня шмат ахоплена членаў т-ва, па прыблізных падліках гэты ахоп складае ў сярэднім па акрузе ня больш 60%, калі прыняць пад увагу нават пэрыодычнае выкананьне працы; па такіх-жа т-вах, як Каленкавіцкае, Лельчыцкае, Каралінскае, Пятрыкоўскае —процант ахопу яшчэ меншы, не правышае 30%.

У справаздачны пэрыод апрача таго пачаўся і рэцыдыў краязнаўчага руху з прычыны непадгатаванасьці членаў т-ва і ў прыватнасьці краязнаўчага актыву да краязнаўчае працы і гэты процэс выразна будзе мець месца, пакуль значныя кадры краязнаўцаў не атрымаюць патрэбнае тэорэтычнае падрыхтоўкі 2-х ступеняў: 1) збору матар'ялаў і 2) уменьня азначаць іх.

Такім чынам бліжэйшаю неадкладнаю задачаю выплывае праца па падрыхтоўцы краязнаўцаў.

Для большага ўцягненьня асьветнікаў у краязнаўчую працу патрэбна пастаноўка краязнаўчых пытаньня на пэдагогічных, ці профэсыянальных конфэрэнцыях, бо да гэтага часу на гэта належнае ўвагі ня было зьвернута, а калі і ставіліся тыя ці іншыя пытаньні, дык часта ў бягучых справах, адводзячы на пытаньне ня больш 15 хвілін.

## Дасьледчая праца.

Асноўнымі пытаньнямі працы мінулага году зьяўляліся:

1) Монографічнае вывучэньне паселішчаў (белар., яўр. і польскіх).

2) Збор матар'ялаў па гісторыі рэўруху, апісаньне помнікаў старажытнасьці, укладаньне карты гэтых помнікаў.

3) Збор матар'ялаў для географічнага слоўніка, аб карысных выкапнях, збор гэрбарый, мінэралёгічных, зоолёгічных і этномолёгічных колекцый;

4) Правядзеньне досьледаў над разьвядзеньнем некаторых тэхнічных расьлін;

5) Збор слоўных, фольклёрных і дыялектолёгічных матар'ялаў.

Аб дасягненьнях у гэтых галінах можна прывесьці наступнае:

## Акруговае таварыства

з гурткамі за справаздачны год сабрала значныя матар'ялы; асноўныя з іх наступныя:

1) Па монографіі в. Бабры, калгасу Сядзельніках, м-ку Юравічах, іншых матар'ялаў экономічнага характары—18; 2) сабрана матар'ялаў па гісторыі 10 штук, па культ.-гіст. характары—3; 3) працуюць гідролёгічны і фэнолёгічны пункты і станцыя 3-га разраду, апрацавана 2 паўгадавыя сводкі фэнолёгічных, сабрана і апрацавана матар'ялаў для географічнага слоўніка—362, сабраны гэрбары каля 500 экз., з іх палова абазначана, сабрана мінэралёгічная колекцыя каля 200 экз., энтомолёгічная—каля 200, зоолёгічная каля 120 экз.; 4) сабрана слоў 1307, устаноўлена мясцовых назваў для 500 расьлін, сабраны па дыялектолёгіі матар'ялы аб гаворцы 36 вёсак, фольклёрных матар'ялаў—244; 5) сфотографавана да 70 об'ектаў з прыроды Мазыршчыны, падрыхтавана для друку і музэю каля 40 зарысовак па матар'яльнай культуры; 6) праведзены ўдалы вопыт разьвядзеньня тутавіцы і выкармкі шаўкапрада; 7) напісана 16 артыкулаў для прысьвечанага Мазыршчыне нумару „Наш Край"; 8) апрацаваны інструкцыі па зборы вестак аб народнай мэдыцыне, аб працы яўсэкцыі аб выяўленьні сьляпых і прычын сьлепаты.

Праца вялася пераважна шляхам экскурсій, якіх адбылося:

1) Для вывучэньня монографіі паселішч—7,

2) Для фотографаваньня—7,

3) Для збору экспонатаў па жывой і няжывой прыродзе больш значных 12,

4) Для дыялектолёгічных досьледаў, збору слоў і фольклёрных матар.—4.

Закончана ўкладаньне Краёвага Слоўніка.

## Азарыцкае таварыства *).

1) Сабраны значныя матар'ялы па монографіі в. Сышчыц і м. Азарычы, розных матар'ялаў па экономіцы—80;

2) Матар'ялаў па гістарычных пытаньнях—6;

3) Працуе гідролёгічны пункт, 2 фэнолёгічных, організавана мэтэоролёгічная станцыя 3-га разраду, для географічнага слоўніка сабраны матар'ялы па 3 сельсаветах і заканчваецца збор па астатніх 7 сельсаветах.

4) Сабрана слоў 75, напісаны і надрукаваны 1 артыкул, прынялі ўдзел у працы этногр. экспэдыцыі.

## Жыткавіцкае таварыства.

Працуе вельмі слаба; у Акруговае т-ва пакуль што даслана 31 слова, працуе 1 пункт фэнназіраньняў, даслана 2 анкеты па народнай мэдыцыне, 2 паведамленьні аб вадзяным арэху. Для ажыўленьня працы гэтага т-ва

*) Па раённых т-вах прыводзяцца весткі, згодна тых матар'ялаў, якія ёсьць у Акртаварыстве; няўлічаны матар'ял накіраваны непасрэдна ў ЦБК.

туды езьдзіў інструктар ЦБК, але праца не палепшылася; нельга там пакуль-што падабраць патрэбнага актыву.

**Каленкавіцкае таварыства.**

Працуе таксама слаба. Сабрана 31 слова, дыялектолёгічных матар'ялаў 12, распачата монографічнае вывучэньне в. Дудзічы, працуе 1 пункт гідролёгічны, 2 фэнолёгічных, распачаты збор матар'ялаў для географічнага слоўніка і па адным сельсавеце скончаны, запоўнена па 1 сельсавеце анкета аб сьляпых, праведзена каля аднэй вёскі апісаньне карысных выкапняў.

**Капаткевіцкае таварыства.**

1) Сабраны матар'ялы па монографіі 4 паселішч, 2) сабраны значныя матар'ялы для апісаньня раёну для школьных патрэб, 3) працуюць 2 гідролёгічныя пункты, 2 фэнолёгічныя і організавана мэтэоролёгічная станцыя 3-га разраду, 4) сабрана 31 слова для беларускага слоўніка і 263 словы для яўрэйскага, 5) сабраны матар'ялы па монографіі яўрэйскіх культасьветных установ, 6) сабраны матар'ялы для географічнага слоўніка па ўсіх сельсаветах, 7) сабрана дыялектолёгічных матар'ялаў—16, 8) складзена карта раёну, 9) напісаны 1 артыкул у „Н. К.", а таксама сфотаграфавана да 17 об'ектаў, сабрана значная колькасьць матар'ялаў па народнай мэдыцыне.

**Каралінскае таварыства.**

Т-ва працавала слаба. За апошні час праца пачала ажываць. Т-вам сабрана 21 слова, дыялектолёгічных матар'ялаў—2, анкет па гідролёгіі—14, працуюць 4 пункты фэнолёгічных назіраньняў, апісаньняў карысных выкапняў—3, фольклёрных матар'ялаў да 200 шт., этногр.—1, па народнай мэдыцыне—8, аб вадзяным арэху—з 5 сельсаветаў.

**Лельчыцкае таварыства.**

1) Праведзена санітарна-бытавое апісаньне в. Дуброва, 2) працуе 1 гідролёгічны пункт і 3 фэнолёгічных, 3) сабрана слоў 21, дыялектолёгічных матар'ялаў—2, па нар. мэдыцыне—4, аб вадзяным арэху—па 5 сельсаветах.

**Нараўлянскае таварыства.**

1) Сабраны значныя матар'ялы па монографіі паселішча, 2) працуюць 2 пункты гідролёгічных назінаньняў і 3 фэнолёгічных, 3) укладаецца карта помнікаў культуры і старасьветчыны, вынайдзена дзьве стаянкі, 4) па 4-х сельсаветах сабраны матар'ялы для географічнага слоўніка, апісаньняў карысных выкапняў—8, 5) сабраны 103 словы, дыялектолёгічных матар'ялаў — 5, 6) складаецца карта раёну, 7) сабрана 22 фольклёрных матар'ялаў з апісаньнем вясельля, 8) аб вадзяным арэху па 3 сельсаветах, 9) па нар. мэдыцыне з 2 сельсаветаў.

**Пятрыкоўскае таварыства.**

Працуе слаба: 1) праведзена некаторая праца па вывучэньні шкоднікаў саду і складзена апісаньне, 2) працуе 1 пункт гідролёгічных і фэнолёгічных назіраньняў, даслана 3 матар'ялы па дыялектолёгіі і пакладзены зачаткі організацыі музэю.

**Тураўскае таварыства.**

1) Праводзіцца монографічнае вывучэньне паселішча, 2) сабраны матар'ялы для географічнага слоўніка па 4-х сельсаветах, працуе 1 пункт гідролёгічны і 2-фэнолёг. назіраньняў, 3) складзена апісаньне помнікаў культуры і старасьветчыны і карта іх, 4) сабрана слоў 55, аб вадзяным арэху—1 паведамленьне.

**Юравіцкае таварыства.**

Нядаўна організавалася. Даслана 215 слоў і 23 дыялектолёгічных матар'ялы.

**Музэйная праца.**

У бягучым годзе закладзены пачатак організацыі 4 музэяў: 1) пры Акр. т-ве, 2) у м. Капаткевічах *), 3) у м. Тураве, 4) у м. Азарычах. Таксама папаўняецца Нараўлянскі музэй і сабрана значная колькасьць экспонатаў у Лельчыцах. У Акруговым т-ве для музэю ўжо ёсьць такія матар'ялы: 1) карысныя выкапні (руда, суглінкі, мэргэлі, 2) мінэролёгічныя колекцыі, 3) 1 зоолёгічная, 4) гэрбары, 5) 5 энтомолёгічных колекцый, 6) палеонтолёгічн., 7) нумізматычная, 8) этнографічн., 9) па археолёгіі, 10) зарысоўкі і тканін каля 200, 11) фотографіі, докумэнты па рэўруху.

У бягучым годзе адчынена 2 мэтэоролёгічных станцыі: у Азарычах і Капаткевічах, а таксама пачата організацыя яе ў в. Слабадзе.

**Спрэчкі па дакладах ЦБК, Віцебскага, Гомельскага і Мазырскага Акруговых т-ваў Краязнаўства.**

*Мялешка С.* За 1927-28 г. ЦБК правяло вялікую працу организацыйную, мэтодычную і выдавецкую. Яно—запраўдны правадыр краязнаўчага руху БССР. У яго працы ёсьць і недахопы, якія ў той-жа час ёсьць недахопамі і ўсіх нашых краязнаўчых організацый. На Беларусі да 300 організацый і 10000 сяброў, але як вялік актыў? Максымум 5%. Гэта наш вялікі недахоп. Каб у далейшым краязнаўчай працай цікавіліся і займаліся рабочыя, сяляне, чырвонаармейцы, пролетарская інтэлігенцыя, неабходна зьвярнуць увагу на выхаваньне кадраў краязнаўцаў, на іх падрыхтоўку. Падрыхтоўку мы павінны праводзіць ня толькі ў цэнтры, але і ў акруговых гарадох. Замест конфэрэнцый мэтазгодна наладзіць такія курсы. Далей

*) Быў організаваны музэйчык, але потым было занята памяшканьне для іншае ўстановы.

ЦБК павінна большую ўвагу зьвярнуць на выкладаньне краязнаўства ў нашых тэхнікумах. Толькі ў гэтым годзе яно выкладаецца і адведзена 1 гадзіна ў тыдзень. Добра было-б арганізаваць курсы для выкладчыкаў краязнаўства ў тэхнікумах. У некаторых тэхнікумах яно і не выкладаецца (лясны тэхнікум), ЦБК павінна прасачыць гэта. Далей кепска тое, што ў Акруговых т-вах у большасьці няма платных працаўнікоў, адказных за краязнаўчую працу. Шчасьлівымі зьяўляюцца Мазырскае ды Гомельскае. Трэба дабіцца гэтага, дабіцца і таго, каб і ў раёнах за гэта была мінімальная аплата. Неабходна зьвярнуць ЦБК увагу і на тое, што ў нас слаба ідзе школьна-краязнаўчая праца. У Полацку адбыліся дзьве гарадзкія вучнёўскія краязнаўчыя конфэрэнцыі, праведзены этнографічныя вечарыны. Трэба такім чынам з моладзі падрыхтоўваць краязнаўчы актыў.

*Клімянкоў*. Трэба падкрэсьліць, што шчыра кажучы нашымі краязнаўчымі арганізацыямі нічога ня зроблена. Нават у найлепшым Мазырскім Т-ве 70% мёртвыя душы. Калі ў дакладах усё досыць гладка, гэта азначае справа дрэнь. Мы нічога не зрабілі ў асноўным нашым заданьні — узьняцьці с.-гаспадаркі краю. Шмат сабралі слоў, фольклёру, а што зроблена ў вывучэньні народнай гаспадаркі, якая дапамога аказана яе разьвіцьцю? На курсах, якія толькі што былі, ня было ніводнага дакладу аб с. гаспадарцы ці індустрыялізацыі краіны. Нашы краязнаўцы-аматары ў большасьці сваёй настаўнікі, няма сувязі з аграноміяй, на конфэрэнцыі няма ніводнага агранома. Краязнаўчую працу на мясцох ня лічаць за грамадзкую, бо зьбіраньне фольклёру запраўды не паказвае бясспрэчную карысьць. Калі-б мы здолелі ўлічыць новае ў экономіцы і жыцьці сялянства, мы маглі-б хваліцца конкрэтнымі вынікамі працы. Таму ня ідуць да нас сяляне, таму 30% вучняў. Няма наглядаНьняў за практычным жыцьцём, краязнаўства толькі яшчэ мэтодычна афармляецца. Школьнае краязнаўства слаба пастаўлена, настаўнікі не выкарыстоўваюць краязнаўчыя матар'ялы ў школах. ЦБК павінна зьвярнуць на гэта ўвагу. Больш практычнага, грамадзка-карыснага ўхілу ў нашай працы.

*Сэгаль* (Масква). У працы ЦБК Беларусі ёсьць значныя дасягненьні; арганізавана і аб'яднана краязнаўчая праца вялікай колькасьці краязнаўцаў. Мне хочацца падзяліцца з вамі нашым вопытам. Першае пытаньне: як здабыць сродкі, на адсутнасьць якіх часта скардзяцца краязнаўчыя арганізацыі? Неабходна для гэтага паказаць сваю практычную працу па вывучэньні гаспадаркі краю, трэба ўцягнуць шырокія масы ў гэтую працу. У нас некаторыя краязнаўчыя Т-вы атрымоўваюць дапамогу ў разьмеры да 10000 р. ЦБК РСФСР пропагандуе краязнаўчую працу сярод розных арганізацый. Розныя запытаньні з боку гэтых арганізацый могуць быць разьвязаны краязнаўчымі арганізацыямі. У гэтым напрамку ёсьць пастанова Саўнаркому РСФСР. Матар'яльны стан т-ваў можна палепшыць і праз арганізацыю падсобных прадпрыемстваў — вопытных станцый, садоў і інш. Такія спробы ёсьць у Сібіры, Рыбінску, Архангельску і інш. Архангельскае Т-ва, напр., займаецца пытаньнем найбольш рацыянальнай апрацоўкі дрэва.

Настаўніцтва, як у вас, так і ў нас скардзіцца, што яно перагружана, што краязнаўчую працу ня лічаць за грамадзкую. Неабходна дабіцца зьнішчэньня такога погляду.

Перападрыхтоўку краязнаўцаў трэба весьці шляхам арганізацыі курсаў па асобных спэцыяльнасьцях. Неабходна на Беларусі арганізаваць і краязнаўчы мэтодычны музэй. Такі музэй хутка адчыніцца ў Ленінградзе.

Патрэбна практыкаваць выклікі краязнаўцаў з месц у навуковыя інстытуцыі Менску для набыцьця краязнаўчай кваліфікацыі.

*Адзярыха*. Аднэй з прычын слабай краязнаўчай працы ў Гомельскай акрузе бязумоўна ёсьць перагружанасьць акруговых і раённых краязнаўцаў іншай грамадзкай працай. Але галоўная прычына ў іншым ляжыць. Краязнаўчая праца зьяўляецца ў нас адным з галоўных момантаў разьвіцьця беларускай культуры. Краязнаўчая сетка на БССР даволі моцная і інтэнсыўнасьць працы даволі значная, ня гледзячы на вялікі лік мёртвых душ. Гэтая інтэнсыўнасьць вымагаецца некаторымі гістарычнымі асаблівасьцямі, якія павінны вывучацца ў першую чаргу. Пры далучэньні Гомельшчыны краязнаўчая праца там была толькі ў зародышы і цяпер толькі пачынае наладжвацца.

*Зайцаў* (УССР). Аналізуючы працу ЦБК, трэба падкрэсьліць правільнасьць вывучэньня раёну, як стандарту краязнаўчай працы. Усе шукаюць стандарту для сваёй працы, пэдагогі шукаюць яго ў тэстах, прамыслоўцы — у машынах, краязнаўства сваёй стандартнай адзінкай павінна ўзяць раён. Уся праца ў вас концэнтруецца ў раёне і сконтактована між Акадэміяй, ЦБК і краязнаўчымі організацыямі. Цяпер у гэта неабходна ўнесьці некаторую чытэльнасьць. ЦБК не павінна быць перадатным пунктам між раёнамі і Акадэміяй. Неабходна акрэсьліць функцыі організацый. Далей, трэба ня толькі зьбіраць карткі, складаць програмы і інструкцыі (складзеныя вамі настолькі добрыя, што мы перакладзем некаторыя з іх для сябе УССР), трэба ўсю працу зрабіць практычнай. Трэба паглыбіць вывучэньне вытворчых сіл, вывучаць чыста практычныя запатрабаваньні бягучага жыцьця: колькі за лета было пажараў, прычыны дзіцячай бяспрытульнасьці, колькі для іх трэба прытулкаў, вывучаць стан няпісьменнасьці, што чытае сяло, колькі кніжок ёсьць на сяле, колькі мыла прадае коопэратыў, колькі паміраe, колькі зварочваюцца да доктарскай

дапамогі... Мы падыходзім да таго, што досьледы над ромбікамі ў тканінах і вышыўках павінны быць зьвязаны з пытаньнем, наколькі цёмна вёска, з пытаньнем аб яе рэлігійнасьці і г. д. Краязнаўцы на мясцох павінны падумаць і над тым, як-жа палепшыць, перабудаваць вясковае жыцьцё. Краязнаўцы павінны быць актывам у вясковым жыцьці.

Мне здаецца, што пытаньне аб краязнаўчай працы ў школе не такое яснае, як справа з дасьледваньнем фольклёру і наогул этнографіі.

Мова лічбаў — найлепшая мова. У вас ёсьць падлік і гэта добра, але важна ня толькі тое, колькі картак сабрана, а і колькі цэркваў зачынена ў выніку краязнаўчай працы, колькі школ адчынена і г. д. Урэшце дазвольце зьвярнуць увагу на часопіс ваш „Наш Край". Гэта цудоўны часопіс. З такою ахвотаю атрымоўваеш яго на Украіне, перачытваеш, пераглядаеш яго з яго малюнкамі, вузорамі, яго практычнымі і цікавымі артыкуламі. Дзіўна, што ня ўсе краязнаўчыя організацыі падпісваюцца на яго, дзіўна, што „Наш Край" думалі спыніць выданьнем. Трымайце „Наш Край"—гэта найлепшы ваш дапаможнік, даражэце ім. Я заклікаю да самай шырокай падпіскі на яго!

*Васілеўскі.* Краязнаўчая праца ўдасканальваецца. Кульгае ў нас падлік, шмат чаго невядома з таго, што зроблена райтаварыствамі. Напрыклад у аднэй сынагозе знойдзены надзвычайныя кніжкі з надзвычайна мастацкімі аздабленьнямі. У нашай працы высоўваецца новае пытаньне—сувязь нашай працы з антырэлігійнай пропагандай. Другое пытаньне аб функцыях Акруговых т-ваў. Менскае т-ва, ня гледзячы на блізасьць ЦБК, кульгае ў працы. Гэтак сама справа знаходзіцца ў раённых т-вах, якія зьняходзяцца ў акруговых гарадох. Трэба пераглядзець структуру нашай краязнаўчай сеткі. Час пераорганізаваць акруговыя т-вы, іх трэбаператварыць у гарадзкія, бо яны ня здольны ахапіць сваім інструктажам раённыя т-вы.

Слабае месца ў нашай працы — нацыянальныя сэкцыі. Далей складаньня плянаў іх праца ня ідзе. Трэба пасунуць працу яўрэйскага і польскага інструктароў. Таксама неабходна ў „Нашым Краі" зьмяшчаць бібліографію, аднавіць гэтае зьмяшчэньне. Трэба ўстанавіць аднолькавыя сяброўскія складкі і цэнтралізаваць гэтую справу.

*Лазарєс.* (Масква). Я вельмі здаволены пастаноўкаю краязнаўчай працы і дзейнасьцю краязнаўчых організацый БССР. Мне прыходзіцца часта бываць на такіх зьездах і конфэрэнцыях і трэба сказаць, што такі поўны даклад аб працы ЦБК, які я сёньня чуў, прыходзіцца слухаць першы раз. Адносна часоп. „Наш Край" я цалкам далучаюся да погляду т. Зайцава. Гэта—адзіны часопіс у Савецкім Саюзе, бо ў ім ёсьць поўны малюнак краязнаўчай працы ў БССР. І трэба пажадаць, каб і ў іншых раёнах былі такія часопісы. Я пазнаёміўся з выданьнем „Асіпавіцкі раён" і з „Віцебшчынай" і скажу, што гэтыя выданьні ёсьць экзамен, якія вытрымалі краязнаўчыя т-вы. Вашы курсы зрабілі на мяне добрае ўражаньне. Гэта — першы вопыт наагул. Але павінен заўважыць, што програма курсаў была вельмі загружана вялікай колькасьцю дакладаў, што не давала часам магчымасьці сконцэнтраваць увагу на важнейшых пытаньнях. У далейшым такія курсы трэба было-б організоўваць па сэкцыйным прынцыпе. Я падкрэсьліваю вынікі курсаў—зацікаўленасьць да савецкага будаўніцтва, да палепшаньня нашага жыцьця. У Савецкім Саюзе можна заўважыць, што ў той час як культурны ўзровень мас падымаецца, краязнаўчы рух пачынае заціхаць, прыкмячаецца пэсымізм краязнаўчых організацый да індустрыялізацыі да будаўніцтва. Прычына ў тым, што мы з энтузіязмам узяліся за гэта, але ня было глыбокага падыходу да гэтага. З гэтае прычыны трэба браць пытаньні, якія сваёю нагляднасьцю і вынікамі могуць прыцягнуць дасьледчыка.

Другое важнае пытаньне: БССР пераважныя аграрная краіна, між тым процант уцягненьня сялян у краязнаўчую працу нязначны. Ціміразеўскі Інстытут у мінулым годзе ўзяў шэфства над Міхайлаўскай воласьцю Разанскай губ. З Масквы была паслана туды экспэдыцыя, былі абсьледваны перадавыя і бядняцкія гаспадаркі, у выніку было організавана да 120 малочных гаспадарак у малочныя арцелі, пры хатах-чытальнях, пры нардоме пачалі працаваць краязнаўчыя гурткі. Неабходна і на БССР зьвярнуць на гэта ўвагу. Неабходна і рабочых уцягнуць у гэтую працу. Рабочага цяпер цікавіць матар'ялістычнае разуменьне жыцьця. Непасрэднай зацікаўленасьці да краязнаўчых досьледаў у рабочых няма. Трэба пропаганду краязнаўства сярод іх злучаць з агульнымі тэмамі сьветабудовы і антырэлігійнай пропаганды.

Інструктаж—першы вопыт БССР і ў вас пастаўлены прыклднa, узорна. Гэта вельмі важны момант. У заключэньне я выказваю поўнае здавальненьне ад знаёмства з умовамі і вынікамі вашай працы. Пажадана мець цесны контакт краязнаўства БССР і РСФСР. Беларускі краязнаўчы друк павінен шырэй знаёміць беларускіх краязнаўцаў з практыкай краязнаўчай працы ў СССР.

*Ластоўскі.* Я хачу спыніцца на пытаньні аб музэйным будаўніцтве. Мне давялося бачыць некалькі краязнаўчых музэяў і мэтодыка іх організацыі вымагае шмат чаго лепшага. Беларускае народнае мастацтва, якое мае значную каштоўнасьць, у музэях ня мае яшчэ належнага месца, няма ў музэях народнага ткацтва, між тым экономічнае значэньне ткацтва бясспрэчна. Ужо каля 2-х гадоў гаспадарчыя органы БССР падымаюць пытаньні аб організацыі арцеляй беларускага

ткацтва. Што-колечы ў гэтым напрамку робіцца, але мала. А цяпер на вёсцы шмат вольных рабочых рук і організацыя ткацкіх арцеляй мела-б вялікае экономічнае значэньне. Краязнаўчым т-вам, якія маюць свой музэй, трэба зьвярнуць на гэта ўвагу. Трэба музэям знаходзіць і захоўваць іншыя цікавыя рэчы, як напрыклад дошкі для пячэньня пернікаў (Орша прыслала 40 такіх надзвычайна цікавых для мастацтва дошак), прасьніцы і г. д.

*Халмоўскі*. Важную ролю ў краязнаўчай працы адыгрываюць студэнты. Між тым краязнаўчая праца ў тэхнікумах слаба пастаўлена, у індустрыяльных тэхнікумах і зусім няма краязнаўчых гурткоў, Трэба зноў абмеркаваць мэтоды краязнаўчай працы сярод студэнтаў. Ня вырашана пытаньне аб удзеле краязнаўчых організацый у вывучэньні абароназдольнасьці краіны, колектыўных гаспадарак, слаба популярызавалася гэтае пытаньне ў друку.

*Мацьвяёнак*. Балючае пытаньне аб узаемаадносінах акруговага т-ва і раённых. Мы пераходзім ад краязнаўства да краябудаўніцтва, неабходна менш увагі аддаваць організацыйнаму моманту і больш на перабудову, на досьледы. У нас няма практычнага ўхілу; мы ў сваёй працы неяк адмежаваны ад організацый, якія займаюцца паляпшэньнем жыцьця. Мы не дапамагаем напр., такім органам, як Акрплян. Наша конфэрэнцы, магчыма так настроіць раённыя організацыі, што яны зусім адарвуцца ад акруговых т-ваў. Т. Васілеўскі нават ставіў пытаньне аб ліквідацыі акруговых т-ваў. Гэта зусім лёгічна. Няма падставы для існаваньня акруговых т-ваў, калі раёны ня будуць дапамагаць матар'яламі. Прадстаўнік Украіны гаварыў, што краязнаўчая праца на Беларусі добра вядзецца, але прычына гэтага ў тым, што Беларусь бедная краіна і трэба вывучаць самыя глухія куточкі. Між тым у нашых організацыях вельмі мала аграномаў, партыйцаў, а адказных працаўнікоў і зусім няма. Неабходна распачаць кампанію ў час. „Бальшавік Беларусі“ аб уцягненьні ў гэтую працу адказных працаўнікоў. Далей нам неабходна дабівацца практычных вынікаў, выносіць краязнаўчыя пытаньні на шырокія сходы, ілюстраваць свае вынікі, выкарыстоўваць газэты і ў выглядзе прылажэньняў друкаваць свае краязнаўчыя досьледы. Урэшце мясцовыя краязнаўчыя організацыі трэба прывучаць да лёкалізацыі ўсялякіх краязнаўчых матар'ялаў. Асабліва пільную ўвагу трэба зьвярнуць на сувязь з гістпартам.

*Маеўскі* (геолёгічны Інст.). Справа вывучэньня вытворчых сіл і карысных выкапняў вядзецца слаба. Праўда згодна інструкцый у некаторых мясцох дасьледваюцца фосфарыты, крэйда, жалязьнякі, прыродныя фарбы. Краязнаўцы ў гэтым могуць прынесьці вялікую карысьць, трэба толькі ім праз ЦБК зьвязвацца з геолёгічным Інстытутам.

*Гарасімовіч*. Краязнаўчага актыву ў нас вельмі мала. Згодна дакладу т. Казака на раён прыходзіцца па 15 чалавек актыву, але запраўды і такога ліку ў раёнах няма. Няма ў нашых організацыях і „преемственности“. Гэта азначае, што і організацыйная праца ў нас вельмі слаба наладжана. Ці не зьяўляецца падлік працы ЦБК формальным, бо ў акругах ніякага сталага падліку няма, ёсьць разрыў месц і ЦБК, акруговыя т-вы ня кіруюць працай раённых т-ва ў, ЦБК ніякай увагі не зьвяртае на падбор працаўнікоў у Акруговых т-вах. Акруговыя тв-ы толькі перадатныя інстанцыі, прытым дрэнныя і неакуратныя. Мазырскае т-ва знаходзіцца ў выключных умовах. Я выказваюся за скасаваньне акруговых т-ваў. Няправільную думку выказвалі, што музэй можна організаваць для пачатку толькі ў шафе. Памойму організацыю музэю трэба пачынаць з памяшканьня. Неабходны ў раёне і сродкі на краязнаўчую працу, трэба ЦБК мець такі фонд для гэтага.

*Шыбко*. ЦБК і акруговыя т-вы павінны палепшыць працу раёных т-ваў краязнаўства. Апошнія не карыстаюцца аўторытэтам. Каб здабыць яго, раённыя т-вы павінны займацца практычнай, карыснай працай, павінны ставіць свае пытаньні на пасяджэньнях РВК. ЦБК павінна дабіцца ад цэнтральных устаноў адпаведных дэкрэтаў аб дапамозе мясцовым раённым організацыям.

### Заключная прамова т. Казака.

Т. Крукоўскі, старшыня Мазырскага акруговага т-ва, сказаў мне пасьля дакладу ЦБК, што я ў сваім дакладзе мала самакрытыкі ўжыў і вызначыў толькі дадатныя бакі. Гэта тлумачыцца тым, што 2 гады прашло пасьля II Ўсебелар. краязн. зьезду і мы ставілі мэту інформаваць конфэрэнцыю аб нашых дасягненьнях. Я далучаюся да слоў Горкага, што іншы раз трэба высоўваць свае дасягненьні. Пасьля заўвагі т. Крукоўскага я яшчэ раз перагледзеў пастановы II зьезду і цяпер падкрэсьліваю асноўны недахоп у нашай працы—у нас ня створана грамадзкая думка вакол краязнаўчага руху. Нам трэба будзе ад імя ЦБК паставіць даклад аб выніках працы краязнаўчых організацый перад адпаведнымі органамі. Да гэтага часу яскравых вынікаў ня было, нельга было выступаць з конкрэтнымі матар'ямі. Падкрэсьлівалі нам і другі недахоп у нашай працы—несваечасовы выхад „Нашага Краю“ ў летнія месяцы. На гэта будзе зьвернута сур'ёзная ўвага. Зусім слушна казаў т. Васілеўскі, што ў нас няма сталага падліку вынікаў працы. Я і падкрэсьліваў, што 40% організацый ня прыслала справаздач. Далей я павінен прызнаць адну памылку у якой магчыма вінна і ЦБК. Падрыхтаваўшы конфэрэнцыю, мы не паведамілі ўсе краязнаўчыя організацыі аб гэтым — Цяпер адбываецца конфэрэнцыя, праца яе высьвятляецца ў друку і некаторыя

раённый т-вы зьдзіўлены, што іх не запрасілі на конфэрэнцыю. Напр. Барысаўскае раённае т-ва прыслала ліст т. Самцэвічу, дзе запытваецца, з якой прычыны ЦБК лічыла непатрэбным запрасіць на конфэрэнцыю Барысаўскае т-ва. Праўда мы даручылі ўсім акруговым т-вам паведаміць аб конфэрэнцыі ўсе раённыя (галасы з месц: так і зрабілі!). Зрабілі, але ня ўсе. Менскае т-ва напрыклад не паведаміла Барысаўскае. З другога боку, мы ўсе былі вельмі заняты падрыхтоўкай да сьвята адчыненьня Акадэміі Навук, што да канца не прадумалі ўсё гэтае пытаньне аб конфэрэнцыі. Іншыя заўвагі таварышоў, якія выступалі ў спрэчках, у асноўным былі правільнымі, асабліва заўвагі т. Клімянкова, што нам неабходна пашырыць вытворчае краязнаўства. Цяпер у нас ёсьць магчымасьць даць кіраўнічыя ўказаньні. Да гэтага часу Інстытут імя Леніна ня прыходзіў нам на дапамогу. ЦБК адразу зрабіла ўвязку з ім, але за два гады сувязь не наладзілася. Мы запрашалі т. Гарэцкага на нашы паседжаньні, прапанавалі самім нам прысьці ў Інстытут, але справа не кранулася з месца. У далейшым мы спадзяемся сувязь наладзіць. Заўвагі, якія зрабілі таварышы—прадстаўнікі Саюзных рэспублік, мы, канечне, скарыстаем у працы ЦБК. Адносна сувязі раённых таварыстваў з Акруговымі і мэтазгоднасьці існаваньня акруговых неабходна сказаць, што пытаньне адразу вырашыць нельга. Т. Мацьвяёнак беспадстаўна кажа, што акруговыя т-вы ня могуць кіраваць працай раённых т-ваў. У прыклад поўнай магчымасьці гэтага я прывяду Мазырскае Акруговае Т-ва. Нельга гаварыць, што ЦБК зьвязваецца з раёнамі, мінуючы Акруговыя т-вы. Ад раённых т-ваў мы просім толькі раз у год справаздач. Ніякімі заданьнямі іх не перагружаем.

Нашы чарговыя задачы: 1) папулярызацыя краязнаўчай працы ўсё яшчэ ня сходзіць з парадку дня: 2) унясеньне ў мясцовыя каштарысы пэўных сродкаў на краязнаўчую працу; трэба і можна дабіцца сродкаў на выдавецкую чыннасьць, на музэйную працу, на досьледы; 3) захаваньне сьціслай сувязі нашых організацый з Акадэміяй Навук. У гэтым напрамку ня ўсё добра: паловы членаў ЦБК ад устаноў Акадэміі няма на конфэрэнцыі; на папярэдніх зьездах было інакш.

Адносна падрыхтоўкі краязнаўцаў мы рабілі і робім усё магчымае. Гэта, аднак не азначае, што ЦБК павінна быць інспэктарыятам асьветы. Гэта ня нашы функцыі. З другога боку нам цяжка было адваяваць нават 1 гадзіну на выкладаньне краязнаўства ў тэхнікумах.

Урэшце, неабходна лепшыя працы краязнаўцаў зьмяшчаць у друку. ЦБК прыдзецца зрабіць захады праз Аддзел Друку, каб большую ўвагу зьвярнулі на гэта і далі магчымасьць рэалізаваць краязнаўчую працу на Беларусі. Мы гэтага будзем дабівацца ў магчымай меры і ад устаноў Акадэміі Навук.

## VI. Ліквідаваньне краязнаўчай няпісьменнасьці і падрыхтоўка краязнаўцаў.

даклад *т. Касьпяровіча* (будзе надрукаваны ў чарговых №№ „Нашага Краю").

## VII. Краязнаўства ў пэдтэхнікумах

даклад *т. Велішчанскага.*

З пачатку 1928-29 нав. году ўва ўсіх пэддустановах БССР уведзены курс мэтодыкі краязнаўства; зроблена тое, што даўно ўжо існуе ў Латвіі, Літве і інш. дзяржавах. Мэты ўвядзеньня гэтага курсу наступныя: соцыялістычнае будаўніцтва СССР патрабуе добрага веданьня сваёй краіны, яе прыродных, экономічных і соцыяльных асаблівасьцяй, што ў сваю чаргу выклікае неабходнасьць мець працаўнікоў, якія былі-б на мясцох організатарамі гэтай працы і добра ведалі, якімі мэтодамі можна дасягнуць пастаўленых перад краязнаўствам мэтаў.

Для правядзеньня курсу мэтодыкі краязнаўства на IV курсе адводзіцца 1 гадз. ў тыдзень, якая разьмяркоўваецца, у сувязі з новымі формамі пэдпрактыкуму, наступным чынам: з 15-Х па 10-ХІІ—16 гадзін і з 10-ІІ па 1-V (за выключэньнем 3-х тыдняў на пэдпрактыку рэшта—14 гадзін, а ўсяго—30 гадзін за год на ўвесь курс. Програма прадугледжвае наступныя разрэзы працы: агульная мэтодыка, краязнаўства як грамадзкі рух, спэцыяльная мэтодыка (Вывучэньне краю і паасобных раёнаў) і краязнаўчыя мэтоды ў школьнай працы. Увесь першы сэмэстр выкарыстаны для вывучэньня агульнай мэтодыкі і вывученьне мэтодаў краязнаўчых дасьледваньняў (агульная ўстаноўка ў працы), часткова краязнаўства як грамадзкага руху (І тэма) і організацыі правядзеньня практычных прац—рознага тыпу дасьледваньняў, якія павінны легчы ў аснову вывучэньня краю ў другім паўгодзьдзі.

Галоўнымі цяжкасьцямі пры правядзеньні гэтага курсу былі: поўная адсутнасьць якіхколечы падручнікаў на руках у студэнтаў, з якое прычыны прыходзілася пісаць конспэкты лекцый; поўная непрыстасаванасьць програмы падручнікаў, якія ёсьць на кніжным рынку (Книга Краеведа, Как изучать свой край, Школьнае краеведение). Большая частка пытаньняў агульнае мэтодыкі зусім не знайшла свайго асьвятленьня ў сучаснай краязнаўчай літаратуры; нязначная колькасьць часу на правядзеньне курсу, што часта вымушала організацыю практычных прац і апрацоўку вынікаў дасьледваньняў пераносіць на часы пазашкольнай працы і без таго перагружаных гэтай працаю студэнтаў; багата шкодзіла і поўная адсутнасьць відавочных дапамог, бо краязнаўчы музэй дагэтуль яшчэ знаходзіцца ў стадыі організацыі. За паўгодзьдзе праведзены наступныя практычныя працы: анкетнае дасьледваньне інтарэсаў і нахілаў рагачэўскага студэнцтва; вывучэньне Рагачэву як

соцыяльна-эканомічнага організму і вывучэньне кірмашу на „Міколу Зімняга“ ў разрэзе: што вёска дае гораду ўзімку і што бярэ ад яго.

Першая тэма распрацоўвалася абодвума курсамі, апошнія—па аднэй на кожны курс.

Першая праца праведзена наступным чынам: пасьля пастаноўкі перад курсамі мэты працы была выдзелена з ліку студэнцтва орг. камісія ў складзе 7 асоб, разам з якой былі апрацаваны пытаньні анкеты (за аснову ўзята анкета з „Книги Краеведа“). Дзеля таго, што прыходзілася напісаць каля 300 адзінак (на друкаваньне не хапала сродкаў), то гэтую працу правялі са студэнтамі IV курсаў у час акадэм. заняткаў (2 гадзіны). Члены оргкамісіі правялі на ўсіх курсах падрыхтоўчую кампанію, растлумачылі мэту анкеты (яна была анонімная); пасьля збору запоўненых анкет і сартыроўкі іх па роду аўтараў (мужч. і жанчын) на лекцыі анкеты распрацоўваліся (па „конвэйернай сыстэме“): кожны студэнт рэгістраваў адказ і на 1 пытаньнё. Канчатковую апрацоўку вынікаў (сыстэматызацыя, вылічэньне % і фіксацыя найбольш цікавых адказаў) зрабіла зноў оргкамісія; вынікі анкеты былі даложаны на лекцыях студэнтам IV курсаў.

Таксама з боку організацыйнага былі праведзены і другія тэмы.

Пры вывучэньні II тэмы за аснову ўзята інструкцыя па вывучэньні гарадоў, якая зьмешчана ў № 1 за 1925 г. час. „Наш Край“ і да кожнага сябра оргкамітэту прымацавана пэўная колькасьць студэнтаў; оргкамітэт распрацаваў дасканала програмы для дасьледваньня, напісаў кожнаму студэнту заданьне. Часта ім прыходзілася самім хадзіць у ўстановы дагаварвацца аб тым ці іншым пытаньні. Праца яшчэ ня скончана і яе літаратурнае афармленьне, якое ляжыць на абавязку оргкоміс ii, будзе праведзена ў II паўгодзьдзі. Пры распрацоўцы III тэмы студэнты IV курсу былі падзелены на 3 групы, з якіх I група занялася дэмографічнай працай: пастаўлены былі пікеты па ўсіх вуліцах, якія вядуць да базару; з 7 гадз. раніцы да 2-х г. дня трымя зьменамі былі адзначаны ўсе асабы, якія ішлі на кірмаш, а таксама падводы, на якіх сяляне ехалі; сетка была з нярухомай скалой з наступнымі графамі: сяляне, гаспадыні, вучні (моладзь), чырвонаармейцы, служачыя і цікавыя тыпы, II група разьмеркавала між сабою рэгістрацыю прывезеных рэчаў іжывёлы на продаж пры рэгістрацыі фіксавалася на зараней разграфлёным аркушы колькасьць, назва, кошт і месца вырабу. III група, пасьля папярэдніх перагавораў з адміністрацыяй коопэрацыйных, дзяржгандлёвых, саматужніцкіх устаноў Рагачэву кіраўніка гуртку, сабрала па крамах весткі аб тым, колькі і чаго купілі сяляне ў крамах у дзень кірмашу. Трэба адзначыць спачуваючыя адносіны адміністрацыі ЦРК, якая на гэты дзень увяла прадметны вучот праданых сялянам тавараў. Апрацоўвалі вынікі дасьледваньня зноў члены оргкамісіі. Гэтымі працамі студэнты пазнаёміліся на практыцы як трэба весьці краязнаўчыя дасьледваньні розных тыпаў: анонімных анкет, дэмографічных назіраньняў, эканомічных дасьледваньняў, вывучэньня мінулага гораду, яго ўстаноў, будынкаў і г. д.

Мой кароткі даклад аб краязнаўчай працы Рагачэўскага Пэдтэхнікуму ня трэба разглядаць як даклад аб прыкладной пастаноўцы Краязнаўчай працы ў Пэдтэхнікуме. Я бачу ў ім толькі „casus belli“,—штурх да таго, каб у спрэчках абмяняцца каштоўным вопытам у пастаноўцы працы ўва ўсіх навучальных установах БССР і ў далейшай сваёй працы выкарыстаць гэты колектыўны вопыт.

Краязнаўчы гурток пэдтэхнікуму, які ў сучасны момант мае ў сваіх шэрагах 56 студэнтаў, зарадзіўся яшчэ ў 1925-26 навуч. годзе і спачатку (да мінулага году) працаваў на сэкцыях: прыродазнаўчай, грамадзка-эканомічнай і мовазнаўчай; але, з прычыны няроўнамернай нагрузкі сяброў сэкцый працай і немагчымасьці аднолькава абслугоўваць гэтыя сэкцыі настаўніцкімі сіламі з 1928 году праца вядзецца без падзелу на сэкцыі. На чале гуртку стаіць праўленьне з 5 асоб і Рэвізыйнай Камісіі; уставам гуртку зьяўляецца ўстаў краязнаўчых гурткоў пры навучальных установах, зьмешчаны ў часопісу „Наш Край“. Усе сябры гуртку ўваходзяць у склад Раённага Т-ва Краязнаўства, маюць там свайго прадстаўніка. Кіраўніком гуртку зьяўляецца выкладчык мэтодыкі краязнаўства; ён уваходзіць з правам пастаноўчага голасу ў склад праўленьня гуртку. У працы гуртку шчыра дапамагае выкладчык мовы і мэтодыкі яе т. Харэвіч.

Пры праўленьні гуртку існуюць камісіі: слоўнікавая, музэйная; бібліотэкай і фэн. мэтэоролёгічнай станцыяй загадваюць сябры праўленьня. Мэта існаваньня гуртку—прывучыць студэнцтва да практычнай працы па краязнаўству і дапамагаць у працы краязнаўцам раёну, значыць, выконваць некаторую навукова-практычную працу; так і будуецца праца ў гуртку. Праца вядзецца ў наступных разрэзах.

Вывучэньне прыроды: пад загадам гуртку знаходзіцца фэнолёго-мэтэоролёгічная станцыя, якая другі год рэгулярна адзначае фэнзьявы і мэтэоролёгічныя паказальнікі (за выкл. колькасьці ападкаў дзеля адсутнасьці дажджамеру); штомесячныя вынікі дасылаюцца ў акругу; праводзіцца зьбіраньне і праверка народных прымет на пагоду (сабрана 45 прымет).

Другі год зьбіраюцца расьліны Рагачэўшчыны; дагэтуль сабрана і адзначана каля 300 відаў іх; пры гэтым былі выкарыстаны зельнікі, якія зьбіраюцца студэнтамі ў парадку акадэмпрацы.

Па распрацаванай кіраўніком гуртку анкеце вывучана і апісана „Рыбная фаўна Дняпра і способы лоўлі“ (апісана звыш 35 відаў рыб).

У гэтым годзе сіламі гуртку ў учхозе пэдтэхнікуму заложаны дэндролёгічны пітомнік (пасаджана каля 40 відаў хмызьняку і дрэў), лектравы, фарбоўныя сродкі.

Распачата праца па вывучэньні шкоднікаў сельскай гаспадаркі; частка колекцый ужо сабрана.

У мінулым годзе сабрана і адпраўлена ў І. Б. К. каля 700 картак-слоў; каля 500 песень - прыпевак; 12 замоў; праведзена апісаньне абрадаў у розных вёсках. Зьбіраюцца гатункі беларускага мастацтва (узоры тканіны). Вялікую працу гурток распачаў па ўкладаньні раённага слоўніка мовы. Праведзена сіламі гуртку санітарна-бытавое абсьледваньне в. Збароў па програме Цьвікевіча; гэты матар'ял апрацованы і пасланы ў „Наш Край" Дасьледваньне рабіліся па зьвеньнявой сыстэме: кожны ўдзельнік або невялічкая група атрымлівала для дасьледваньня пэўнае пытаньне; пасьля вывучэньня вынікі яго, даложаны на агульным сходзе гуртку.

Заканчываецца ўкладаньнем карта культасьветных устаноў Рагачэўшчыны.

Вывучэньне экономікі Рагачэўшчыны складалася з наступных момантаў: (недахопам яго можна лічаць некаторую няпляновасьць у працы).

1) Было праведзена вывучэньне саматужніцкіх організацый Рагачэву.

2) Некалькі разоў хадзілі вывучаць гатункі сялянскіх вырабаў на кірмашох і цэны на продукты.

3) Дасьледваны фабрыка імя Сталіна (картонная) і лесапільня; па зьвеньнявой-жа сыстэме былі вывучаны: мінулае гэтых установў (гісторыя організацыі), процэс працы, месцы загатоўкі сыравіны і збыту продукцыі; калькуляцыя продукцыі, матар'яльны стан рабочых і іх быт, дзейнасьць камісій па культ., ахове і шэф.-працы.

4) Вывучаліся абароты коопэрацыі.

5) Зараз праводзіцца значная праца па ўкладаньні карт прамысловых устаноў раёну, глеб, агульнай карты раёну.

Па архіўных докумэнтах і ўспамінах старых выхаванцаў Рагачэўскай настаўніцкай сэмінарыі зроблена кароткае апісаньне яе гісторыі.

Зьбіраюцца матар'ялы па гісторыі рэв. руху на Рагачэўшчыне (распачата). Укладзена невялічкая колекцыя папяровых, медных і сярэбраных старых грошаў. Зьбіраюцца цікавыя докумэнты аб старасьвецкім жыцьці: выпісы з мэтрычных кніг, лісты і г. д.; зьбіраюцца адбіткі старых гэрбавых пячатак і гісторыі іх уласьнікаў.

Значную працу правёў гурток у популярызацыі ідэй краязнаўстваў у Рагачэўскіх школах, да кожнай школы быў прымацаваны сябра гуртку, які пасьля належнага інструктаваньня праводзіў у падшэфнай школе сходы вучняў, знаёміў іх з краязнаўчаю працаю і г. д. На жаль, галоўным чынам.з прычыны досыць халодных адносін большасьці загадчыкаў школ, асабліва працы ў большасьці выпадках разгарнуць не ўдалося; імкненьне гэтае паправілі ў бягучым годзе.

На канікулы гурток дае сваім сябром заданьні для практычаай працы ў сваёй вёсцы. Трэба адзначыць, што ў мінулым годзе зімовыя заданьні былі выканаңы на 100%; летнія заданьні сарваліся дзеля нечаканай перамены часу падагульненьня, залікаў і водпуску.

У гэты перапынак студэнты ўзялі наступныя тэмы для праца: 1) Абсьледваньне школы; 2) апісаньне сёлетняга ўраджаю з паказаньнем, на якіх глебах, пры якім тэрміне пасеву ён быў лепшым; 3) мэханізацыя сельскай гаспадаркі (колькасьць машын у вёсцы, да каго яны належаць); 4) Дзейнасьць коопэрацыі; 5) адносіны да рэлігіі; 6) саматужніцтва ў вёсцы; 7) працяг зьбіраньня і праверкі прымет на надвор'е; 8) працяг зьбіраньня слоў і фольклёру; 9) апісаньне комбінату г. Рагачэву (для жыхароў Рагачэву) і 10) праца па організацыі музэю (абсталяваньне пакою таксама рагачэўцамі).

**Спрэчкі па дакладах т. Касьяровіча і т. Велішчанскага.**

*Шульц.* Мы павінны зьвярнуць найбольшую ўвагу на самы напрамак падрыхтоўкі краязнаўцаў. Цяпер адчуваецца патрэба ў дасьледчай працы, а ня толькі ў зьбіраньні матар'ялаў. Цяпер краязнаўцам трэба даць і навуковую падрыхтоўку і належную спэцыялізацыю ў якой-небудзь галіне. Курсы трэба праводзіць так, каб давалася ўсё неабходнае для дасьледваньня і каб было разьдзяленьне працы па спэцыяльнасьці. Наконт курсаў, якія прапануе т. Касьяровіч, нельга быць пэўным, што яны магчымы. Большасьць краязнаўцаў—настаўнікі і кінуць сваю працу на доўгі час ня змогуць. Садаклад т. Велішчанскага даў некаторыя вехі краязнаўчай працы ў школе, але нам трэба апрацаваная мэтодыка краязнаўчай працы гурткоў у 7-ках.

*Мацьвяёнак.* Па дакладу т. Касьяровіча няма чаго спрачацца, пажадана, каб даклад быў надрукаваны. Адносна садакладу даю некалькі заўваг. Кожны мэтодысты выкладае краязнаўства з свайго пункту погляду, пакольк і ў якой галіне ён сам ёсьць краязнаўца. Студэнты подзяляюцца на спэцыяльнасьці, большая ўвага аддаецца этнографіі, экономічным досьледам, меншая — прыродзе і найменшая — гісторыі. У Магілеўскім пэдтэхнікуме адначасна з прахаджэньнем тэорыі ўжываецца і практыка: кожны студэнт павінен распрацаваць тры тэмы, зьвязаныя з вёскай, горадам і новым бытам. У нас ёсьць вынікі працы: 22 студэнты зьбіралі словы, фольклёр, вывучалі некаторыя моманты рэў. руху на Магілеўшчыне. Студэнты прымацаваны ў практычных мэтах да музэю і архіву. У програме выкладаньня краязнаўства мы зрабілі некаторыя зьмены; устаўлена новая тэма, як скласьці монографічнае апісаньне раёну.

*Тамкоўскі.* Програма краязнаўства не дапасавана да магчымасьцяй і літаратуры. Скарга на тое, што мала часу на выкладаньне краязнаўства, памойму ня мае падстаў, бо ўсе прадметы павінны мець краязнаўчы ўхіл. Нас павінна больш цікавіць практычная ўстаноўка ў працы. Неабходна далей увязваць пытаньне аб працы з пытаньнем аб сродках для організацыі краязнаўчай падрыхтоўкі. Лепш чым наладжваць курсы, узмацніць інструктаж раёнаў і гурткоў ня толькі сіламі ЦБК, акруговых т-ваў, а і сіламі подтэхнікумаў.

*Мялешка.* Програма па краязнаўству ў пэдтэхнікумах няўдалая, прыходзіцца яе перарабляць, не паказана літаратура і г. д. У Полацкім пэдтэхнікуме студэнты праводзяць вывучэньне Полацку ў трох напрамках, агульна прынятых. Студэнты 4 курсу былі падзелены на 25 груп, якія зьбіралі матар'ялы і апрацоўвалі яго. На вакацыі былі дадзены ім заданьні. Я лічу, што курс краязнаўства неабходна перанесьці на 3 курс, бо за лета пажадана, каб студэнты ўжо далі вынікі сваёй краязнаўчай працы. Неабходна і іншым дысцыплінам у пэдтэхнікуме надаць краязнаўчы ўхіл—наладзіць зьбіраньне гэрбарыяў, мэлёдый і г. д.

*Аляксандраў.* Дэталізацыі ў програме не магло быць, бо яшчэ ня было практыкі выкладаньня гэтай дысцыпліны. Літаратуру паказаць можна. У недахопах складальнікі мала відны: програма была разьлічна на 2 гадзіны ў тыдзень. Я згодзен з неабходнасьцю перанясеньня краязнаўства на 3 курс. Адносна ўвязваньня краязнаўства з іншымі дысцыплінамі я баюся, што-б ня было паралелізму і ў выніку зьнішчэньня самай дысцыпліны краязнаўства. Далей калі выкладчык будзе даваць ухіл па сваёй спэцыяльнасьці, мы тады адмаўляемся ад агульных прынцыпаў краязнаўчага руху. Урэшце мы павінны ня толькі навучыць некаторым краязнаўчым мэтодам, а і даць вядомы навык у гэтым, г. зн. у дасьледчай працы. Зразумела, у програме шмат агульных палажэньняў, мы па сканчэньні гадавой працы павінны дэталізаваць програму на падставе гадавой практыкі.

*Бялькевіч.* Мэтодыку краязнаўства трэба чытаць на 1 курсе, бо ўся далейшая праца павінна быць прасякнута краязнаўчым матар'ялам. Павялічваць гадзіны ня трэба, бо яны павінны аддавацца выключна на тэорыю. Няправільна, што студэнты і пэдтэхнікум ня можа весьці краязнаўчую працу летам. У Мсьціслаўскім тэхнікуме ўся прыродазнаўчая праца вялася ўлетку, а мовазнаўчая пераносілася на зіму. Няма падручніка па краязнаўству, бо програмы зьмяняюцца. Далей адносна інструктажу трэба сказаць, што патрэбны мясцовыя інструктары, бо часта краязнаўчая няпісьменнасьць вельмі нашырана. Так у Мсьціслаўлі на працягу двухгадовай краязнаўчай працы заснаваўся музэй, было адведзена памяшканьне, насельніцтва дапамагала ў зьбіраньні матар'ялаў (рэвіскія казкі і інш.), былі нават некаторыя стараславянскія беларускія кнігі. Новы дырэктар тэхнікуму расфармаваў музэй. Прыродазнаўчыя экспонаты ўзяў прыродазнаўца. Іншыя рэчы (царкоўна-славяншчына) былі спалены. Я прасіў-бы дасьледваць гэты факт.

*Вінаградаў.* У нас шмат мёртвых душ, каб гэтага ня было, трэба мець у наліччы добра падрыхтаваных ідэолёгаў краязнаўства. Звычайная зьява: як толькі выбывае з організацыі актывіст, часта праца спыняецца. Утварэньне гадавых краязнаўчых курсаў—утопія. Трэба на летні час організаваць 2-3 месячныя курсы. Пры тэхнікумах можна наладзіць курсы, як было гэта пры БДЗУ.

*Велішчанскі* (заключная прамова). З усімі заўвагамі я згодзен і спынюся на некаторых. Т. Тамкоўскі казаў, што ў маім дакладзе мала было паказана конкрэтных вынікаў працы, але за 30 хв. нельга было гэтага зрабіць. Т. Бялькевіч кажа аб перанясеньні курсу краязнаўства на 1 курс. Але на 1-м курсе зусім яшчэ слабы матар'ял і пачынаць з мэтодыкі нерацыянальна. Лепш за ўсё на 3 курсе.

*Касьпяровіч* у заключнай прамове спыніўся на некаторых момантах краязнаўчай падрыхтоўкі і высьветліў некаторыя спрэчныя пытаньні.

**Рэзолюцыя па справаздачы ЦБК і дакладах т. Касьпяровіча і т. Велішчанскага.**

Заслухаўшы справаздачу ЦБКраязнаўства за 1927 і 28 г.г., II Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя адзначае:

1. ЦБ Краязнаўства за справаздачны пэрыод праведзена значная працы па накіраваньні і організацыі краязнаўчай справы ў БССР: своечасова і рэгулярна вызначаліся тыя пытаньні, на якіх павінна быць сконцэнтравана ўвага, а таксама даваліся належныя мэтодычна-інструкцыйныя ўказаньні мясцовым краязнаўчым організацыям.

2. У мэтах стварэньня належнай грамадзкай думкі навокал пытаньняў краязнаўства праведзена вялікая популярызацыйная праца па краязнаўству.

3. Своечасова пастаўлена пытаньне аб падрыхтоўцы новых кадраў краязнаўцаў праз увядзеньне курсу краязнаўства ў навучальных установах і шляхам організацыі спэцыяльных курсаў па краязнаўству.

4. Прароблена значная праца ў галіне мэтодычна-інструкцыйнай і па ўстанаўленьні жывой сувязі з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі.

5. У працы мясцовых краязнаўчых організацый заўважваецца нормальны рост організацый і членаў, як па партыйным, нацыянальным, гэтак і профэсыянальным складзе, а таксама ёсьць значныя дасягненьні ў справе дасьледваньня краязнаўчымі організацыямі сваёй мясцовасьці, у справе рэалізацыі вынікаў вывучэньня і дапамогі навуковым

інстытуцыям у дасьледваньні і вывучэньні тых ці іншых пытаньняў.

6. Адзначаючы ўсё гэта—II Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя прызнае працу ЦБ Краязнаўства і большасьці мясцовых краязнаўчых організ. за спрэвваздачны пэрыод здавальняючай і лінію правільнай.

7. Побач з пералічанымі вышэй дасягненьнямі, II Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя адзначае наступныя недахопы:

а) паглыбленая краязнаўчая праца вядзецца ня ўсімі краязнаўчымі організацыямі, каля паловы мясцовых краязнаўчых організацый усё яшчэ ня вышлі з організацыйнага пэрыоду;

б) ня ўсюды праведзена належным чынам популярызацыйная праца краязнаўства, з прычыны чаго ёсьць выпадкі незразуменьня мясцовымі працаўнікамі значэньня краязнаўства і адсутнічае падтрыманьне яе;

в) да гэтага часу ня ўсюды ёсьць увязка працы мясцовых краязнаўчых організацый з установамі і організацыямі, якія вядуць вывучэньне краю;

г) слабая праца і кіраўніцтва па пашырэньні краязнаўства сярод нацменшасьцяй.

д) слаба разгорнута праца па рэалізацыі вынікаў вывучэньня ў друку як у цэнтральным, гэтак і мясцовым;

е) адчуваецца недахоп у інструкцыйна мэтодычных матар'ялах, асабліва ў галіне вывучэньня экономікі і гаспадаркі і рэв. руху;

ж) ня ўсімі краязнаўчымі організацыямі выпісваецца інструкцыйна-кіраўнічы часопіс краязнаўства „Наш Край".

з) недагаворанасьць з НКА і слабае кіраўніцтва школьна-краязнаўчым рухам;

і) адсутнасьць поўнай увязкі ў працы з Навукова-Дасьледчым Інстытутам імя Леніна.

Ў мэтах паглыбленьня і ўзмацненьня краязнаўчай справы ў далейшай працы патрэбна зрабіць наступнае:

1. Дзеля стварэньня навокал пытаньняў краязнаўства шырокай грамадзкай думкі і для пасьпяховага разьвіцьця краязнаўчага руху лічыць патрэбным правядзеньне популярызацыі пытаньняў краязнаўства ня толькі краязнаўчымі організацыямі, але і ўсімі савецкімі і профэсыянальнымі органамі ў адпаведнасьці з пастановамі партыйных органаў, а таксама ўтвараць спрыяючыя ўмовы стымуляваньня краязнаўчай справы, дзеля чаго: а) аслабаняць сталых працаўнікоў краязнаўцаў ад іншых відаў нагрузкі грамадзкай працай, б) ужываць мэтод вылучэнства па лініі краязнаўства, высоўваючы найбольш выявіўшыхся мясцовых краязнаўцаў на савецкую, гаспадарчую, пэдагогічную і навукова-дасьледчую працу, пасылаючы лепшых працаўнікоў у навукова-дасьледчыя ўстановы ў якасьці асьпірантаў.

2. Наладзіць працу па падрыхтоўцы новых кадраў краязнаўцаў, як праз пастаноўку належным чынам выкладаньня курсу краязнаўства ў навучальных установах, гэтак і праз організацыю сталых курсаў кр-ва пры ЦКБ і пры Т-ве Кр-ва БДУ і акругов. таварыствах.

3. Ужыць неабходныя захады для ўвязкі працы мясцовых краязнаўчых організацый з плянавымі дзяржаўнымі органамі, а таксама дабіцца ўвязкі ўсіх навуковых экспэдыцый з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі.

4. ЦБК прыняць крокі да хутчэйшага выпуску мэтодычна-краязнаўчага зборніку, а таксама павялічыць лік матар'ялаў мэтодычна-кіраўнічага характару ў час. „Наш Край", у галіне вывучэньня экономікі і гаспадаркі.

5. У мэтах заахвочваньня дапішчыкаў у справе дасылкі матар'ялаў лічыць патрэбным зьмяшчэньне лепшых прац дапішчыкаў-краязнаўцаў у выданьнях БАН, пашырыўшы выданьне архіўных матар'ялаў.

6. Наладзіць справу практычнай дапамогі навукова-дасьледчай працы мясцовых краязнаўчых організацый праз пасылку ў раённыя організацыі на больш доўгі тэрмін інструктарскага складу ЦБК.

7. Абавязаць мясцовыя краязнаўчыя організацыі прыняць неабходныя меры да пашырэньня падпіскі на час. „Наш Край", не павінна быць ніводнай краязнаўчай організацыі, якая-б ня выпісвала свайго часопісу.

8. Абавязаць краязнаўчыя організацыі сваечасова даваць інформацыі ЦБК аб працы сваёй організацыі, а таксама сваечасова даваць справаздачныя весткі.

9. Паставіць пытаньне праз Аддзел Друку аб узмацненьні ўвагі да зьмяшчэньня дописаў краязнаўчага характару ў мясцовым пэрыодычным друку.

10. З мэтай наладжаньня справы падліку краязнаўчых організацый і краязнаўцаў установіць абавязковую справаздачнасьць па адзінай форме ўсяе краязнаўчае сеткі БССР на 1 студзеня наступнага году ня спыняючыся перад выключэньнем з агульнага складу мёртвых організацый (гл. 11 ніжэй).

11. ЦБК ужыць неабходныя крокі перад НКА аб палепшаньні кіраўніцтва школьна-краязнаўчым рухам, а таксама наконт выпіскі час. „Наш Край" для ўсіх культасьветных установ.

12. Наладзіць сталую сувязь з НДІ па вывучэньні сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна дзеля ўвязкі працы ў галіне вывучэньня сельскай і лясной гаспадаркі мясцовымі дасьледчыкамі і краязнаўцамі.

13. ЦБК заняцца вывучэньнем пытаньняў краязнаўства ў справе абароны краіны і даць месцам па гэтым пытаньні адпаведныя ўказаньні.

14. Наладзіць разам з Дзяржаўнай Бібліотэкай дасылку мясцовым краязнаўчым організацыям перасовачных бібліотэчак па краязнаўству.

15. ЦБК і ў далейшым ня спыняць працы па вывучэньні і мэтодаў краязнаўчага руху і структурнай пабудовы краязнаўчай сеткі.

16. ЦБК узмацніць працу па краязнаўству сярод нацыянальных меншасьцяй, зьвяр-

нуўшы асаблівую ўвагу на заснаваньне сталага жывога кіраўніцтва мясцовымі сэкцыямі нацыянальных меншасьцяй.

**VIII. Аб зьменах у статуце ЦБК**—інформацыя *т. Казака.*

У статуце ЦБК ёсьць недагляды ў п. 5., дзе гаворыцца, што лік членаў ЦБК вызначаецца Усебеларускім Зьездам. Цяпер абставіны не даюць магчымасьці кожныя 2 гады склікаць зьезды. Неабходна дадаць у п. 5 слова „і конфэрэнцыях".

Прапанова аднагалосна прымаецца.

**IX. Выбары ЦБК і яго прэзыдыуму.**

Конфэрэнцыя заслухоўвае інформацыю т. Казака, які на падставе папярэдняга абгаварэньня ўносіць прапанову поўны склад ЦБК вызначыць у такім выглядзе: супрацоўнікаў ЦБК—5, ад БАН і дасьледчага Інстытуту—10, ад Наркамасьветы і Галоўнавукі—2, ад Вузаў БССР—4, ад Акруговых Т-ваў т-ваў БДЗУ—9, ад раённых 3 (Слуцкае, Горацкае, Барысаўскае), ад грамадзкіх організацый АПАЦККПБ, ЦК ЛКСМБ, ЦСПСБ ЦСУ—4, а ўсяго 37. Склад пленуму ЦБК аднагалосна прымаецца. Конфэрэнцыя зацьвердзіла наступны склад прэзыдыуму ЦБК: т.т. Казак, Касьпяровіч, Аляксандраў, Бялькевіч, Самцэвіч, Сабалеўскі і Гэршман (ЦК ЛКСМБ).

**X. Абраньне членаў-корэспондэнтаў ЦБК.**

Навуковы сакратар ЦБК ад імя ЦБК зачытвае сьпіс кандыдатаў у члены-корэспондэнты ЦБК, якія, па думцы ЦБК, зьяўляюцца лепшымі краязнаўцамі і організатарамі краязнаўчай працы на мясцох. ЦБК запрасіла ў намечаных краязнаўцаў згоду на абраньне іх у члены-корэспондэнты ЦБК. Конфэрэнцыя зацьвярджае наступны склад членаў і корэспондэнтаў ЦБК:

1. *Васілеўскі, Даніла Мінавіч* (Ворша), 38 г., навуковы работнік, адказны сакратар акруговага праўленьня саюзу працаўнікоў асьветы, з сялян, беларус, скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут і вучыўся ў Маскоўскай сельска-гаспадарчай акадэміі і археолёгічным інстытуце. Краязнаўствам займаецца з 1922 г.; адказны працаўнік Аршанскага акруговага таварыства краязнаўства з 1924 г.; друкаваўся ў розных расійскіх і беларускіх газэтах з 1909 г., а таксама ў часопісу „Наш Край", „Аршаншчыне", „Працах Навуковага Таварыства для вывучэньня Беларусі", „Савецкай Беларусі", „Комуністычным Шляху" і інш.; займаецца вывучэньнем пераважна гісторыі гарадоў Беларусі, гісторыі беларускай літаратуры і пытаньняў мясцовай этнографіі.

2. *Катлінскі, Гаўрыла Іванавіч* (Чэрвень), 48 г., настаўнік, загадчык Чэрвенскай беларускай сямігодкі, з сялян, беларус, скончыў 3 курсы Менскага Інстытуту народнае асьветы; адказны працаўнік праўленьня Чэрвенскага раённага таварыства краязнаўства з 1925 г.; вывучае паветраныя ападкі ў г. Чэрвені.

3. *Крукоўскі, Аляксандр Язэпавіч* (Мазыр), 28 г., канд. КП(б)Б, настаўнік, старшыня акруговага праўленьня таварыства краязнаўства, з сялян, беларус, скончыў 9-цімес. лектарскія курсы беларусазнаўства; краязнаўчай працай займаецца з 1924 г.; друкаваўся ў „Нашым Краі", „Савецкай Вёсцы" і інш.; вывучае пераважна прыроднагеографічныя пытаньні Мазыршчыны.

4. *Кулакоў, Тарас Піліпавіч* (Азарычы), 28 г., настаўнік, групавод Азарыцкай сямігодкі, з сялян, беларус, скончыў настаўніцкую школу і аднагадовыя пэдагогічныя курсы; адказным працаўніком праўленьня Азарыцкага раёнага таварыства краязнаўства з 1925 г.; друкаваўся ў „Нашым Краі", Савецкай Беларусі", „Зьвязьдзе" і інш. вывучае пераважна пытаньні грамадзка-экономічнага і культурна-гістарычнага стану Мазыршчыны.

5. *Купрэвіч, Васіль Тофілевіч* (Смалявічы), 32 г., настаўнік, выкладае прыродазнаўства ў Смалявіцкай беларускай сямігодцы, з сялян, беларус, скончыў 2 курсы фізычна-матэматычнага факультэту Гельсінгфорскага Ун-ту і Смаленскае с.-г. вучылішча; краязнаўствам займаецца з 1924 г., адказным працаўніком Смалявіцкага раённага таварыства краязнаўства з 1925 г.; друкаваўся ў „Асьвеце", „Нашым Краі", „Чырвонай Зьмене" і інш.; вывучае фаўну і флёру мясцовага краю.

6. *Ламака, Мэтоды Антонавіч* (Магілеў), 37 г., настаўнік, выкладчык беларускай мовы і літаратуры ў Магілеўскім дзяржаўным зямляўпарадкавальным тэхнікуме, з сялян, беларус, скончыў Вышэйшыя курсы беларусазнаўства; краязнаўствам займаецца з 1924 г., адказным працаўніком Магілеўскага акруговага таварыства краязнаўства з 1925 г.; друкаваўся ў „Весьніку НКА", „Асьвеце", „Нашым Краі", „Магілеўшчыне", „Савецкай Беларусі", „Магілеўскім Селяніне" і інш.; вывучае пераважна этнографію і гісторыю мясцовага краю.

7. *Мацьвяёнак, Іван Кузьміч* (Магілеў), 29 г., настаўнік, член КП(б)Б, выкладчык Магілеўскага пэдагогічнага тэхнікуму, з сялян, беларус, вучыцца на Пэдфаку; адказным працаўніком праўленьня Магілеўскага акруговага таварыства краязнаўства з 1924 г.; друкаваўся ў „Магілеўшчыне", „Нашым Краі", „Савецкай Беларусі", „Магілеўскім Селяніне" і інш.; вывучае пераважна гісторыю мясцовага краю і зьбірае краёвы слоўнік.

8. *Мікалаеў, Аляксандр Мікалаевіч* (Гомель), 56 г., навуковы працаўнік, служыць у Гомельскім дзяржаўным музэі, з сялян, беларус, скончыў Вайсковую акадэмію; краязнаўствам займаецца з 1924 г.; адказны працаўнік праўленьня Гомельскага акруговага таварыства краязнаўства з 1927 г.; друкаваўся ў „Кооператоре", „Полесской Правде",

„Эконом. очерке Гомельской губ.“ і інш.; член т-ва статыстыкаў-марксыстых пры Комуністычнай Акадэміі РСФСР; вывучае пераважна экономіку мясцовага краю.

9. *Мікалаеў, Трафім Сямёнавіч* (Касьцюковічы), 45 г., настаўнік, загадчыкам Касьцюковіцкай сямігадовай школы, з сялян, беларус, мае годнасьць настаўніка матэматыкі і выкладчыка сьпеваў, вучыцца на фізычна-матэматычным факультэце, адказны працаўнік праўленьня Касьцюковіцкага раённага таварыства краязнаўства, друкаваўся ў часоп. „Наш Край“; вывучае пераважна этнографію мясцовага краю.

10. *Мікіцінскі, Усевалад Мікалаевіч* (Слуцак), 46 г., работнік мастацтва, з чыноўнікаў, беларус; скончыў спэцыяльную школу маляўніцтва і гарадзкое вучылішча; краязнаўствам займаецца з 1922 г., адказным працаўніком Слуцкага таварыства краязнаўства з 1925 г.; друкаваўся ў „Нашым Краі“, „Вясковым Будаўніку“, „Савецкай Беларусі“ і інш. вывучае пераважна этнографію Случчыны.

11. *Мялешка, Сяргей Міронавіч* (Полацак), 28 г., настаўнік, выкладчык Полацкага пэдагогічнага тэхнікуму, з рабочых, беларус, скончыў Пэдагогічны факультэт Унівэрсытэту; адказным працаўніком праўленьня Полацкага акруговага таварыства краязнаўства з 1925 г.; друкаваўся ў „Чырвонай Полаччыне“, „Савецкай Беларусі“ і інш.; вывучае пераважна гісторыю і этнографію мясцовага краю.

12. *Немцаў, Алесь Гаўрылавіч* (Асіпавічы), 30 г., настаўнік Асіпавіцкай чыгуначнай сямігодкі, з рабочых, беларус, скончыў настаўніцкую сэмінарыю, адказным працаўніком праўленьня Асіпавіцкага раённага таварыства краязнаўства з 1925 г.; друкаваўся ў „Нашым Краі“, „Мироведении“, „Асіпавіцкім раёне“, „Савецкай Беларусі“ і інш.; вывучае этнографію мясцовага краю.

13. *Нікіфаровіч, Сьцяпан Піліпавіч* (Барысаў), 39 г., настаўнік, выкладчык Барысаўскага пэдагогічнага тэхнікуму, з сялян, беларус, скончыў настаўніцкі інстытут; адказным працаўніком праўленьня Барысаўскага таварыства краязнаўства з 1924 г.; друкаваўся ў „Нашым Краі“, „Нашым раёне“ і інш.; вывучае пераважна прыродна-географічныя пытаньні мясцовага краю.

14. *Нікольскі, Леонід Зьмітравіч* (Віцебск), 52 г., настаўнік, працуе выкладчыкам Віцебскага пэдагогічнага тэхнікуму і загадчыкам ботанічнага саду дзяржаўнага вэтэрынарнага інстытуту, сын каморніка, вялікарус, скончыў Акадэмію, вывучае флёру мясцовага краю з 1919 г., членам Віцебскага таварыства краязнаўства з 1924 г.; друкаваўся ў „Естествознание в школе“, „Віцебшчыне“ і інш.; мае асобнае выданьне „Афонские стенописи“ 1905 г.

15. *Пяцэвіч, Рыгор Андрэевіч* (Лучнікі), 51 г., настаўнік, загадчык Лучнікоўскай сямігодкі, з сялян, беларус, скончыў настаўніцкі інстытут, адказным працаўніком праўленьня Слуцкага таварыства краязнаўства з 1927 г.; друкаваўся ў „Нашым Краі“; вывучае пераважна этнографію.

16. *Салаўёў, Павал Тодаравіч* (Горкі), 52 г., навуковы працаўнік, профэсар зоолёгіі Дзяржаўнай с.-г. акадэміі, сын патом. пачот. грамадзяніна, вялікарус, скончыў фізычна-матэматычны і мэдычны факультэты Унівэрсытэту; краязнаўствам займаецца з 1922 г., друкаваўся ў розных беларускіх, расійскіх і замежных навуковых выданнях, „Нашым Краі“, „Савецкай Беларусі“, Зьвязьдзе“, „Известиях ЦБК“; член—заснаваўца Горацкага раённага таварыства краязнаўства; вывучае фаўну мясцовага краю.

17. *Славін, Цадзік Якубаў* (Бабруйск), 41 г., настаўнік, бібліотэкар, служыць загадчыкам Бабруйскага краёвага музэю, які сабраў і організаваў, з рабочых, яўрэй; член праўленьня Бабруйскага акруговага таварыства краязнаўства; спэцыялізаваўся як працаўнік краёвага музэю.

18. *Уладзіміраў, Уладзімір Канстантынавіч* (Нова-Барысаў), 32 г., настаўнік, выкладчык 7-ай Нава-Барысаўскай сямігодкі, з сялян, беларус, скончыў настаўніцкую сэмінарыю, вучыцца на Пэдфаку; краязнаўствам займаецца з 1913 г., членам Барысаўскага таварыства краязнаўства з 1925 г., член Усерасійскага таварыства аховы прыроды і францускага таварыства астрономіі; друкаваўся ў „Нашым Краі“, „Нашым раёне“, „Охране Природы“ і інш.; вывучае пераважна прыроду мясцовага краю.

## Інформацыі.

*Зьбіткоўскі.* Мая прапанова да краязнаўцаў у мэтах пашырэньня вытворчага краязнаўства, уцягнэньня ў гэтую працу сялян удасканаленьня школьна-краязнаўчай працы і г. д. распаўсюдзіць шаўкоўніцтва ў БССР. Ім магчыма займацца там, дзе расьце морва. З 1925 г. гэтае пытаньне пільна вывучаецца ў умовах БССР. У Гомельшчыне пасадкі належаць выключна сялянам. Неабходна, каб сяляне зьвярнулі ўвагу на скарыстаньне яго і ў мэтах шаўкоўніцтва. На Беларусі ў мінулым годзе ўжо рабілася вывадка і выкармка чарвы. Пры Унівэрсытэце ёсьць гурток шаўкоўніцтва. Трэба краязнаўчым організацыям наладзіць пасадку морвы пры школах, агропунктах. Я зьвяртаюся да вас з просьбай паведамляць аб тых асобах, якія згодны заняцца гэтай справай—выкармкай чарвы.

*Ляўданскі.* Нядаўна атрымана паведамленьне аб Усесаюзным Археолёгічным зьезьдзе. Такіх зьездаў ужо ня было 17 год. Ён падагульніць усё зробленае за апошнія гады і вызначыць шлях працы. Просьба да краязнаўцаў паведаміць аб усім зробленым у галіне археолёгіі і даць гэта на выстаўку, якая будзе наладжана зьездам. Мы на месяцы разашлем найлепшыя інструкцыі, якія, дапамогуць падабраць матар'ял. Да зьезду

нам трэба падлічыць усе помнікі і праз краязнаўчыя організацыі мы спадзяемся атрымаць найлепшыя весткі.

*Касьпяровіч*. Ад імя катэдры Этнографіі я прашу краязнаўчыя організацыі, калі будуць прысланы Вам анкнты аб відах лапцёў, аб цапох і ганчарнай вытворчасьці, пераслаць анкеты па школах, гуртках і інш.

*Цьвікевіч*. Ад імя камісіі гісторыі асьветы ў БССР я маю просьбу да краязнаўцаў. Камісія працуе ўжо 2-і год. У мінулым годзе мы зьмясьцілі ў „Нашым Краі" адозву і інструкцыю, як вывучаць гісторыю асьветы на Беларусі. Мы атрымалі некаторыя матар'ялы з Слуцку, з Украіны. Ад іншых організацый няма вестак. Нам хацелася-б больш мясцовых сіл уцягнуць у гэтую працу. Часта такія матар'ялы на мясцох ёсьць але аб іх не паведамляюць. Усё, што трэба зрабіць у гэтым напрамку, падрукавана ў „Нашым Краі".

*Крукоўскі*. На адным з пленумаў ЦБК мы абмяркоўвалі пытаньне аб пашырэньні падпіскі на час. „Наш Край". Я заклікаю ўсіх удзельнікаў конфэрэнцыі падпісацца на „Наш Край".

*Зайцаў* (УССР). З вялікім здавальненем я слухаў і вычыўся ў вас. Вялікі матар'ял здабыў я ад Вас, вашыя досьледы мы выкарыстаем у сваёй працы. Настрой у Вас бадзёры. Мы з пільнай увагай будзем сачыць за Вашай працай і вашым далейшым разьвіцьцём. Я думаю, што шляхі краязнаўства УССР і БССР будуць усё шчыльней і шчыльней сходзіцца. Заўтра я ад'яжджаю. Бывайце здаровы! (аплёдысмэнты).

*Казак* (заключная прамова перад зачыненьнем конфэрэнцыі).

Наша праца вялася на працягу 6 дзён. За гэты час мы зрабілі значную працу. Мэтодычныя пытаньні намі ўважліва разгледжаны і вырашаны. У організацыйнай частцы конфэрэнцыі мы паказалі стан краязнаўчай працы ў БССР. Гэтая праца ў нас ня пустое месца. За два апошнія гады зроблена значная праца, нам ёсьць аб чым гаварыць, ёсьць магчымасьць абгрунтаваць свае дамаганьні. Мы знайшлі важны момант у сваёй працы— паглыбленьне дасьледчай працы краязнаўчых організацый. Мы зараз павінны перайсьці ад зьбіральніцкай і організацыйнай чыннасьці да паглыбленай дасьледчай працы. Вырашэньне на конфэрэнцыі пытаньня аб падрыхтоўцы краязнаўцаў дапамагае гэтаму. Наш далейшы шлях—сувязь краязнаўчая руху з працай Акадэміі Навук. Трэба ўмацаваць гэтую сувязь. Традыцыю гэту трэба захаваць і берагчы. Значэньне нашай конфэрэнцыі павялічваецца і тым, што ўдзел у ёй прыймаюць прадстаўнікі УССР і РСФСР. Ад імя конфэрэнцыі дазвольце іх дзякаваць за гэта (аплёдысмэнты). Таксама дазвольце выказаць ўпэўненасьць, што сувязь мясцовых працаўнікоў, якія былі на конфэрэнцыі, з ЦБК у далейшым будзе захавана і пастановы, якія прыняла конфэрэнцыя, мясцовымі працаўнікамі і ўсімі нашымі краязнаўчымі організацыямі будуць выкананы. Абвяшчаю II Ўсебеларускую Краязнаўчую Конфэрэнцыю скончанай.

**Сьпіс удзельнікаў II Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі.**

У. Ігнатоўскі (БАН), М. Бялуга (БАН), Б. Эпімах-Шыпіла (БАН), І. Сербаў (БАН) Цітоў (ЦСУ), А. Зьбіткоўскі (БДЗУ), В. Маеўскі (БАН), І. Ярмашэвіч (БАН). К. Даукша (БАН), А. Казак (ЦБК), М. Касьпяровіч (ЦБК), З. Бядуля (ЦБК), С. Жураўскі (ЦБК), А. Шашалевіч (ЦБК), Г. Аляксандраў (ЦБК), Матулайціс (БАН), Гэршман (ЦКЛКСМ), М. Таўкачоў (Бабруйскае акр. т-ва краязнаўства), Д. Васілеўскі (Арш. акр. т-ва), І. Калодкін (Арш. кар. т-ва), Мікалаеў (Гомельскае акр. т-ва), А. Крукоўскі, З. Мельцар, І. Лакін (Мазырскае акр. т-ва), М. Ламака, Я. Бычкоў, Сташэўскі, М. Мацьвяёнак (Магілеўскае акр. т-ва), Селівановіч, А. Рабцэвіч, М. Валасэвіч, Сеўрук, А. Сабаўлеўскі, І. Навуменка, І. Пісарчык (Менскае акруг. т-ва), П. Тараймовіч (Бабруйскае акр. т-ва), Я. Варпаховіч (Віцебскае акр. т-ва), С. Мялешка Полацкае акр. т-ва), Д. Зайцаў (Украінскі Комітэт краязнаўства), А.Сэгаль (ЦБК РСФСР), А. Лазарыс (Ціміразеўскі Н. Д. Інстытут), Г. Вінаградаў (БДЗУ), В. Халмоўскі (Рагач. р. т-ва), Т. Гурыновіч (Старобінск. р. т-ва), Я. Паўлоўскі (Клічаўскае р. т-ва), У. Мікіцінскі (Слуцк. р. т-ва), М. Руткоўскі (Вушацкае р. т-ва), Я. Дамарацкі (Прапойскае р. т-ва), М. Барадзёнак (Лёзьнянскае р. т-ва) С. Айзэнштэйн (Кармян. р. т-ва), П. Кузьняцоў (Багушэўскі р. т-ва), С. Восін (Круглян. р. т-ва), Х. Іваноў (Чашніцкае р. т-ва), А. Ждановіч (Кохан. р. т-ва), Р. Курбыка (Глускае р. т-ва), Т. Шыбко (Узьдзенск. р. т-ва), М. Лебедзеў (Лельчыцк. р. т-ва, М. Рубан (Сьвіслацк. р. т-ва), Я. Гарбачэнка (Церахоўскае р. т-ва), М. Тамкоўскі (Бягомльск. р. т-ва), М. Мельцар (БДЗУ), І. Купрэеў (Уваравіцк. р. т-ва), А. Шульц (Халопен. р. т-ва), Хв. Макараў (Езярышч. р. т-ва), Я. Касьпяровіч (Ветрынск. р. т-ва), Ц. Паляшчук (Тураўск. р. т-ва), М. Сакалоў (Краснап. р. т-ва), А. Адзярыха (Б. Кашалеўск. р. т-ва), В. Тарлоўскі (Жыткавіцк. р. т-ва), М. Гарасімовіч (Вульскае р. т-ва), К. Клімянкоў (Чавускае р. т-ва), С. Велішчанскі Рагач. р. т-ва).

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**

Рэдактар—**З. Бядуля.**

# ЗЬМЕСТ.

Цана 50 кап.



**ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1929 г.**

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, програмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

**У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:**

М. Азбукін, Г. С. Аляксандраў, А. Аніхоўскі, К. Атраховіч, Н. Быва-еўскі, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, Д. Васілеўскі, І. Віткоўскі, Проф. Васількоў, М. Грамыка, Г. Гарэцкі, М. Гарэцкі, А. Ганжын, Зьм. Даўгяла, В. Дружчыц, С. К. Жураўскі, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Я. Каранеўскі, Кіпель, М. Кіркевіч А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, Я. Кісьлякоў, М. Касьпяровіч, Купрэвіч, М. Ламака, В. Ластоўскі, Макарэўскі, Д-р Магілеўчык, Мацьвяёнак, У. Мікіцінскі, М. Мялешка, Натальлін, С. Нікіфаровіч, А. Нямцоў, Г. Парэчын, Проф. В. Пераход, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў, В. Самцэвіч, П. Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, Я. Траяноўскі, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. У. Фядзюшын, Е. Цехановіч, А. Шашалевіч, Ал. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, Проф. Яцанткоўскі і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| На год . . | 4 р. — к. | На 3 м-цы | 1 р. 25 к. |
| На паўгода | 2 р. 25 к. | На 1 месяц | — р. 50 к. |

**Гадавым падпісчыкам выдаецца прэмія — „АСІПАВІЦКІ РАЁН“, выпуск II — узорнае краязнаўчае апісаньне сельсавету, мястэчка і вёскі. Кніжка патрэбная для працы кожнага краязнаўцы, настаўніка і палітасьветпрацаўніка.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ў рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, Рэволюцыйная, № 21, Ц. Б. Краязнаўства), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.

„НАШ КРАЙ“ прадаецца: ў Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.

Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнаўства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1928 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў у 30% — за 10 руб.

**Апрача гэтага ў ЦБК прадаюцца:**

„Працы І Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
„Працы ІІ Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
Асіпавіцкі Раён — першы выпуск — 2 р.
Асіпавіцкі Раён — другі выпуск — 80 к.